УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
С38

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 112.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

Аўтар выказвае падзяку
Міжнароднаму дому пісьменнікаў і перакладчыкаў
(Вентспілс) і асабіста Еве Балодэ
за магчымасць працы над гэтай кнігай.

**Сін, І.**
С38 Libido / Ільля Сін. 2-е выд. — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 140 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 112).
ISBN 978-985-7227-10-5.

Марыя жыве ў правінцыйным постсавецкім горадзе, насельнікі якога ізаляляваныя ў сваіх камерах-адзіночках – разам з успамінамі, траўмамі мінулага і штучнымі каханкамі. Недзе на перыферыі іх свядомасці паступова распальваецца грамадзянскі канфлікт, але пакуль ніхто на яго не зважае. Марыя прадчувае: нешта неўзабаве павінна адбыцца...

Гэта першая кніга Ільлі Сіна, у якой ёсць такія ўласцівасці прозы, як герой і сюжэт.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7227-10-5**

*All those who worship*
*The broken demons of the past*
*Are in love with the dead*
**Death in June.** Lifebooks

*Усе тыя хто пакланяецца*
*Зламаным дэманам мінулага*
*Кахаюцца з мерцвякамі*
**Death in June.** Кнігі жыцця

Некалі вузкакалейка матляла паміж раскіданымі ў ваколіцах горада шахтамі і заводамі, але цяпер адзіны яе ацалелы ўчастак выкарыстоўваецца толькі для забавы ў парку адпачынку.

Марыя папраўляе сваю кандуктарскую фуражку і пасміхаецца, скасоўваючы квіткі, працягнутыя вусатым айцом сямейства. Ужо восень, гэта адзін з апошніх рэйсаў, і вагончыкі напаўпустыя.

Нечакана яркія промні кастрычніцкага сонца трапляюць ёй у вочы, і даводзіцца прымружвацца.

Рабаціністы хлопчык злізвае кроплі лёдава з вуснаў. Цяпер яны сталі не толькі пульхнымі, але і клейкімі.

Пасажыры расселіся па сваіх месцах. Марыя дзьме ў свісток, і праз колькі імгненняў амаль цацачны паравозік кранаецца з месца, пыхкаючы прыемным саладжавым дымам.

Колы кратаюцца паволі, нібы неахвотна, але неўзабаве ўваходзяць у роўны спакойны рытм – бы кардыяграма задаволенага жыццём пенсіянера. Марыя на нейкі час паддаецца гіпнатычнаму эфекту, ад чаго яе твар набывае яшчэ большую ўрачыстасць – цалкам адпаведную ролі.

Праз нязлоснае, амаль жывое чуханне даносіцца смех. Нехта ўголас чытае на пакунку чыпсаў склад прадукту па-казахску.

Вагончыкі прамінаюць масток па-над невялічкім каналам і неўзабаве губляюцца паміж паўпразрыстых

сцен непралазнага гаю (гэтая частка парку паспела зарасці ўшчэнт). Потым сонца з'яўляецца зноў: паравозік ускараскаўся на схіл.

Марыя пэўны час не адчувае нічога, і гэта прыемна.

Неўзабаве кола скончыцца, цягнічок прыбудзе да цацачнага перону, Марыя пачакае, пакуль задаволеныя пасажыры выгрузяцца на платформу, пасміхнецца на развітанне кожнаму з іх, скажа кожнаму “да пабачэння”, пераапране свой шыкоўны мундзір на звычайныя джынсы ды швэдар і будзе паўгадзіны трэсціся ў перапоўненай маршрутцы.

Гэта, напэўна, апошні сёлета сонечны дзень і апошні дзень яе працы. На зіму давядзецца ўладкоўвацца прадавачкай альбо прыбіральшчыцай.

Па дарозе дадому Марыя зойдзе ў краму, каб набыць недарагіх сасісак і пачак цыгарэт. Дома яе, вядома, ніхто не чакае. Будзе да ночы сядзець ля вакна, узгрувасціўшы ногі на батарэю, піць гарбату і паліць адну за адной.

У гэтым горадзе яе ніхто не ведае, і гэта добра.

Чыгуначную каляіну перабягае ці то палёўка, ці то пацук, і дзятва ледзь не выкідваецца з вагонаў ад захаплення.

Ідэальна круглая пройма ў асфальце. Шахта люка ўжо паспела напоўніцца розным лайном. Што і нядзіўна, бо чыгунную накрыўку здалі на металалом не адзін год таму.

У асноўным гэта абгорткі і пластыкавыя бутэлькі. Але не толькі, ёсць і нешта куды цікавейшае.

Дванаццаць гадоў таму шкаляры Жэка і Вака скінулі ў люк знойдзены непадалёк на сметніцы гіпсавы бюсцік Леніна – выключна з пазнаваўчых мэтаў.

Цяпер Жэка працуе наглядчыкам у мясцовай калоніі. Ён трохі распаўнеў пасля таго, як ажаніўся, але б'е па-ранейшаму з левай.

Шахта выявілася неглыбокай, гіпс з плюханнем акунуўся ў застаялую ваду. Праз пэўны час дыфузія зрабіла сваё: цвёрдае цела пераўтварылася ў аморфнае і пастападобнае. Яно ўсмактала ў сябе набраклую тушку мёртвага ката (на наступны год кінутую ў люк хлопчыкамі з паралельнага класа), і ў выніку дзве абсалютна розныя рэчы сталі нечым адным.

Усе гэтыя цікавыя хімічныя працэсы адбываліся ў поўнай цемрадзі, бо нейкі руплівец закрыў адтуліну самаробным шчытом з негабляваных дошак. Праз пэўны час шчыт прагніў ды абрынуўся, і смецце стала ізноў трапляць у люк – з розных прычынаў і з розных крыніцаў.

Марыя праходзіць міма люка, гледзячы некуды наўзбоч, у вышыню. Галінкі чахлых таполяў паабапал дарогі ўжо амаль пазбаўлены лісця, іх чорная павута выразна прамалёўваецца на тле шэрага вечаровага неба.

На пліце закіпае вада для макароны. На кухонным стале ляжаць іншыя кампаненты будучай сціплай вячэры – плаўлены сырок і самотная сардэлька. Ёсць яшчэ палова ўчорашняй цыбуліны ды счарсцвелы хлебны акраец.

Усе элементы гэтага нацюрморту нібы ўвасабляюць марнасць і вырачанасць любога руху. Як, зрэшты, і краявід за вакном: такія самыя падрапаныя панэльныя дамы, як і той, дзе жыве Марыя. Кожны з іх мае ўласны нумар, выведзены чырвонай фарбай, бы лічбы на сэрцы.

Марыі часта здаецца, быццам з вышыні птушынага палёту гэтыя дамы выглядаюць як забытыя ў пясочніцы цацкі: дзеці даўно ўжо выраслі, сталі піць піва і нюхаць клей, скончылі ПТВ, ажаніліся і развяліся, а цацкі ўсё яшчэ ляжаць у пясочніцы, падуладныя розным стыхіям. Нібы самае ўпартае і недарэчнае з усіх магчымых увасабленняў стабільнасці.

Па іроніі лёсу, гэтыя пяціпавярхоўкі з'явіліся тут некалі менавіта як прыкмета руху, імклівага і бяздумнага ў сваёй жывёльнай вітальнасці. Горад вырас амаль што ў біблійных тэмпах. У панядзелак узніклі рыдваны пад новыя заводы, у аўторак з зямлі павылазілі жылыя мікрараёны, у сераду – крамы і дамы культуры, а ў суботу міліцыянеры ўжо запхнулі ў кутузку першага мясцовага алкаша, які акрапіў мачой тыльны бок свежапафарбаванай дошкі гонару – на яе акурат у нядзелю планавалі павесіць першыя партрэты перадавікоў.

Але натварыўшы тут справаў, рух вырушыў некуды далей, пакінуўшы за сваёй патыліцай незваротна

сапсаваны ім прыродны ландшафт і пару соцень тысяч ягоных ачумелых насельнікаў, што і пасюль марна сіляцца зразумець, як і навошта яны тут апынуліся.

Марыя тут не нараджалася. Пяць гадоў таму яна выбрала гэты горад наўгад, тыцнуўшы пальцам у тэлефонны даведнік. Бо трэба было кудысьці ехаць і дзесьці жыць.

Горад сустрэў яе абыякава. Была непераканаўчая ранняя вясна, вецер разносіў па прывакзальным пляцы пажухлае лісце, свежую прэсу ды іншае дробнагабарытнае смецце. На адным з шапікаў красаваў надпіс пра распродаж гумовых ботаў. Бетонны пашчэрблены правадыр з вышыні свайго пастамента кпліва назіраў за мітуснёй гандляроў рыззём, якія бавілі час у млявых сварках.

Свінцовыя аблокі раптам перарэзаў след ад рэактыўнага самалёта, і гэтыя падзеі ў вышніх сферах выглядалі на сапраўдны здзек з тых, хто апынуўся пад непераадольнай уладай зямнога прыцягнення.

Асфальт пакрыты тонкай сеткай капіляраў. Дзяўчына фарбуе вусны, углядаючыся ў свой адбітак на пыльным футарале з “переходящим знаменем”. Дошка гонару з белымі прагаламі замест партрэтаў. На паржаўленай будцы аўтобуснага прыпынку красуе расплавінены рэкламны слоган “І ўсё”.

Кожная з дэталяў існавала нібы аўтаномна, нібы вылучаная з агульнага плану светабудовы. Рухалася ў нейкім сваім адасобленым рытме, хіба чыста механічна сінхранізуючыся з усім астатнім – альбо гэтаксама адасоблена захоўвала гордую непарушнасць.

Марыя адразу адчула сябе адной з такіх дэталяў, і гэта было акурат тое, чаго яна хацела.

З таго часу тут мала што змянілася. Адное, кожная дэталь дарэшты страціла для яе вастрыню ўспрыняцця, пакрылася наростам успамінаў – як аскепкі шкла,

што ладны час праляжалі ў рацэ, – а затым і наогул перастала быць заўважнай і хоць неяк адзначацца вокам. Абыходзячы запоўненую вадой выбоіну ў асфальце на шляху да яе пад'езду, Марыя нават не глядзела ў той бок, беспахібна абіраючы на аўтапілоце правільную траекторыю руху.

Болей за тое, гэткую самую рэакцыю пачалі выклікаць у яе і новыя, пакуль незнаёмыя дэталі. Напрыклад, купкі нехайна апранутых людзей, якія ледзь не штодня збіраліся на заўсёды пустэльнай раней цэнтральнай плошчы горада, крычалі нейкія лозунгі, палілі вогнішчы, доўга і нервова спявалі забытыя Марыяй яшчэ ў дзяцінстве песні.

Нягледзячы на свой тлумны выгляд, яны выдатна ўпісаліся ва ўжо існы ландшафт. Як быццам масоўка з бутафорскімі шаблямі і на драўляных конях, што даўно чакала выхаду на сцэну за кулісамі камернай побытавай драмы.

...Між тым у алюмініевым рондалі нарэшце з'явіліся бурбалкі. Хоць нейкая падзея! Марыя засыпае туды соль і макарону, змяншае агонь, доўга памешвае пашчэрбленай драўлянай лыжкай, апускае накрыўку і вяртаецца на сваё месца каля вакна. Цяпер трэба зноў чакаць.

Яна так і не змагла прызвычаіцца да чакання.

Паверхам вышэй, у такой самай аднапакаёўцы, Толік разгладжвае пальцамі зморшчыны на сваім твары. Сёння ўвечары ён чамусьці наўздзіў задуменны – тормаз, як сказаў бы ягоны малодшы сын. Ды і праца нешта не спорыцца.

Пакрыты газетамі стол асветлены настольнай лямпай. На ім – паяльнік, кавалкі дроту рознай даўжыні, пласкагубцы, малаток, піўныя коркі.

На сцяне насупраць – рэпрадукцыя акварэлі, дзе выяўленыя птушкі розных відаў, колераў і памераў. Там снегіры, сініцы, глушэц, кнігаўка і разам з імі чамусьці канарэйка. Жанравы характар сцэнкі, у якой яны ўсе ўдзельнічаюць, можа вызначыць хіба спрактыкаваны арнітолаг.

Толік упэўнены, што аўтарам твору з’яўляецца Шышкін, хаця і не мае дакументальных таму пацвярджэнняў.

Ягоны сябра Паша Штыр кажа: дурань ты, Шышкін маляваў толькі мішак. А гэта Васняцоў. Аднойчы яны ледзь не пабіліся.

Задача Толіка – перавесці плоскасную выяву ў аб’ём, выкарыстоўваючы ў якасці матэрыялу для сваёй скульптуры выключна бляшаныя коркі ад піўных пляшак. Над гэтай кампазіцыяй ён працуе ўжо шосты год, і яна дасюль яшчэ далёкая да завяршэння.

Ён просіць коркі ў калег, з якімі п’е піва ў скверы ля прахадной, і вельмі крыўдуе, калі нехта забываецца ды выкідае кругляшы ў сметніцу. Пасля працы заходзіць у танныя піўнухі, дзе піва прадаюць у пляшках. Часам нават падымае коркі з асфальту ды ўпотайкі кладзе ў кішэню.

Потым трэба сагнуць кожны з іх пласкагубцамі, а затым пафарбаваць у чорны колер.

Чамусьці Толік вырашыў, што ягоны твор будзе мець толькі адзін колер – чорны. Хаця на акварэлі птушкі блакітнаватыя, белыя, памаранчавыя, светла-ліловыя, жоўта-брунатныя…

Два снегіры, канарэйка і сініца ў яго ўжо гатовыя – яны размясціліся на сваіх галінках, зробленых з дроту. Другая сініца – якая, паводле сюжэта, відавочна мае пэўныя непаразуменні з першай, – адразу не атрымалася, і давялося яе перарабляць.

Толік бярэ корак пласкагубцамі, згінае яго роўна напалам, акунае ў міску з чорнай фарбай і, калі ён высыхае, ахайна прыладжвае да галавы сініцы. Гэта будзе аснова яе дзюбы. Трэба ўпаяць яшчэ пару коркаў упоперак, каб яна стала дастаткова трывалай.

Рукі трохі дрыжаць, але стараннасць прыносіць свой плён.

Новая тэхніка была засвоеная ім самастойна. На зоне адзін з сукамернікаў падахвоціў яго да творчасці, і скульптуркі з хлебнай мякіны ў Толіка атрымліваліся лепей, чым у каго яшчэ. Але такі падатлівы матэрыял хутка яму надакучыў, і аднойчы ён выкарыстаў усю калекцыю сваіх твораў у якасці закусі.

Толік прымружвае вочы і прыдзірліва ацэньвае той прагал, што месцамі ўтварыўся паміж двума коркамі. Затым бярэ лупу, уважліва ўглядаецца. Павагаўшыся, усё ж вырашае не перарабляць.

У дзірцы паміж зубамі захраснуў нейкі кавалак вячэры. Толік бярэ запалку, адкусвае кончык, калупаецца ў роце. Рука праходзіцца па шурпатай, даўно няголенай шчацэ.

Толік сам разумее, што ён дрэнна пахне. Але нічога не застаецца, як з гэтым змірыцца.

Потым згінае пласкагубцамі яшчэ адзін корак, аднак прыкладзеная ім сіла аказваецца празмернай і бляха трушчыцца.

Цішыня, што даўно панавала ў кватэры, раптам парушаецца голасам Толіка. Ён не любіць музыкі і ніколі не ўключае радыё. А калі свядомасць патрабуе нейкіх гукаў, пачынае гаварыць сам з сабою.

Зазвычай ён дае парады сваёй жонцы, якая сышла ад яго яшчэ сямнаццаць гадоў таму. Больш-менш спакойна, але даволі грозна тлумачыць ёй прынцыпы добрага гаспадарання. Кажа пра тое, што абіраць бульбу вялікім нажом – неаканомна. На шалупінні застаецца шмат карыснага прадукту.

Кожную сваю навуку – якой бы строгай яна ні была – Толік абавязкова завяршае пяшчотным кампліментам. Сёння ён называе жонку "сінявокай сінічкай і балбатлівай...".

Гаварыць яму раптам надакучвае, ён абрывае камплімент на паўслове ды працягвае сваю працу моўчкі. На гадзінніку яшчэ толькі дзевяць, раней за дванаццаць ён не засне. Трэба нешта зрабіць з гэтым часам.

Бярэ пласкагубцы і чарговы корак, пачынае яго згінаць. Акунае ў фарбу, чакае, пакуль падсохне, прыладжвае да дзюбы. Вялікія шурпатыя пальцы няўклюдна спраўляюцца з такой далікатнай працай. Корак доўга не хоча замацоўвацца на адведзеным яму месцы. Некалькі разоў адвальваецца, падае на падлогу. Але ўпартасць усё ж бярэ сваё.

Праз пэўны час Толік чуе на кухні нейкі шум. Як быццам нехта імкнецца пранікнуць туды праз вакно. Альбо грукае ў шыбу, просячы дазволу ўвайсці.

Толік адрываецца ад працы ды ўслухоўваецца. Сэрца пачынае біцца трохі часцей у прадчуванні падзеі. Але, вядома ж, яно не спраўджваецца: нічога не адбылося. Проста грымнула прыадчыненая фортка.

На кухні неспадзеўкі сцямнела. Марыя пстрыкае запальнічкай. Полымя на імгненне асляпляе яе, угрызаючыся ў сятчатку вока. Потым эфект знікае. Марыя пстрыкае запальнічкай у другі раз. Цяпер светлавы шок ужо не такі моцны – сятчатка паспела трохі адаптавацца.

Марыя думае пра Іншага, з'яўленне якога здатнае зрабіць няважнымі брудны посуд у мыйніцы, парыжэлы ліналеум на кухні і шызае святло, што сочыцца цераз праймы паміж планкамі жалюзі.

Іншы паўстае ў яе ўяўленні не як канкрэтны вобраз, але як нейкае прадчуванне, эмацыйная хваля. Як, напрыклад, *дом*. У Марыі ўжо даўно няма дома, і таму ён таксама з'яўляецца для яе недатыкальнай эмацыйнай хваляй.

Адзінота стала ейным выбарам і адначасова выпрабаваннем. Але Марыі хочацца выкарыстоўваць яе як інструмент – своеасаблівы разец скульптара, здатны надаць эмацыйнай хвалі выразныя абрысы. Спакваля адсякаць лішняе, каб з бясформеннай масы сталі вымалёўвацца ручкі, ножкі, галоўка. Каб урэшце гэтая маса набыла аблічча чалавека – іншага чалавека, які будзе заўсёды побач.

Але яна ўжо ведае, што адзінота – гэта дрэнны сродак для пераўтварэння сусвету. Такі інструмент абсалютна нефункцыянальны.

Марыя ненадоўга замірае, услухоўваючыся ў мернае пагрукванне накрыўкі рондаля на пліце, што раз-пораз уздрыгвае ад пары.

Адзінота здатная адно зрабіць гэты свет яшчэ больш аморфным – нават тыя яго праявы, якія маюць пэўныя абрысы і могуць быць памацаныя рукамі.

Схамянуўшыся, Марыя ўстае, разгублена топчацца на месцы. Затым ідзе ў пакой. Звычайна шлях туды яна пераадольвае за восем крокаў, але гэтым разам атрымалася адзінаццаць.

Па тэлевізары паказваюць канцэрт нейкага гурта. Марыя, як заўсёды, адключыла гук, і таму імпульсіўныя артыстычныя жэсты выглядаюць яшчэ больш смешна. Гітарыст рухаецца па сцэне з такім сур'ёзным выглядам, быццам кожны крок набліжае яго да жыццёвай мэты. Вакаліст выцягнуў уперад правую руку са скурчанымі пальцамі – нібы тапелец, які ў адчаі кліча на дапамогу.

"Што яны ўсім гэтым хочуць сказаць?" – недаўмявае Марыя.

Зрэшты, такім самым адчужаным цяпер падаецца ёй усё, што яна здатная бачыць, прымройваць, успамінаць. Прычынна-выніковыя повязі некуды зніклі, пакінуўшы розныя з'явы нягегла церціся адна аб адну ў бессэнсоўным броўнаўскім руху. Без усялякай надзеі на стыкоўку.

Адзінота ніяк не здатная аднавіць гэтыя повязі, колькі ні намагайся. Гэта амаль тое самае, што склеіць раструшчаную елачную цацку.

Вобраз Іншага ў яе ўяўленні чэзне, расплываецца, знікае.

Макарона тым часам ужо зварылася. Марыя вяртаецца на кухню, выплёсквае на друшляк клейкае месіва, дадае туды сардэльку і сырок. Ідзе ў пакой. Цяпер атрымалася роўна восем крокаў. Есць, не адчуваючы смаку.

Раптам без дай прычыны ёй становіцца смешна. Сардэлька выклікае ў яе непрыстойныя дзіцячыя асацыяцыі, і Марыя тут жа спяшаецца апавесці іх Іншаму, якога хаця б ненадоўга зноў адчувае побач.

Смех праходзіць сам сабою, саступаючы месца пустэчы.

Вакаліст заканчвае спяваць і застывае ў гераічнай позе. Муха, якая паўзе па тэлевізары, захоплена і палюбоўна абмацвае твар куміра сваімі лапкамі.

Гэтай ноччу Марыя прачынаецца ад пранізлівага холаду. Сцюдзёны вецер падступна пранікае праз шчылінкі ў старых аконных рамах, пракрадаецца пад коўдру, пакрывае скуру дробнымі пупырышкамі.

Марыя сціскаецца ў камячок, сілячыся сагрэцца. Устае, апранае на сябе швэдар і цёплыя калготкі. Кладзецца зноў. Стала значна цяплей.

Нерухома ляжыць, стараючыся ні пра што не думаць. Услухоўваецца ў буркаценне ў жываце, адчувае ледзь прыкметны трэмар у мускулах пляча. Ёй прыемна ўсведамляць сябе выключна як сукупнасць розных фізіялагічных працэсаў.

Марыі цяпер вельмі хочацца, каб гэты стан працягваўся і каб далейшае яе перабыванне ў гэтым свеце было недзе на самым памежжы жывой і нежывой прыроды. Біялагічная рэдукцыя ўяўляецца ёй сапраўдным паратункам. Лішайнікі, імхі, на крайні выпадак, амёбы...

Але яна ведае, што ўзяць ды пазбыцца чалавечай сутнасці наўрад ці ўдасца. Хоцькі-няхоцькі гэтае ярмо давядзецца трываць.

Пашчэрблены месяц абыякава паўзе па халодным фіялетавым небе. Дыханне Марыі цяжкае і перарывістае. Пакуль пустэча і непарушнасць, але яна прадчувае: нешта неўзабаве будзе дзеяцца.

Яна ведае, гэта акурат такая ноч, калі мёртвыя ўстаюць са сваіх магілаў. І гэта *яе* мерцвякі. Кожны з іх мае твар. І кожны з гэтых твараў Марыі знаёмы. Пры сустрэчы яна не здолее проста прайсці міма, адвёўшы позірк убок.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі твой горад...*

Успаміны, як заўсёды, прыходзяць без запрашэння. Віно мякка дакранаецца да нёба, а пальцы адчуваюць вострыя канты келіха. Вусны зліваюцца з вуснамі. Па шыферным даху барабаніць дождж – па даху таго дамка з негабляваных дошак, з ганку якога відаць мора.

Рукі абхопліваюць мускулістае каржакаватае цела, шчокі казыча колкае шчэцце...

У гэтую пару, апанаваную бессанню, Марыя можа пераскокваць праз гады і неспадзеўкі апынацца ў іншым месцы, іншым часе і зусім іншых жыццёвых варунках. Перажываць іх бы наяве, губляючы арыентацыю, хто яна і дзе.

Успаміны спараджаюць пякотку ў роце. Кожны з тых момантаў, якія ніколі не вернуцца, упінаецца ў яе цела малюткай іголачкай. Але яна ведае, што боль незваротнага – гэта толькі прэлюдыя.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі тваю вуліцу...*

Здаецца, праз шчылінкі паміж шыбай і рамай разам з ветрам пранікае і іх дыханне. А шоргат дажджу па асфальце прызначаны адно на тое, каб заглушыць і без таго амаль нячутны поступ іхніх ног.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі твой дом...*

Калісьці гэтыя людзі былі Марыі вельмі блізкімі, нейкі час яны нават былі адным з ёю целам.

Але гэта было даўно. Іх целы ўжо канчаткова і незваротна набылі аўтаномнасць. У дадзены момант кожнае з іх, напэўна, бесклапотна спіць, і сніцца гэтым людзям, вядома ж, зусім не Марыя.

У той самы час, калі іх фантомы няўмольна набліжаюцца да яе – бы зомбі ў галівудскіх фільмах.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі тваю кватэру...*

Марыя з жахам углядаецца ў цьмяныя абрысы рэчаў і мэблі, у ноч, у дождж. Яна пачуваецца абсалютна безабароннай.

Ёй карціць залезці пад канапу, скруціцца камячком, запхнуцца ў шафу, павуком павіснуць пад столлю на жырандолі.

А можа, лепей проста прыкінуцца мёртвай?

Але яна разумее, што ад іх не схавацца. Дэманы мінулага ведаюць усе яе хітрыкі, усе слабыя месцы ў яе фартыфікацыйнай сістэме. Марыя адчувае іх няспешны ўпэўнены поступ – ужо зусім блізка.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знайшлі цябе, гатовую ўсікацца ад страху...*

Яны апынаюцца побач з ёю неспадзеўкі, разам і аднначасова. Упэўненыя рукі сцягваюць калготкі, рассоўваюць яе сцёгны, трымаюць за рукі... Зніякавелая і здранцвелая, Марыя не можа нават паварушыцца. Яна не крычыць і не супраціўляецца, адно ціха енчыць сабе пад нос, бы смяротна паранены дэльфін.

Дэманы мінулага могуць рабіць з ёю ўсё, што пажадаюць. І робяць.

Неўзабаве ейнае цела скаланаецца, курчыцца ў канвульсіях, амаль не зрушваючыся з месца. Няголеныя падмышкі ад поту ператвараюцца ў балота.

Перад ёю – твары, твары і твары. Яны змяняюцца, часам наслойваючыся адзін на адзін. Вусатыя, цемнаватыя, спярэшчаныя зморшчынамі... Выраз кожнага з іх удае жарсць, але Марыю гэтым не падмануць.

Яно трывае, здаецца, бясконца. Кожнае імгненне становіцца надзіва пругкім ды эластычным і завісае ў паветры замест таго, каб мякка адысці ў небыццё.

Твары становяцца ўсё больш невыразнымі. Гэта значыць, што прыйшла пара дублёраў. Але сваю справу яны выконваюць таксама старанна.

Марыя, бы лялька, ляжыць на спіне, стараючыся ні пра што не думаць і нічога не ўспрымаць.

– Калі я вынесу ўсіх нябожчыкаў са сваёй памяці? Калі я вынесу ўсіх нябожчыкаў са сваёй памяці? Калі я вынесу ўсіх нябожчыкаў са сваёй памяці? – бясконца шэпча яна, ажно пакуль – нібы паратунак звыш – не прыходзіць крохкі нервовы сон.

Брат Зосіма вяртаецца з начной змены ў сваю маленькую кватэрку на ўскраіне горада. Яшчэ толькі пачынае віднець. Ідзе па пустэльнай незаасфальтаванай вуліцы, насустрач яму трапляюцца толькі двое заблытаных у порах сутак выпівохаў. “Барада, б…я, пайшла”, – чуе ён за спінай.

Знаёмыя людзі называюць яго святошам ці попікам. Незнаёмыя – барадой, мужыком, братэлам.

Позірк выхоплівае смецце, раскіданае паабапал дарогі, карункі, пакінутыя рыфленымі шынамі цяжкіх машын, шчарбіны ў парканах, паўабдзёртыя аб’явы на слупах. Брат Зосіма спыняецца, каб на поўныя грудзі ўдыхнуць ранішнюю свежасць.

Золкавае святло пяшчотна дакранаецца да паверхні вады ў калюжынах, спараджаючы ледзь прыкметнае свячэнне.

Рукі па-ранейшаму пахнуць мазутам, і яму гэта падаецца нават прыемным. У галаве ўсё яшчэ водгулле мернага рокату станкоў.

Калісьці ўзімку пустку на месцы знесенага дома перабягаў заяц.

Прыемны пах гарэння фруктовых дрэваў. Нехта тут дасюль топіць грубку.

Брат Зосіма спыняецца і слухае, як вецер прымушае пакрыўлены дарожны знак бэмцаць аб слуп, да якога ён прымацаваны. Рытмічны малюнак просты, але пры гэтым выкшталцоны і непрадказальны, ніводзін чалавек не здолеў бы яго стварыць наўмысна. Кампазіцыя настолькі ідэальная, што карціць запляскаць у ладкі.

Брат Зосіма калісьці працаваў дыджэем, і ягоным улюбёным стылем быў тэхна. Ён і дасюль не страціў любові да рытму, але – Божай ласкай – навучыўся адчуваць яго значна танчэй. Яму ўжо не трэба гучнасці і насычанасці. Болей за тое, яму ўжо не трэба нават музыкі.

У вокнах двухпавярховага барака запальваецца святло. Матор старэнькага “форда” заводзіцца для прагрэву. “Выходзіць чалавек да справаў сваіх і да работы сваёй да вечара”.

Па-над усім гэтым птушкі. Іх чарада перасякае пасвятлелае неба ды знікае па-за межамі бачнай часткі свету, далікатна сведчачы гэтым пра яго неабмежаванасць.

Дома брат Зосіма ставіць на пліту імбрык, снедае заўчорашняй кашай, ненадоўга застывае перад іконай, жагнаецца, кладзецца ў ложак і працягвае слухаць тэхна. Цяпер гэта налітыя сокам яблыкі, што адзін за адным падаюць у пустэльным садзе.

Калі сэт сканчаецца, ён расплюшчвае вочы. Недзе па той бок шыбы чыркаюць галубы і дзеці. Гэта новы дзень і ўжо зусім новыя гукі.

Па сканчэнні малітвы брат Зосіма яшчэ пэўны час пагружаны ва ўнутранае маўчанне. Сядзіць на сваім ложку і ні пра што не думае. Навакольны свет, поўны вітальнага руху, уваходзіць у яго бы адкрыццё – паступова і сам сабою, пранікаючы ў вушы, у свядомасць, у сітавіны скуры.

Сёння ў яго шмат вольнага часу, на завод ізноў у начную.

Брат Зосіма сядае на старэнькі ровар. Шматпавярхоўкі і гаражы хутка застаюцца ззаду, цяпер навокал-– бязлюдны пакручасты ландшафт, сфармаваны, аднак, праз умяшальніцтва чалавека.

Выгіны, траншэі, насыпы парожняй пароды, закінутыя рыдваны будоўляў… Палімпсест розных уцямных некалі фразаў, крамзаніна паверх напісанага, якая зацярушвае трывіяльны ў свой час змест.

Ровар манеўруе сярод усёй гэтай разнастайнасці, то патанаючы ў складках, то ўскараскваючыся на ўзгоркі. Брат Зосіма адчувае ў пастаянных перападах вышыняў пэўны рытм і на бліжэйшыя паўгадзіны засяроджваецца толькі на ім.

У нейкі момант ён адпускае стырно. Даўгія валасы кудлацяцца, прабліскі сонца раптоўна трапляюць у вочы, на твары вымалёўваецца амаль дзіцячы азарт.

Калі ён даязджае да бліжэйшай вёскі, ветрык даносіць пах гарэлага лісця. Бабуля, у якой брат Зосіма папрасіў набраць вады, настойліва частуе яблычкам. Упэўнены націск зубоў прымушае спелы плод пырснуць сокам. Валасінкі на барадзе зліпаюцца, і брата Зосіму гэта смешыць.

На зваротным шляху ён збочвае да ракі, зноўваецца і нейкі час нерухома ляжыць на зямлі, углядаючыся ў расплывістыя абрысы аблокаў.

Па вяртанні дахаты брат Зосіма пачынае рыхтавацца да вячэрні. Святара ў горадзе даўно ўжо няма, як, зрэшты, і прыхаджанаў, і таму ён будзе выкарыстоўваць скарочаны варыянт.

Апрануўшы падраснік і клабук, выходзіць на вуліцу. У дзятвы гэты дзіўны дзядзька выклікае сапраўднае захапленне, хай часам і жорсткае – вядома ж, па-дзіцячаму.

У царкве, як заўсёды, шматлюдна. Брат Зосіма праціскаецца ў алтарную частку, запальвае свечку і раскрывае малітоўнік.

Пульхная кабеціна ў скуранцы вылупіла на яго вочы, запіхваючы ў торбу палку сыравяленай кілбасы.

Пару разоў ахоўнікі здавалі яго ў міліцыю, але потым ім надакучыла. Яны зразумелі, што іх гісторыі ніяк не перасякаюцца з ягонай.

На словах “Хай малітва мая ўзыдзе да Цябе, быццам кадзіла” скрозь прабоіну ў вітражы пад самым купалам у царкву ўляцела шэрая галубка.

**10.15.** Недзе за вакном з цяжкім уздыхам спыняецца смеццявоз. Ягоны кодаб чапляе галінкі дрэваў у палісадніку ля пад’езда. Марыі падаецца, нібы гэта яе драцяныя валасы шкрабуцца аб гіпсавы чэрап.

Марыя з цяжкасцю расплюшчвае вочы. Дзень пачынаецца з прыемнага: яна згадвае, што не праспала працу. На працу ёй сёння не трэба – як, зрэшты, і заўтра, і наогул у асягальнай будучыні.

Тэлевізар шыбы дэманструе звычайны краявід, але гэтым разам ён мае нязначныя аптычныя скажэнні. Кроплі, што завіслі на шкле (напэўна, з самай раніцы быў дождж), дадаюць карцінцы трохі расплывістасці. Туман пераўтварыў пашарпаны паркан занядбанага хімзавода ў непрыступныя муры замка Іф.

Марыя павольна апускае ногі з ложка, намацвае тапкі. Здымае прапахлы вадкасцямі цела халацік. Твар чырвоны і азызлы, у роце затхлы водар гнілой гароднiны. Аднак у гэты час няпэўнасць яе існавання яшчэ падаецца ёй шматабяцальнай.

12 градусаў цяпла, але вільготны паўночны вецер. У прынцыпе, вось і ўсе навіны на сёння.

Адчуваецца паслясмак начных сноў – як заўсёды, куды менш цікавых, ніж сны дзённыя.

10.22. Марыя зноў завальваецца на канапу і хвілінаў дзесяць моўчкі глядзіць на шчыліну ў пашчэрбленай пабелцы столі. Услухоўваецца ў гукі, якія даносяцца паверхам вышэй. Неўзабаве ёй падаецца, нібы расколіна пакрысе более. Як быццам нейкая фантастыч-

ная пачвара рыхтуе шлях для нападу на яе, маскіруючыся пад электрыка Толю.

Толя зноў вучыць сваю жонку абіраць бульбу. Гэтым разам куды больш раздражнёна.

11.03. Позірк адзін за адным выхоплівае прадметы, што стаяць на палічках кніжнай шафы альбо бязладна раскіданыя па пакоі. Гэта парожні паўлітровы слоік, рэкламная газетка, пігулкі, скамечаны цыгарэтны пачак, парцалянавая фігурка шахцёра, якая дасталася ў спадчыну ад былога гаспадара кватэры разам са старым сервантам… Марыя імкнецца ўбудаваць іх у нейкую схему, знайсці паміж імі дбайна зашыфраваныя сэнсавыя повязі, як гэта часта здараецца ў дэтэктыўных раманах, але не дае рады.

Марыя выпальвае цыгарэту і адчувае, што далей не можа знаходзіцца там, дзе цяпер ёсць. Спехам апранаецца, і неўзабаве яна ўжо на вуліцы. Павольна ідзе ўздоўж дома, міма паржавелай кваснай бочкі, што знайшла вечны прытулак у яе двары, міма парэшткаў арэляў, міма выбоіны ў асфальце.

Часу ў яе сёння нязвыкла шмат, гэта выклікае вобраз з дзяцінства – гара марозіва, настолькі вялікая, што нават палохае.

Марыя даўно прызвычаілася да абмежаванняў, гэта яе стымулюе.

Насустрач трапляецца дзятва, якая вяртаецца са школы. Яе гарэзлівы гоман іншым разам мог бы прымусіць Марыю заплакаць, але цяпер яна надзіва спакойная.

11.16. Лапік перад універсамам пусты, як і цэнтральная ў гэтым мікрараёне вуліца. Толькі самотная бабулька прыснула ля кулькоў семак ды нейкі маладзён пакрадкам ціскае сваю сняжану на лаўцы, з трох бакоў аброслай пажухлым хмыззём.

Марыя на нейкі час застывае на месцы, каб ацаніць усю карціну ў сукупнасці. Дзяўчына з плаката новага

тарыфу мабільнай сувязі, здаецца, хоча яе ўкусіць. Па вуліцы праязджае амаль пустая маршрутка. На гаўбцы насупраць пагойдваецца вялізная ружовая камбінацыя з рушавымі ўстаўкамі.

Марыя адчувае сябе акторкай, якая недарэчна заблукала сярод дэкарацыяў у глыбіні сцэны. Усе магчымыя сюжэты гэтай пастаноўкі падаюцца ёй настолькі глупымі, што зусім і не хочацца шукаць пакручасты шлях да святла рампы.

12.01. Наперадзе першы прыкметны аб'ект на яе маршруце – Палац культуры. Размаляваны ад рукі шчыт запрашае на дыскатэку для тых, каму за. Чарговы бетонны правадыр, размешчаны на фоне порціка, указвае сваёй пяцярнёй на шапік з кумачовым надпісам “чабурэкі хот-догі”.

Паабапал яго – бязрукі ўдарнік з надзіва паэтычным выразам твару і пашчэрбленая даярка з расфарбаванымі памадай вуснамі ды схематычна намаляванымі паверх сукенкі цыцкамі.

У папэцканых галубамі вачах статуй адбіваецца ўласцівы сапраўдным стоікам скепсіс адносна летуценных радасцяў гэтага хуткаплыннага жыцця.

– Гісторыя, – кажа Марыя. – Гэта тое, што робіць з намі гісторыя.

Яна ні каліва не сумняецца, што пад крохкім бетонам статуй – варта трохі болей яго адкалупаць – адшукаюцца сапраўдныя целы іх прататыпаў, застылыя ў вечнай коме. А затым уяўляе калгасніцу і ўдарніка зусім у іншым агрэгатным стане – калі яны маглі пасмейвацца, скручваць губы трубачкай альбо сплёўваць праз даўно нячышчаныя зубы.

Урэшце, Марыя прыдумляе і сваю статую – у смешнаватай пафаснай паставе, якая не мае ніякага дачынення да роду яе мінулай дзейнасці. Хай у правай яе руцэ будзе меч, а левая хай трымае вырачаную на смерць курыцу.

Ад няма чаго рабіць Марыя падыходзіць бліжэй. На ганку Палаца нікога. З прыадчыненых дзвярэй чамусьці пахне пракіслым баршчом. Боршч увогуле вельмі любяць насельнікі горада, гэта яна ўжо заўважыла.

Тынкоўка на класіцыстычных калонах ладна аблупілася. Прытуліўшыся да адной з іх, Марыя ўважліва вывучае няроўныя пісягі, пакінутыя ўсімі дажджамі апошніх дзесяцігоддзяў. На падваконні з таго боку стаіць пакаёвая кветка ў гаршчочку – ці то герань, ці то фікус. Марыя ў іх зусім не разбіраецца.

12.34 Яна паціскае ўдарніку ацалелую руку, натыркаючыся замест аднаго з пальцаў на шурпатасць арматуры, няспешна праходзіць паўз правадыра, сядае на лавачку ля зарослай пустазеллем клумбы. Галубы дзяўбуць расколіны ў асфальце, марна сілячыся выкалупаць адтуль хоць якія калорыі.

Нягледзячы на восеньскую свежасць, яна адчувае задушлівасць. Сядзіць і ні пра што не думае.

На прыпынку спыняецца аўтобус, выходзячы з яго, жанчына трымае за руку дзяўчынку з чырвоным заплечнікам. Яны перасякаюць пляц па дыяганалі (малая раз-пораз падскоквае пры хадзе) і неўзабаве знікаюць у прагале між дамоў.

Праз нейкі час міма Марыі праходзіць групка людзей у памаранчавых апранахах і з мётламі. У ноздры трапляе пах тытуню, у вушы – кавалкі словаў, прамоўленых сіпатымі галасамі.

У пэўны момант яна выразна разумее, што Іншага няма побач. І гэта даволі балюча.

13.05 Калі ў шчылінку між аблокамі раптам праслізгвае праменьчык сонца, Марыя ўстае і рушыць уздоўж вуліцы. Аглядае сціплы дэкор на сталінскіх двухпавярхоўках: віньеткі, зорачкі, каласкі... Такая ўвага да дробных дэталяў яе супакойвае.

Яна ўяўляе сябе навукоўцам, які толькі што натыкнуўся на невядомы раней горад, прыналежны даўно страчанай цывілізацыі.

Неўзабаве Марыя адчувае сябе надзіва лёгка і абыякава ды не хоча нічога мяняць. Вецер вынаходліва гуляецца з рэкламнай улёткай, прымушаючы яе рухацца па неверагоднай траекторыі. Няцяжка паверыць, што яна жывая – асабліва па кантрасце з наваколлем.

Раптам Марыя заўважае, што ўжо каторую хвіліну яе трымае за руку каржакаватая бабулька ў выцвілым чырвоным паліто. Яна няспынна і няўцямна нешта гаворыць, нешта далёкае ад разумення Марыі. Розум выхоплівае пераважна службовыя часціны мовы і асобныя словы кшталту “сказаць” і “расстраляць”, якія наўрад ці праясняюць сэнс прамоўленага.

Лішні час, кажа Марыя. Гэта лішні час.

– Што-што? – перапытвае бабуля. Марыя не адказвае.

Моўчкі ківае, бярэ ўлётку. Не развітваючыся, паволі рушыць далей куды вочы глядзяць. Бабулька ў яе за спінай працягвае сваю прамову.

Выходзіць на праспект, шырокі, просты і надзіва чысты. Іншых мінакоў амаль няма. За дзесяць хвілін яна сустрэла хіба некалькі чалавек.

У такім выглядзе горад зноў падаецца ёй месцам, падрыхтаваным да нейкай маштабнай дзеі – літаральна наканадні яе пачатку. Пакуль усё прыціхла, нібы перад навальніцай, але зараз прагучыць умоўны сігнал – і орды ўдзельнікаў, якія даўно ўжо напагатове ў сваіх схованках, сінхронна ўступяць, выконваючы загадзя вывучаныя ролі.

Аднак час ідзе і сцішанае чаканне не выбухае падзеямі.

13.29. На цэнтральнай плошчы, як выявілася, зноў нейкі мітынг. Пахне чамусьці дымам.

Групка людзей знаходзіцца на ладнай адлегласці, што дазваляе Марыі адчуць сябе староннняй назіральніцай. Побач з ёю зусім нікога.

Марыя ўглядаецца ў суплёты правадоў па-над плошчай. Чорныя лініі выразна прамалёўваюцца на тле брудна-шэрага неба. Правады скіраваныя ў розныя бакі, і, гледзячы знізу, падаецца, нібы яны паміж сабою перакрыжоўваюцца. Марыя думае пра тое, што кожны з іх мае сваё прызначэнне і, без сумневу, кудысьці вядзе. Падобныя трывалыя повязі падаюцца ёй проста неверагоднымі.

Амаль ужо прамінуўшы плошчу, Марыя прыпыняецца, каб паназіраць за тым, як камяні і кавалкі асфальту ляцяць у шыбы мэрыі. Звон бітага шкла перакрываюць лозунгі, падхопленыя сотнямі галасоў – вісклявых, сіпатых, бадзёрых.

13.44. У якім квартале ад плошчы ўсё, як звычайна, ціха. Марыя падыходзіць да цэнтральнага ўнівермага. Бетонныя скульптуры ўсталяваныя і каля яго, яны выглядаюць значна менш аптымістычна за манекены ў вітрынах.

Да новага году яшчэ шмат часу, але ў горадзе ўжо пачалі прадаваць елачныя цацкі і румяных дзядоў марозаў. Камусьці вельмі хочацца святаў, а Марыі ад гэтага цяперашні год здаецца яшчэ больш старым. Невымоўна састарэлым.

Марыя ўглядаецца ў шрубы, якімі прыкручаныя завесы дзвярэй. У другім зверху плешка вытыркаецца на добры міліметр, у трэцім яна пагнутая. Менавіта такія амаль не заўважныя воку дэталі найлепей дапамагаюць ёй усвядоміць чалавечую прысутнасць у гэтым свеце. Вось тут рука рабочага неспадзеўкі задрыжэла, а вось тут ён ціха і нязлосна вылаяўся, сутыкнуўшыся з нечаканым супрацівам матэрыялу. Здаецца, нават можна адчуць пах, які сыходзіў у той

момант з яго рота – бо акурат надоечы ён паабедаў шчодра прыпраўленым часныком баршчом.

14.04. Раптоўны павеў ветру здзірае з дрэваў апошняе лісце. Разам з тым ён агаляе і даўно прыцярушаныя друзам успаміны. “Вітрику, тихше, вітрику, цить”, – спявае пра сябе Марыя. Нічога не спыняецца. Але яна ўжо гатовая да гэтага прыступу болю. І сапраўды, неўзабаве ён сціхае.

Марыя ведае прыблізны час новай атакі: недзе пасля сёмай вечара. Да гэтага часу трэба вярнуцца дахаты, не забыўшыся па дарозе набыць той ці іншы кшталт лекаў.

Але яшчэ засталося пару гадзін. Можна працягнуць шпацыр.

14.17. Марыя спыняецца ля вітрыны і з лёгкім недаўменнем глядзіць на паўпразрыстую прывідную фігуру, якая праяўляецца на тле рознакаляровых рондаляў, тазікаў, гантэляў і пральных дошак. Прыходзіць да высновы, што за апошні час яна істотна схуднела. Старыя джынсы цяпер недарэчна вісяць на сцёгнах. Некалі яе пухнатасць лічылася адмысловай фішкай: многім падабаліся дзяўчаты “ў целе”.

Апрача яе, у вітрыне таксама адлюстроўваецца дабіты “ікарус”, што спыніўся на святлафоры, парасончыкі піўнухі насупраць, пара геяў, якія дзеляцца паміж сабою пяшчотай, стоячы на прыпынку.

14.29. Марыя няспешна падыходзіць да суседняга з універмагам дома. Гэта нейкая ўстанова, выведзеную на шыльдзе назву якой Марыя чытаць заўсёды лянуецца. Прытуляецца спінай да калоны ўваходнага порціка. Яна ўжо не першы раз назірае за тым, што адбываецца ўнутры.

У старых вокнах з прагнілымі рамамі гарыць святло. Мужчына ў строгім касцюме сядзіць за сталом, утаропіўшыся вачыма ў раскрытую тэчку з паперамі. Часам нешта пазначае асадкай.

Дзверы ў кабінет адчыняюцца. Другі мужчына ненадоўга адрывае яго ад працы, каб зрабіць заўвагу альбо давесці да ведама важную інструкцыю. Ён гаворыць узважана і безэмацыйна, робячы акцэнт літаральна на кожным слове.

Той, хто сядзіць за сталом, ледзь прыкметна ківае. Выгляд у абодвух настолькі сур'ёзны, нібы яны знаходзяцца за пультам кіравання гэтым светам.

Марыя амаль перакананая ў тым, што іх службовы абавязак – пісаць і рэдагаваць чыесьці гісторыі. У тым ліку і такіх, як яна. Магчыма, гэта менавіта яе прозвішча выведзена асадкай на тэчцы з буйнымі літарамі "Дело".

Болей за тое, не выключана, што чыноўнік хвіліну таму атрымаў указанні неяк адкарэктаваць сюжэт – альбо, наадварот, адмяніць запланаваныя ім папраўкі як неадпаведныя тым ці іншым нарматыўным актам.

Марыя разумее, што за матэрыял можа быць назапашаны ў гэтай тэчцы. Без сумневу, там ёсць усе падрабязнасці – асабліва тыя, якія яна хацела б цяпер назаўсёды выцерці з памяці.

Вобраз апаганенага храма ўжо каторы раз з'яўляецца ў яе свядомасці.

Пасля таго як начальнік пакідае кабінет, мужчына за сталом адрываецца ад папер, дастае з дыпламата слоік з баршчом ды пачынае з апетытам яго высёрбваць, заядаючы хлебам. Крышынкі трапляюць на літары, якія могуць быць для кагосьці лёсавызначальнымі.

Далонь размашыстым рухам страсае крышынкі на падлогу. А калі на адным з аркушаў праявілася тлустая пляма, мужчына камечыць гэтую паперчыну ды выкідае ў сметніцу.

Але Марыя ставіцца да гэтага з разуменнем. Як-ніяк, у кожнага ж павінны быць свае чалавечыя слабасці і хібы. Не выключэнне й тыя, хто стварае гісторыю.

14.53. Марыя адыходзіць на сотню метраў, затым ізноў спыняецца. Глядзіць угару, затым апускае вочы долу, затым выроўнівае спазор. Нахіляе галаву. Людзі вакол яе рухаюцца па сваіх траекторыях, часта даволі няроўных. Іх маторыка падаецца зусім ненатуральнай: як быццам яна зададзеная звонку нейкім мудрагелістым алгарытмам. Як быццам сваімі рухамі яны павінны нешта камусьці паведамляць.

Зусім побач пралятае хлопец на ровары, ледзь не шаргануўшы па плячы Марыі. І гэта таксама ўяўляецца ёй невыпадковым.

Падобна, сваімі рухамі ўсе яны ствараюць нейкі артыкуляваны сюжэт. Магчыма, гледзячы на ўсё гэта з вышыні птушынага палёту – альбо хаця б з вежачкі, што вянчае дом на рагу, – абазнаны чалавек здолее лёгка прачытваць зразумелыя і сутнасныя мэсэджы.

Але Марыя ў гэтым тэксце пачуваецца лішняй літарай. Яна забрыла ў яго выпадкова, ёй трохі няёмка.

На пачатку бульвара гармонік грае "Развітанне славянкі". Падлеткі, якія на лаве ля крамы абмяркоўваюць сваіх сняжанаў, праводзяць Марыю абыякавымі поглядамі. Яна ўжо даўно зразумела, што стала анахранізмам, і нават трошачкі здолела з гэтым звыкнуцца.

Марыя доўга назірае за тым, як пяцігадовая дзяўчынка есць бульбу-фры. Малюткія пальчыкі адна за адной вымаюць з папяровага пакунка роўныя лустачкі і няспешна падносяць да рота. Кожны рух дакладны, сур'ёзны і трапны. Вусны сталі трохі вільготнымі ад тлушчу.

Сэрца Марыі неспадзеўкі асвятляе любоў да людзей, але гэта зусім ненадоўга.

15.00 Марыя раптам прыгадвае, што трэба нешта есці. Яна амаль не адчувае голаду – хутчэй, гэта чыста рацыянальнае разуменне. Недзе зусім паблізу павінен

быць гандлёвы цэнтр “Царская брама”, а ўнутры яго – ятка са смачнымі чабурэкамі.

Неўзабаве яна на месцы. Ля дзвярэй пашыхталіся сумнеўнага віду немаладыя кабеты, на пластмасавых скрынях раскладзеныя шкарпэткі, сала, венікі для лазні, парасоны... Марыя з цяжкасцю адбіваецца ад цыганкі, якая прапануе прываражыць ёй масквіча з кватэрай.

Апрача плошчы, гэта ці не адзінае месца ў горадзе, дзе віруе жыццё. Гандлёвы цэнтр размясціўся ў былой царкве, пабудаванай у 90-я – падчас імклівага ўздыму цікавасці да рэлігіі, якая неўзабаве гэтак жа імкліва ўпала да нуля.

Вялізны храм у старажытнарускім стылі не сталі перарабляць у адпаведнасці з новай функцыяй: яго проста здалі ў арэнду і падзялілі на соты. На фасадзе цяпер красуе з паўсотні шыльдачак: “Абутак”, “Рэчы з Еўропы”, “Аксесуары для сняжанаў любых мадэляў, перапрашыўка, рамонт”...

Калі шкляныя дзверы адчыняюцца-зачыняюцца, спружыны дзіка рыпяць, нібы адпраўляючы ў космас шыфраваныя радыёсігналы. Мужчына ля ўваходу сплёўвае проста на падлогу, затым адкусвае кавалак хот-дога. Недзе непадалёк мажная кабета сварыцца на прадавачку курыных грудак. Па руцэ Марыі шоргае другая скура чыёйсьці курткі.

Унутры даволі шмат людзей, уключаных у тыя ці іншыя працэсы, але Марыя адразу разумее, што нічога агульнага іх не лучыць. Асобіны часам аб’ядноўваюцца ў тактычныя саюзы – такія як, напрыклад, “пакупнік-прадавец”, – аднак узніклыя паміж імі повязі вельмі хутка разрываюцца. Кожны сам па сабе.

Сцены па-ранейшаму распісаныя фрэскамі. Месцамі яны трохі аблупіліся, а некаторыя фрагменты спрэс завешаныя таварам і яго рэкламай – асабліва вылуча-

ецца слова “МЯСА”. На клірасе абсталяваны стаматалагічны кабінет.

У гармідары розных гукаў, што зліваюцца пад высокімі скляпеннямі, патанае голас чалавека ў дзіўнай чорнай апранасе, які трымае свечку ў руцэ. Тым не меней яго вусны ўпарта прамаўляюць нейкія словы.

Марыя адчувае, што гэты чалавек такі самы адчужаны ад наваколля, як і яна. Таму падыходзіць бліжэй, праціскаючыся праз шчыльнае і несупынна рухомае месіва целаў.

Потым яны доўга размаўляюць. Дакладней, пераважна гаворыць ён. Павольна, простымі словамі. Часам нават не чакаючы на адказ.

Марыя даўно ні з кім па-сапраўднаму не размаўляла, ёй ёсць што сказаць. Але цяпер яна чамусьці збольшага маўчыць альбо і наогул абмяжоўваецца жэстамі. Не гаворыць, не слухае, але проста маўчыць.

Праз нейкі час яны развітваюцца і кожны рушыць сваёй дарогай. Чабурэк у той дзень так і не быў з’едзены.

Недзе без дзесяці сем Марыя ўжо дома. Распранаецца, ідзе на кухню, налівае ў шклянку. Ідзе ў пакой, сядае на ложак, нерухома сядзіць. П'е. Устае, падыходзіць да вакна, ненадоўга перад ім спыняецца, робіць некалькі крокаў у зваротным напрамку, топчацца на месцы. Нервовым рухам адкідае пасму валасоў, што лезуць у рот. Зноў плюхаецца на ложак.

Зараз гэта прыйдзе, ведае яна.

Часам у такія хвіліны ёй трэба абавязкова быць недзе і кагосьці бачыць, і тады яна знаходзіць сабе кампаніі ў бліжэйшых забягалаўках альбо непасрэдна на лаўках. Потым развітваецца, ніколі не запытаўшыся, як іх завуць.

Выдатны варыянт і недарагі гей-клуб у былым будынку ЖЭСа. Там можна згубіцца сярод дыму, успышак страбаскопаў і дзясятка такіх самых, як яна, – якія, трэба меркаваць, завітваюць сюды дакладна з той самай мэтай.

Часам Марыя інтуітыўна шукае паратунку ў падзейнасці – размовах, сварках, выпадковым сэксе. Але сёння любыя звышмерныя рухі яе палохаюць.

Сёння яна адчула, што неабходна застацца ў сваёй кватэрцы, чые сцены забяспечваюць прынамсі вонкавую абарону.

Яна сядзіць на ложку і цярпліва чакае, нават не думаючы супраціўляцца. І нават не спадзеючыся, што абміне.

...Прыблізна а дзявятай вечара гэта, урэшце, праходзіць. Марыя цяпер можа дазволіць сабе ўстаць з ложка.

Выпіты алкаголь амаль расшчапіўся ў крыві, пакінуўшы на ўспамін свярблівы галаўны боль. Святло ў яе вачах нібы раскладаецца на слаі, і таму вельмі цяжка сфакусаваць на нечым увагу.

Гарачай вады сёння зноў няма, хаця нібыта ж чацвер. Марыя не мылася ўжо чатыры дні, і таму даводзіцца лезці на антрэсоль па вялізны рондаль. Марыя моршчыцца, падняўшы яго накрыўку: унутры міла займаюцца каханнем два тараканы. Налівае ваду, выплёсквае ва ўнітаз, налівае зноў і ставіць на газавую пліту.

Але фаерку так і не запальвае. Замест гэтага з хвіліну безуважна глядзіць на пашчэрбленую кафлю па-над плітой. Затым ідзе ў ванную.

Раптам у яе чамусьці ўзнікае прадчуванне, нібы нешта неўзабаве павінна адбыцца.

– Нешта неўзабаве павінна адбыцца, – пераконвае яна свой шэры твар у люстэрку.

Чысціць зубы ды кладзецца спаць.

Спярша змацоўваем дзве сцяблінкі ў самым нізе, затым ахайна іх сплятаем, затым дадаем лісткі – не меней за пяць, – потым насаджваем на атрыманы каркас галоўкі ружаў, стараючыся захаваць законы сіметрыі. Затым трэба паўтарыць тое самае.

Марыя цяпер працуе ў кустарнай майстэрні па вырабе пластмасавых кветак, размешчанай у звычайным гаражы. Замоваў дастаткова шмат – лічы, сезон – і часта ёй даводзіцца праседжваць на працы да позняга вечара.

З рохканнем накручвае свае колы сансары стары вентылятар. Калі ягоныя лопасці паварочваюцца да стала, купка сцяблінак пачынае лёгка трымцець. У роце Марыі – чамусьці саланаваты прысмак.

Святло слабенькай лямпачкі без абажуру бязладна рассейваецца па-над усім гаражом, спараджаючы сапраўдны тэатр ценяў. Кветкі, якія выглядаюць драпежнымі, чалавечыя рукі (іх ахвяры), выпадковыя прадметы (проста сведкі)... У свеце ценяў характар узаемадзеяння гэтых чыннікаў падаецца зусім іншым, ніж ён ёсць насамрэч.

Марыя паспяхова сканчае вытворчы цыкл і тут жа набірае новы камплект сцяблінак, лісткоў і галовак.

Пластмасавыя кветкі чамусьці атрымліваюцца ненатуральна яркімі і – гэтаксама ж ненатуральна – дасканалымі па сваёй форме.

За суседнім сталом шчыруе Елізавета Міхайлаўна. Праца выходзіць у яе наўздзіў шпарка. Ейныя тоўстыя пальцы з адрузлай скурай і кароткімі бруднымі

пазногцямі ўвішна сплятаюць зялёныя сцяблінкі ды націнаюць на іх чырвоныя суквецці. Вусны пры гэтым напяваюць нешта з рэпертуару Укупніка, забяспечваючы ці не кожны радок каментарыямі з багатага жыццёвага досведу. У глыбокія барозны зморшчынаў на яе твары трапляе святло настольнае лямпы, і яго ледзь прыкметная воку гульня дадае гэтай кабеце яшчэ большую рухавасць.

Елізавета Міхайлаўна падобная да павучыхі, якая імкнецца ахапіць усю даступную ёй прастору, знітаваць сваімі ніткамі тыя рэчы і з'явы, якія, здавалася б, месцяцца зусім далёка адна ад адной і зусім непрыдатныя для знітоўвання. Ніткі вільготныя і клейкія.

Гатовыя кветкі складаюцца ў вялізную кардонную скрыню, і за восем гадзін працы іх там назапашваецца прыблізна дзве тысячы. Ужо праз дзень-два яны разыдуцца па свежых грудках, чые будучыя насельнікі пакуль яшчэ бесклапотна пацягваюць сваю гарбату альбо бырла.

Поруч з Елізаветай Міхайлаўнай Марыя пачувае сябе няўклюдна ды няўпэўнена, яна не ведае, як з гэтым змагацца і ці наогул трэба. Вядома, часам ёй даводзіцца нешта адказваць. Часам вокрыкі Елізаветы Міхайлаўны ратуюць яе ад нечаканага наплыву ўспамінаў, што, як заўсёды, здараюцца ў самы неспрыяльны момант.

Але гэтым разам Марыя балюча ўкалола палец, калі яе напарніца зноў прыгадала сваю ўлюбёную прымаўку пра шлях да мужчыны праз ягоны страўнік. Не абышлося без лаянкі.

Тут шэрыя неатынкаваныя сцены з аблупінамі старой фарбы і намёртва ўпаянымі ў бетон шматкамі старых газет. Гэтай пярэстай паверхні ўласцівая дзіўная фактура, і ўглядацца ў яе можна да бясконцасці: супакойвае.

Марыя кладзе ў кошык чарговую гатовую кветку. Шурпатая нізкаякасная пластмаса непрыемна трэцца аб фалангі ейных пальцаў. Але гэтае тактыльнае адчуванне неспадзеўкі надае ёй бадзёрасці, яно нібыта вяртае да рэчаіснасці з той прастрацыі, куды так часта трапляе Марыя. Праца ідзе трохі весялей, але зусім нядоўга.

Па радыё Колька віншуе сваю малую Настку Зелянуху з паспяховым выключэннем з хабзы за прагулы і просіць паставіць чырвоную плесню.

Яшчэ толькі дванаццаць. Дакладней, дванаццаць нуль восем, але гэта не так ужо і істотна. Да канца працоўнага дня застаецца як мінімум шэсць гадзін.

Марыя спрабуе надаць сваім рухам манатоннасць ды ўявіць, быццам яна – аўтамат. Атрымліваецца не надта ўдала. Сцябло выпадае з яе пальцаў, Елізавета Міхайлаўна перапыняе свой аповед, каб спытаць, у каго яна закаханая.

Тады Марыя мяняе тактыку і заклікае ў сваю свядомасць дэманаў радасці. Але вольных паблізу не апынулася, усе былі занятыя на іншай працы альбо паленаваліся адгукацца на яе выклікі, а прынаджваць іх пэўнымі рэчывамі ў дадзеным выпадку наўрад ці мэтазгодна.

Стары будзільнік на століку павольна адлічвае свае хвіліны. Відавочна, ён зусім не адаптаваўся да цяперашняй хуткаплыннай эпохі, час у гэтым гадзінніку ідзе гэтаксама размерана, як у старых фільмах пра партызан або міліцыянераў, што здаваліся іх стваральнікам вострасюжэтнымі.

Марыя ўздыхае. Перакруціць старую кінастужку ў паскораным тэмпе наўрад ці атрымаецца – яна проста парвецца.

Не зважаючы на раздражнёныя позіркі, Марыя зноў адкладае працу ды выходзіць на ганак папаліць. Пэўны час пальцы яшчэ адчуваюць тую шурпатасць, якая можа быць уласцівай толькі штучным кветкам.

Марыі вельмі падабаецца ламаць і грызці штучныя пялёсткі, хаця пах у іх далёка не самы лепшы. Перад выхадам з працы яна набірае поўныя кішэні шурпатай зялёнай пластмасы з кардоннай скрыні, на якой напісана “брак”.

Елізавета Міхайлаўна заўсёды здзіўляецца: навошта? Маючы практычны розум, яна безвынікова сіліцца дапяць, якую карысць можа прынесці ў гаспадарцы гэтае лайно.

Калі ўвечары Марыя сядзіць за камп’ютарам, яна раз-пораз засоўвае руку ў кішэню, наўгад дастае адтуль кавалачак і, бы дзіця, запіхвае яго ў рот. Зубы фіксуюць выгіны формы, язык плаўна праходзіцца па няроўнай фактуры, адзначаючы шматлікія атожылкі.

Гэты мілы занятак – добры паратунак ад дэманаў мінулага, якія ў такую пару сутак асабліва сіляцца ўцягнуць Марыю ў свае віры беспрычынных успамінаў.

Рух, адчуванні болю і смаку – акурат тое, чаго хранічна не стае Марыі. Але дапамагае яно ненадоўга, неўзабаве сківіцы Марыі працуюць ужо ўхаластую, не забяспечваючы свядомасць ніякімі ўражаннямі, а затым і наогул спыняюцца. Яна з агідай выплёўвае знявечаны згустак пластыку.

У такі момант ёй часта хочацца застыць, замерці ў нейкай як мага больш натуральнай паставе – бы на партрэце post mortem віктарыянскай эпохі. У яе гэта атрымліваецца, яна засякае хвіліны. Максімум дванаццаць, неблагі вынік.

Затым нешта чэшацца, тэлефануе, сігналіць у двары. Марыя без асаблівага імпэту вяртаецца ў свет жывых, каб ізноў пераканацца, што ў ім нічога не адбываецца.

Міжчассе, калі снег пераўтвараецца ў ваду яшчэ толькі ў паветры.

Міжмоўе, калі вымушанае маўчанне не прарастае словамі, захрасаючы ў роце, бы пялёсткі пластмасавых ружаў.

Міжладдзе, калі эмоцыі і спакой адначасова ёй недаступныя, бо запакаваныя ў тонкую плёнку абыякавасці.

Пяць гадоў таму Марыя ўпершыню адчула, што ейная гісторыя скончылася.

Пяць гадоў таму Марыя ўсвядоміла, што яна болей не Мадам Брык, не Ксюша Люцік і не Медсястра Тая. Адгэтуль яна зноў Марыя. Цалкам, канчаткова і незваротна.

Нехта ў той дзень, напэўна, ахайна падшыў апошні ў яе справе аркуш, лёгка пацёр змакрэлыя ад старання далоні, паправіў гальштук, пачухаў шурпатымі пальцамі нос, закрыў тэчку і завязаў матузкі. Праца на сёння завершаная, цяпер яе можна здаваць у архіў ды ісці на свежае паветра.

У гэтай тэчцы было святло сафітаў, вынаходлівыя скураныя вырабы, двайное пранікненне і пранізлівыя енкі, якія ў Марыі атрымліваліся амаль натуральна. Там так і было адзначана, побач з усімі іншымі важнымі для пэўных анкет параметрамі.

Цяпер яны ўжо зусім неістотныя. Ёсць толькі брудная кватэрка, свярблівыя болі ў інтымных месцах ды пластмасавыя пялёсткі.

Аднак новая гісторыя Марыі ўсё ніяк не спяшаецца пачынацца.

Напэўна, справа ў тым, што адказны за гэта дзядзька насамрэч не надта адказны, думае яна. Ён скончыў

працу, прыйшоў дахаты, павесіў у шафу свой строгі касцюм, ахайна распрастаўшы пінжак на плечыках, надзеў працёртыя трэнікі, паеў пельменяў і заваліўся на канапу глядзець тэлевізар.

Наўрад ці ў яго ёсць жонка, чамусьці лічыць Марыя.

На экране – футбол, матч не клеіцца, і ён уважліва назірае за тым, як гульцы бязмэтна ганяюць мяч з аднаго канца поля ў іншы. Лік на табло – 0:0.

Раптам нехта тэлефануе, але дзядзька не ўстае з канапы. Ён заварожана сочыць за ходам падзей, і паступова ягонае дыханне набывае адпаведны ім рытм. А ўслед за дыханнем – і крывацёк, і абмен рэчываў.

Аднастайная камбінацыя рухаў паўтараецца і паўтараецца. Гэта доўжыцца нават пасля таго, як сканчаюцца адведзеныя рэгламентам паўтары гадзіны. Футбалісты ўсёй камандай бягуць да брамы суперніка, затым – у самы, здавалася б, востры момант – нібы наўмысна аддаюць мяч, і рух адбываецца ўжо ў зваротным кірунку.

Матч не завяршаецца і тады, калі яго глядач раптоўна памірае ад спынення сэрца, разрыву мачавога пухіра, а тое і проста ад голаду.

На працы нават не заўважылі адсутнасць аднаго з клеркаў. Калегі працягвалі кідаць у бок яго працоўнага месца звычайныя “здрасце”, на стол па-ранейшаму траплялі тэчкі з гісторыямі такіх, як Марыя, а карпаратыў з нагоды юбілею арганізацыі скончыўся поўным алкачадам, і не заўважыць страты байца ў гэтым тумане было зусім нескладана.

Пагатоў, у кожнага ж ёсць свая ўласная гісторыя, і ніхто не захоча па сваёй волі ёю дзяліцца.

А між тым дзядзька паціху раскладаўся сабе на сваёй канапе. Суседзі, якіх бянтэжылі непрыемныя пахі, аднойчы ўжо амаль наважыліся патэлефанаваць у міліцыю. Але паколькі з кватэры ўсё яшчэ даносіліся

гукі матча, яны вырашылі, што ўсё ў парадку – проста, прагнілі назапашаныя на балконе памідоры.

А потым наступіла зіма, выпаў снег, і ўсім увогуле стала не да таго.

З безлічы магчымых варыянтаў, чаму новая гісторыя Марыі так упарта не хоча пачынацца, ёй самой найбольш падабаецца менавіта гэты.

Чарговы пялёстак чамусьці аказаўся гаркавым на смак.

Ад няма чаго рабіць Марыя прыдумляе сабе новую забаўлянку. Сядае за камп'ютар і пачынае запісваць уласную гісторыю. Так, нібыта гэта робіць чалавек, які мае магчымасць назіраць за Марыяй звонку. Адпаведна, у трэцяй асобе.

Прычым гэта павінен быць бесстаронні назіральнік, тут жа дадае Марыя. Неперадузяты і ў пэўнай меры нават цынічны.

Яна цюкае пальцамі па клавіятуры, і на экране паступова з'яўляецца яе гісторыя.

У адным невялічкім гарадку СССР нарадзілася прыгожая пульхная дзяўчынка, якую мама назвала Марыяй – хаця тата хацеў, каб яна была Васілісай. Але назвалі ўсё ж Марыяй, і гэта аказалася слушным рашэннем, бо тата хутка выправіўся на камсамольскую будоўлю, і болей яго не бачылі.

Яна спрабуе ўявіць, што яе скура стала празрыстай і назіральнік можа аглядаць усё змесціва – бы ў пластыкавай торбе.

У тым гарадку былі тапалёвыя прысады і крама з назвай "Дамашні", у ёй прадавалі даўгія ледзяшы, якія ўсе называлі "карандашы". Яшчэ там былі старыя могілкі, дзе Марыя з сябрамі любіла гуляць у хованкі. Адчуванне рыхласці глебы на грудках (калі наступаеш нагой) яна памятае і пагэтуль.

Дотык босых ступакоў да нагрэтага за дзень асфальту.

Гульня ў класікі на вялікіх пашчэрбленых плітах ля райвыканкама, пабітыя каленкі.

Паляванне на конікаў, шматгалоссе жабаў увесну ў старой сажалцы.

Ровар, канешне ж, ровар.

На нейкі момант гульня так захоплівае Марыю, што яна і сапраўды амаль упэўненая, нібы гэтая гісторыя адбывалася зусім не з ёю, а з кімсьці іншым. Зусім-зусім іншым – бялявай танюткай дзяўчынкай у жоўтых сандаліках.

“Што тут яшчэ важна дадаць?” – пытае сябе Марыя. Можа, пра дзіцячы садок, пра школу, дзе заўсёды пахла падгарэлай кашай, пра тое, як аднойчы яна паспрачалася, што вып’е тры літры кіслага малака, але адужала толькі два і пасля малако яшчэ пару дзён выходзіла праз усе дзіркі яе арганізма?

Альбо гэта не так і важна? Мабыць, і сапраўды не так важна.

Але што тады важна? Гукі горна, што даносіліся з сіпатых дынамікаў на піянерскіх лінейках? Трапныя ўдары па пальцах вялікай драўлянай указкай, калі матэматыца Ліпухіна з яе ваеннай выпраўкай заўважала, што гэтыя пальцы занятыя чымсьці не тым? Пачуццё сораму, калі яе заспелі з Мішам на ганку закінутай лодачнай станцыі?

Больш за ўсё яе хвалявалі, вядома, прышчы. Падыходзячы зранку да люстэрка, яна з жахам прадбачыла новыя адкрыцці адносна ўласнай знешнасці. У той самы час прышчы было так прыемна ўпотайкі трушчыць у ваннай.

Калі ёй было гадоў пятнаццаць, яна любіла хадзіць на станцыю і слухаць, як цягнікі з сапеннем прыпыняюцца ля перона, каб ужо праз хвіліну зноў зрушыцца з месца.

Гэта былі летнія вечары, калі гарадок, бы п’янкая дымка, ахутвала нягучная добразычлівая гамана, яна вылівалася на вуліцы праз адчыненыя вокны, пракрадалася ў коміны, сачылася цераз бярвенні дамкоў, бы ладан, уздымалася ў неба па-над завешанымі бялізнай дварамі.

У такую пару вельмі хораша сядзець на верандзе альбо ў палісаднічку, пасёрбваць слабенькую гарбату ды апавядаць тыя гісторыі, якія калісьці мелі да цябе дачыненне, але даўно ўжо сталі проста адстароненымі сюжэтамі. Апавядаць такім тонам, якім звычайна пераказваюць падзейныя калізіі мыльнай оперы.

Цягнікі рушылі з вялікіх гарадоў у вялікія гарады, прамінаючы транзітныя станцыі хутка і з неахвотай – як падчас размовы пераадольваюць няўклюдную паўзу альбо перамотваюць на павышанай хуткасці тыя эпізоды тэлесерыяла, што ніяк не развіваюць сюжэт, бо прызначаныя адно накручваць хронаметраж.

Людзі з цягнікоў паглядалі на Марыю недаўменна і безэмацыйна. Кідалі пад колы недапалкі ды вярталіся на свае месцы – даядаць курыцу і даразгадваць крыжаванку.

Аднойчы Марыя падабрала ружовы пантофлік, які нехта выкінуў на перон праз фортку падчас п'янай сваркі.

Убачанае з вокнаў купэ здавалася пасажырам адно пласкаватымі дэкарацыямі. Ніхто з іх не паверыў бы, што за пашыхтаванымі ў роўную лінію нягеглым станцыйным будынкам, воданапорнай вежай і закаванай у плітку "кабанчык" смярдзючай прыбіральняй ёсць нешта яшчэ: ліштвы на вокнах прыземістых дамкоў, тапалёвы пыл у калюжынах, рабацінне на замызганым дзіцячым твары, буслянка на даху міліцэйскага пастарунка, касыя лініі слядоў на свежай раллі, пацалункі на ганку закінутай лодачнай станцыі, водар гарэлага лісця, дзябёлая рыжая біялагіца Алімпіяда Паўлаўна, якую за вочы чамусьці называлі Карлсанам...

Марыя ўжо тады разумела, што некалі ёй наканавана сесці ў такі самы цягнік ды разам з ім з'ехаць адсюль, і з'ехаць незваротна.

Але гэта было яшчэ наперадзе. Пакуль што Марыя праводзіла позіркам хвост саставу, удыхала станцыйны пах мазуту ды вярталася ў знаёмы для сябе сусвет. Ішла паўз пакрытую раскай сажалку, паўз ДК, адкуль даносіліся рытмы эстрады і хмельны дзявочы віскат, паўз задуменных коз ля аброслага хмыззём абеліску з зорачкай, паўз пякарню з яе водарам заўтрашняга хлеба.

Марыя ачомваецца і вырываецца з трансу сваіх успамінаў. Утрапёна трасе галавой, быццам выліваючы з вуха ваду.

Гэта зусім не тое, чаго яна хацела: ад пачатку ставілася ўмова менавіта распавядаць гісторыю, а не дзяліцца нічога не вартымі перажываннямі.

Тым болей яны належаць не ёй, а нейкай дзяўчынцы ў калготках і з коскамі, гісторыю якой Марыя спрабуе прысабечыць.

Неўзабаве яна прыходзіць да высновы, што не здатная распавесці сваю ўласную гісторыю так, каб гэта выглядала нібы звонку. Для падобнай справы куды лепей прыдаўся бы педантычны дзядзька ў строгім касцюме.

Тым не меней яна наважваецца працягнуць.

Мама працавала выхавацелькай у дзіцячым садку. Яна пільна сачыла за тым, каб Марыя апранала толькі зацыраваныя і чыстыя калготкі і каб банцікі на яе галаве размяшчаліся ў строгай адпаведнасці з законамі сіметрыі.

Затым, ужо праз нейкі час, яна гэтак жа пільна сачыла, каб усе закаханасці, што з'яўляліся ў дзявочым сэрцы, гінулі як мага хутчэй і незваротна.

Цела Марыі было жывым, яно чуйна рэагавала на ўсё, што дзеецца навокал. Выпадковыя дотыкі, павевы чужога дыхання, кантраснае змяненне тэмпературы...

Цела Марыі было жывым, маладым і чыстым. Як tabula rasa, гатовая для напісання на ёй самых важных словаў.

Марыя сутаргава хапае пластыкавы пялёстак, запіхвае яго ў рот, грызе. Адплёўваецца валасамі, што неспадзеўкі трапілі ў рот. Б’е па стале кулаком.

Праз хвіліну закрывае файл, адмовіўшыся захаваць змяненні, ды ідзе гатаваць вячэру.

У гэтым сне Марыя згубілася. Быццам дзіця, што забылася, як выглядае родны дом. Хаця яна не дзіця і цудоўна гэта ўсведамляе, нават у сне.

Яна па чарзе ўваходзіць у розныя памяшканні: інтэрнацкія пакоі, кватэры, гатэльныя нумары, катэджы. Некаторыя з іх зусім незнаёмыя, некаторыя абуджаюць цьмяныя ўспаміны, падобныя, хутчэй, на дэжавю. Але яны ўсё адно не тое.

Марыя далей ідзе па вуліцы, якая няспынна відазмяняецца – нібы хаатычная нарэзка кадраў розных фільмаў. Часам гэта вузкі праход паміж дамамі ўсходняга гарадка, часам – шырокі маскоўскі праспект.

Разгубленасць з кожнай хвілінай мацнее.

Марыя заходзіць у наступны дом. Гэта пахіленая хатка з прагнілымі кроквамі. Ледзь не ўсутыч да ганку раскашавала вышэзнае хмызззё, мокрае ды парыжэлае, бо цяпер восень. Паўсюль хмельны пах прагнілых яблыкаў – няма каму іх тут прыбіраць.

У боце нешта хлюпае: яна толькі што ўвалілася ў яміну. Марыя лаецца і з дзікім рыпеннем адчыняе дзверы.

Яна спадзяецца заспець тут вельмі старую жанчыну, успаміны пра якую прытаіліся ў адным з самых далёкіх закуткоў яе памяці.

Марыя не можа дакладна сказаць, што гэта за жанчына, адкуль яе ведае і якія повязі іх лучаць. Захаваўся хіба пах ейных сівых валасоў – даўкі і пераспелы, бы настоянка на зёлках, забытая ў склепе сто гадоў таму. І цяпер Марыя інтуітыўна шукае гэты водар.

Дамачка, дай зажыгалку, чуе яна сіпаты голас. Ну ілі давай я так прыкуру.

Марыя ўздрыгвае, быццам нехта пырснуў ёй за каўнер ледзяной вадой, Як выявілася, яна сядзіць у закінутым скверыку з бюстам нейкага даўно забытага героя працы. На пашчэрбленым асфальце купы смецця, у якіх утрапёна корпаюцца галубы. Па вуліцы з дзікім свістам пралятае старэнькі тралейбус.

А пагодка-та нічаво сявоння, праўда? Я б і на рыбалку паехаў, толька вот чо-та стромна. Там эці на ўездзе стаяць, блакпост, б...я, а хер іх знает, што ў іх там на ўме.

Птушка невядомага для Марыі віду раптам сядае на бетонную лысіну героя. Галубы тут жа накідваюцца на чужынца, не зважаючы нават на ягоныя паважныя памеры.

У хаце волка, печка даўно няпаленая. Некалькі шыбінаў разбітыя, і таму скразняк.

Марыя чуе нейкі шоргат у глыбі вялізнага пакою. Як быццам скрыпіць стары ложак. Паварочваецца на гук.

Яна спадзяецца ўбачыць там старую, але замест яе – дзяўчынка гадоў трох.

– Ты адна? – пытае Марыя.

– Ема ула айла, – кажа малая. – Айла.

Дзяўчынка бярэ Марыю за руку і настойліва цягне да вялізнага драўлянага крэсла, падобнага да царскага трона, што быў саматужна выраблены рукастым вясковым умельцам. Падабенства тым болей умацоўваюць няўцямныя сімвалы на ўзгалоўі: сонца, з якога тырчыць сякера, і нейкі пухнаты звярок.

– Мяне жавуць Малыя, – кажа дзяўчынка. – Ма-лы-я. А цябе як?

Марыя пяшчотна пасміхаецца, гладзіць дзяўчынку па галаве. Ёй трэба запытаць у яе нешта важнае.

Так шо, моэт, скінемся на маленькую? Голас упарта ўрываецца ў свядомасць Марыі. Я дам, ты даш, і пася-

дзім тут трохі. Ну дык шо, скінемся, а? Пагодка харошая, на рыбалку я ўсё раўно не паеду сявоння…

Марыя адчувае, што яна ўрэшце патрапіла па адрасе. Гэта яе дом – хаця за час ейнай адсутнасці ён паспеў змяніцца да непазнавальнасці. Але ёй усё адно становіцца тут невымоўна ўтульна.

Яна сядае на саматужны трон, і пад яе дупай раптам лопаецца пластыкавы пакунак. Такі жарт яны калісьці ў трэцім класе зрабілі з настаўніцай – таўставатай рыжай Аленай Паўлаўнай. Малыя смяецца, і Марыя – таксама.

Раптам яна заўважае, што дзяўчынка расце – літаральна на вачах. У яе з'яўляюцца грудзі, а клубы набываюць прывабныя акруглыя абрысы.

Марыя больш за ўсё на свеце прагне перашкодзіць гэтаму росту, прымусіць Малыю застацца ў цнатлівым дзяцінстве. І ў нейкі момант ёй здаецца, нібы яна ведае, як можна спыніць неспыняльнае.

Слушай ты чо, ебанутая, шо лі? Ілі ужэ ўмазалась с утрэца? Да чо ты как ненармальня, ёпт. Давай, давай прасыпайся, хуля.

Марыя хоцькі-няхоцькі расплюшчвае вочы. Хаты ўжо больш няма, знік і водар падгнілых яблыкаў. Засталася толькі пустэльная плошча з бюстам героя.

Разам з незнаёмцам яны моўчкі рушаць у бліжэйшую краму.

Недзе раз на тыдзень Марыя прыходзіць да брата Зосімы, хаця гэта і даволі далёка ад яе дома. Яна вельмі мала гаворыць, куды болей маўчыць.

Брат Зосіма распавядае пра тое, ува што ён верыць. Як Бог стаў чалавекам, як Творца свету прыняў выгляд слугі і быў укрыжаваны, каб выбавіць людзей ад іх грахоў.

Ён кажа пра гэта спакойна і няспешна, як быццам апісвае пажаўцелы клён за вакном.

Марыя не можа прыняць гэтую гісторыю як нешта большае, чым проста гісторыя.

Ёй шматразова даводзілася быць удзельніцай чыіхсьці гісторый, робячы ў іх тое, што скажуць, становячыся ўвасабленнем нечых фантазій, пругкім і мяккім месівам, з якога скульптар мог ляпіць усё, што прыйдзе яму да галавы.

З таго часу на гісторыі ў яе трывалая алергія. Яна прызнае іх безумоўнае вяршэнства і ўладу, але не можа нават сабе ўявіць, як у гісторыі можна *верыць*.

Паміж ёю і любой гісторыяй захоўваецца непераадольная дыстанцыя, заўсёды ўласцівая адносінам акцёра і драматурга.

Словы брата Зосімы губляюцца сярод таго мноства разнаітых сюжэтаў, якія хоцькі-няхоцькі ведае Марыя. Урыўкаў нечых гісторый, што выклікаюць у яе адстароненую абыякавасць, а таксама ашмёткаў гісторыі ўласнай, здатных спарадзіць пякучыя прыступы болю.

Урэшце, Марыі хочацца нейкіх іншых гісторый – атракцыйных, здатных наталіць жыццядайнай віль-

гаццю яе засохлыя эмоцыі. І абавязкова каб быў хэпі-энд. Такіх гісторый ёй даўно не хапае.

У брата Зосімы пасівелая барада. Ён ставіць на пліту імбрык, дастае аднекуль счарсцвелае печыва. На заводзе, дзе ён працуе, ужо трэці месяц не плацяць заробак. Брат Зосіма кажа, што для яго гэта вялікая спакуса – упасці ў нуду і асуджэнне. І толькі сілай Божай удаецца захоўваць кволы і крохкі мір.

Ён распавядае пра грэх і адкупленне праз хрост у Ярдане. Пра ваду, здатную змыць усё мінулае. І пра кроў, якая надае вадзе гэтую моц.

Цела Марыі падаецца ёй грузным, аморфным, напаўжывым. Кожная яго малекула настолькі набрыняла гноем мінулага, што аддзерці яго не атрымаецца нават ацэтонам. Нават разам са скурай.

З іншага боку, цела – гэта адзіная рэальнасць, у якую яна верыць.

Марыя механічна грызе печыва, крышынкі падаюць на джынсы. У целе нешта чэшацца, муліць, пабольвае. Яна ніколі гэтага не аддасць.

Далей брат Зосіма кажа, што мінулае ўжо прамінула, яго проста няма.

Ён кажа пра смяротную сілу мінулага, пра тое, як блізкія некалі людзі пераўтвараюцца ў галівудскіх зомбі, у паразітаў, што высмоктваюць сілы, бы павук высмоктвае ўсё жывое з цельца злоўленай ім мухі.

Відавочна, ён ведае, пра што кажа. Марыя таксама ведае.

Затым ён кажа пра небяспеку будучыні, пра атрутныя міязмы надзей, пра драпежныя кветкі чакання.

І пра тое, што ні ў якім разе нельга ад іх пазбаўляцца.

Пра лёд унутры і лёд звонку і пра скрыгат, які ўзнікае пры дотыку гэтых двух гатункаў ільду.

Пра эга, успухлае, як гематома: яно нарывае, баліць пры кожным дотыку, гніе.

Затым ён кажа пра Прысутнасць і пра тое, што мы не адны.

Кажа пра Нябачную царкву – там, дзе двое альбо трое.

Кажа пра Святло лагоднае, якое не здатны гэты свет пагасіць.

І кажа пра цемру, пра пустэльню безжыццёвую і збавенную.

Марыя ўспрымае ягоныя словы найперш як механічныя хістанні паветра. Іх роўная амплітуда яе заварожвае.

Наступным разам дзверы кватэры брата Зосімы адчыніць незнаёмы мужчына, тоўсты, лысы і няголены. Наставіўшы на Марыю рулю пісталета, ён прымусіць яе падняць рукі, дбайна абмацае з галавы да ног і паведаміць, што былы гаспадар "таго, на падвал".

Марыя нават не паспрабуе даведацца працяг гэтай гісторыі.

— Ну, Міла-таміла, давай ужэ, хваціт меня таміць.

Ён прыціскае яе да сябе – пра што можна меркаваць па ейным напускным узвізгванні, – затым, напэўна, садзіць на калені. Далей адбываюцца працяжныя пацалункі, час ад часу яны перапыняюцца ўзаемнымі кампліментамі: бусечка, мілашка, ослік, сам ты ослік. Шаргаценне тканіны. Ай, парвёш жа! Шчас, я астарожненька, да не парву я, не бойся…

Марыя міжволі ўслухоўваецца ў гукі, што даносяцца праз не надта трывалыя сцены панэлькі. Іншага выбару ў яе няма. Тыя дзеянні, якія гукамі не пазначаюцца, цалкам можна рэканструяваць з дапамогай уяўлення.

З Дзімам, які жыве ў суседняй кватэры, яны дасюль добра не пазнаёміліся, хіба вітаюцца пры сустрэчы на лесвічнай клетцы. Марыя амаль нічога пра яго не ведае. Здаецца, ён так і не ажаніўся.

Марыя не адчувае людзей, якія знаходзяцца побач з ёю. Для яе яны нават зазвычай пазбаўленыя паху, не кажучы пра эмацыйны водгук. Яны даўно ўжо для яе людзі-функцыі, а не самадастатковыя суб'екты. І тым болей не людзі-знакі.

А тым часам яны існуюць – і цалкам аўтаномна ад волі Марыі. Прычым існуюць менавіта тут і цяпер, на адлегласці яе выцягнутай рукі – калі б яе можна было выцягнуць цераз сценку.

Нягледзячы на млявы супраціў, Дзіма ўмела расшпільвае станік і авалодвае ім, бы трафеем. Правая пяцярня абхоплівае мяккі пульхны паўконус, плаўна яго сціскае. Пальцы паступова скіроўваюцца ў эпіцэнтр, да

смочка. Міла глыбока і імпульсіўна ўцягвае вільготным ротам паветра, раптам з яе вырываецца кароткі стогн.

Але затым хватка слабне. Пругкасць падаецца Дзіму недастатковай, і ён намацвае левай рукой пульт. Памылкова трапляе пальцам не на тую кнопку, пасля чаго Міла адразу здымае з яго спартыўныя порткі ды цягнецца вуснамі да чэлеса.

Гэта пакуль зарана. Дзіма робіць адмену (Міла імпульсіўна адторгвае руку і выпростваецца па стойцы “смірна”), павялічвае пругкасць грудзей, а заадно і трохі іх памер, натхнёна ціскае.

Затым яго правая рука прасочваецца ў ейныя майткі. “Ай, не жмякай так, о… а… як хораша, родненькі, як хораша!” – вырываецца з яе рота, які ўсё бліжэй да ягонага вуха.

– Как будта год не ібалась! – бурчыць Дзіма ды зноў цягнецца па пульт, каб прымусіць сваю каханую стаць крыху халаднейшай.

Раней здольнасць хутка рабіць Мілу шчаслівай цешыла ягонае самалюбства, але цяпер гэта ўжо надакучыла. Хочацца нейкай драматургіі працэсу.

Рот Мілы раптам адсланяецца ад ягонага вуха. На яе твары прамалёўваецца засяроджанасць або, хутчэй, нават адчужанасць. Міла ўскоквае на ногі, няспешна дэфілюе да вакна. Дзіма не адрываючыся сочыць за ёй вачыма.

Міла пару хвілін моўчкі ўглядаецца некуды ў далечыню. Затым паварочваецца і пачынае дэкламаваць верш Цвятаевай.

Словы “Повторю в канун разлуки” літаральна магнетызуюць Дзіму. Міла цяпер падаецца яму далёкай, амаль недасяжнай, і ад гэтага яшчэ больш жаданай.

– Ну што ты, мая харошая, ну што, ну што… – ён спрабуе абняць Мілу ззаду, але яна рэзка вырываецца. Ейны погляд колкі, бы ледзяная дзіда.

“И еще скажу устало – Слушать не спеши!”... – метрычная паэзія дзейнічае на Дзіму не менш узбуджальна, ніж жалейка Нільса на пацукоў.

Яго рукі міжволі цягнуцца да Мілы. Пераадольваючы яе абыякавы супраціў, ён абхоплівае каханую, сціскае ў сваіх абдымках, літаральна ўгрызаецца ў ейны рот сваім пацалункам.

На вачах Мілы з’яўляюцца слёзы, яна песціць Дзіму гэтак лагодна, як раней у яе, здаецца, не атрымлівалася ніколі.

Як водзіцца, акурат у гэтую хвілю звініць тэлефон. Дзіма лаецца, ставіць Мілу на паўзу, тэпае босымі нагамі ў вітальню, адшуквае слухаўку ў кішэні курткі.

Гэта іх бухгалтарка Валя. Дзіма ледзь стрымлівае эмоцыі, калі з дынаміку чуецца ейнае “Как настрае-еніе?”. Фонам ідзе нецвярозы жаночы смех. Відавочна, Валя там не адна.

– Настраеніе ахуенія, – сур’ёзна адказвае Дзіма, разглядаючы ў люстэрку свой дугападобны чэлес.

Босым нагам халадно на плітцы, ён пацепваецца.

– Ну так давай да нас, – запрашае яго Валя. – Тут і шашлычок, і вінішка найдзёцца. І водачкі, еслі што.

Дзіма з радасцю выгукнуў бы ў адказ нешта злоснае і непрыстойнае, але вырашыў стрымацца. Сварыцца з калегамі па працы наўрад ці выпадае.

– Не, Валюша, куда мне? Я ж на мамінай дачэ, работы ішчо неўправарот! Вот толька шыфер палажыў, а нада ж і сцяжку дзелаць...

– Ой, тружэнік ты наш, – Валя не хавае расчаравання. – А мы думалі, пасядзім трохі ў выхадной...

Дзіма цудоўная разумее, што пасля з’яўлення даступных па цане сняжанаў жыццё такіх кабет, як Валя і яе сяброўкі, стала куды складанейшым. Але наўрад ці ён схільны вырашаць чыесьці праблемы за ўласны кошт.

– И что ж теперь? И где все это? И долговечен ли был сон? – працягвае дэкламаваць зноў уключаная Міла.

Дзіма сядае на канапу, слухае пару хвілінаў, ягоны запал пацiху згасае. У страўніку нешта булькоча, з'яўляецца пачуццё голаду. А да ўсяго ён згадвае, што а дзявятай па тэлеку хакей.

Лёгкі націск на патрэбную пімпачку хутка мяняе ход падзей.

– Давай ужо, слушай, не цяні, очэнь-очэнь хочацца, – вільготныя вусны Мілы зноў абхопліваюць ягонае вуха.

Неўзабаве іх целы прымаюць гарызантальнае становішча.

Увогуле пара б ужо паспрабаваць нешта новае, думае Дзіма падчас працэсу. Напрыклад, груба і ў дупу. Балазе, тэхніка дазваляе. Ды і софт хаця палены, але кракнулі яго адэкватна, і глюкаў амаль няма.

Сваёй сняжанай ён не стамляецца ганарыцца. Асабліва прыемна ўяўляць, якім каралём ён будзе на сяброўскай сустрэчы з нагоды 8 сакавіка. Тым болей гэта была надзвычай добрая пакупка.

Папярэднюю сняжану, Рытку, у геніталіях якой ад часу і ўтрапёнага карыстання ўтварыліся прагалы, ён здолеў выгодна ўцюхаць нейкаму прышчаваму школяру (хай практыкуецца падшыванец, падрасце – і на што лепшае назбірае грошай). А потым удалося па акцыі ўзяць сняжану шостага пакалення.

...Між тым Марыя метадычна, з псіхапатычнай падрабязнасцю згадвае тыя моманты, якія павінны былі скіраваць ейнае жыццё ў іншы бок, але ўрэшце захраснулі недзе ў паветры. Тыя завязкі інтрыгоўных гісторый, якія, насуперак усім законам жанру, счэзлі, так і не развіўшыся да кульмінацыі. Зародкі, што не здолелі стаць дзецьмі і цяпер знайшлі сваё пачэснае месца ў слоіках са спіртам кунсткамеры яе памяці. Спіс вельмі доўгі.

Такі занятак не менш атракцыйны, ніж тое, чым цяпер займаецца Дзіма. Марыя, як заўсёды, кажа гэта Іншаму. Да яго скіравана большасць важных словаў, што з'яўляюцца ў яе свядомасці.

Іншы ўжо, напэўна, ведае пра яе вельмі шмат. Яна нават трохі баіцца яму надакучыць ды падацца балбатлівай кабетай.

Марыя абхоплівае далонню падбароддзе і на нейкі час застывае ў мройлівым задуменні.

Праз сцены кватэры даносяцца пранізлівыя гукі жаночага шчасця. Яны па-тэатральнаму дэманстратыўныя – прыблізна як у тых фільмах, дзе калісьці здымалася Марыя. Відавочна, менавіта падобныя крыніцы і бралі за ўзор распрацоўшчыкі адпаведнага софту.

Неўзабаве ўсё сціхае. Міла шэпча на вуха Дзіму пяшчотныя словы, але той ад яе адварочваецца. Нерухома ляжыць ніцма.

Ён адчувае сябе спустошаным. Як быццам яго ўзялі за ногі і патрэслі, высыпаўшы ўсё, што знаходзіцца ўнутры. Да таго ж вельмі моцна муляюць вялізныя 3D-акуляры.

– Ну што ты маўчыш, пуська мая, скажы хоць славечка, – Міла абдымае яго за плячо і спрабуе зазірнуць у вочы.

Дзіма адхіляе яе, абарочваецца, прыўздымае па-над канапай сваё тулава і з размаху б'е па твары. Узнікае паўза.

У яго ёсць усяго некалькі імгненняў, каб прыдумаць матывацыю сваёй агрэсіі, і ён не дае сабе рады за такі кароткі час.

– Што, сука, саўсем ахуела! – толькі і кажа ён. – Я ж цібе ўсё прыпомню, усё…

Выглядае непераканаўча, але эфект гарантаваны. Міла пачынае румзаць.

Дзіма скідае яе з канапы, а затым зноў б’е па твары. Потым яшчэ пхае нагой, акунаючы ступак у мяккія тканкі жывата.

– Мілы, зз… зз… за што? – усхліпвае Міла. – Не трэба, не трэба, каханы…

Яна кідаецца перад ім на калені. Рука Дзімы, зноў паднятая для ўдару, міжволі апускаецца.

– Ну скажы, што, што я табе зрабіла? – працягвае свой надрыўны маналог сняжана, шморгаючы носам і злізваючы соплі, перамяшаныя з крывёй. – Чаму ты руку на мяне падняў?

Дзіму і самому становіцца сорамна, але што тут паробіш: накаціла ды ўсё. Замест выбачэння ён моцна абдымае Мілу. “Ну ладна, малая, ладна, ты ж знаеш… Ладна, малая, не бяры да галавы…”

Далей чуваць грукат посуду, дзынькание шклянак, хіхіканне, чмоканне.

Марыі трохі боязна. Яна чула, што піць са сняжанамі катэгарычна забараняецца: пры найменшай няспраўнасці гэта можа выклікаць кароткае замыканне, а затым – пажар. Дзіма, напэўна, таксама чытаў інструкцыю па эксплуатацыі, але лічыць, што ў кабетах і звязанай з імі тэхніцы бяспецы ён разбіраецца куды лепей за іншых.

Недзе праз паўгадзіны вясёлы шум заціхае. Дзіма згадвае пра хакей, выключае Мілу (у хакеі бабы ўсё адно ні халеры не цямяць і будуць толькі перашкаджаць) і ўладкоўваецца ля тэлевізара. Цяпер ён адчувае, што праграма напоўніцу выкананая, і гэта прыносіць яму прыемнае задавальненне – як пшаніцу прадаўшы. Самы час расслабіцца і засяродзіцца на гульні.

Ён нават і не падазрае, што ўвесь гэты час быў не адзін. Зрэшты, у кожным разе… Тую ненаўмысную сведку, той кволы згустак жыцця, які чапліцца за сцяной яго кватэры, цалкам можна было адразу спісаць з рахункаў і наогул не браць пад увагу.

Звычайна шлях Марыі з крамы дадому займае не болей за пяць хвілінаў. Выйшаўшы з пад'езду, трэба збочыць у прагал паміж аднолькавымі панэлькамі – такімі самымі, як тая, дзе яна жыве. Затым абмінуць дзесяціпавярховы слупок – ён тырчыць тут, бы клык састарэлага вампіра, што даўно ўжо не бываў у стаматолага. Затым рушыць уздоўж высокага глухога паркана, які атачае рэшткі хімічнага завода.

Марыя дакладна ведае змест і размяшчэнне ўсіх нанесеных на яго цела надпісаў.

Урэшце, дарога прыводзіць да мэты. Увечары гэты лапік – адзіны асветлены ліхтарамі – падаецца аазісам жыцця. Нібы цёплы струмень у паўночным моры.

Апошнім часам Марыя рэдка ходзіць кудысьці, апрача крамы. Шчыра кажучы, і хадзіць ёй асабліва няма куды.

Ёй шторазу падабаецца, калі з цемры вонкавай яна трапляе туды, дзе цёпла, светла і добра пахне. А яшчэ ёй даспадобы ўпэўненыя вывераныя рухі, уласцівыя кожнаму пакупніку. Яны вельмі грунтоўныя, сур'ёзныя, пераканаўчыя. Дакладнаму набору дзеянняў спадарожнічае і загадзя вызначаны асартымент эмоцый.

Але гэтым разам яна чамусьці адхіляецца ад звычайнага маршруту. Выйшаўшы з пад'езда, ідзе не налева, а направа. Там усё тое самае – такія самыя пашарпаныя пяціпавярхоўкі.

На нейкі час спыняецца, каб паназіраць за рабочымі, якія корпаюцца ў глыбокай водаправоднай канаве, асветленыя шахцёрскімі ліхтарыкамі. Гэты хтанічны

рытуал чамусьці яе палохае, але зусім нядоўга. І неўзабаве Марыя абыякава рушыць далей, гледзячы сабе пад ногі.

Праз пару хвілін яна трапляе на школьны стадыён. Ужо позна, заняткі даўно скончыліся, у будынку свецяцца толькі некалькі вокнаў. У пустым класе прыбіральшчыца з мацюкамі аддзірае ўтаптаную ў падлогу жуйку.

На стадыёне амаль нікога. Самотны хлапчына гадоў дзесяці караскаецца ў неба па аблупленай паржавелай лесвіцы, але неўзабаве сыходзіць і ён.

Сёння першы дзень лістапада, згадвае Марыя. І акурат у гэты момант пачынае ліцца дождж.

Чамусьці яна чакала на гэты лістапад. Як быццам нешта ў ім павінна было адбыцца. Што дакладна, было незразумела, як невытлумачальныя і ўсе спадзяванні.

У кішэні курткі раптам намацаўся пластмасавы пялёстак, і Марыя адразу запіхвае яго ў рот. Гэта апошні, бо Марыя болей у той майстэрні не працуе.

Дождж плаўна сцякае па яе валасах, агінае няроўныя абрысы цела, сочыцца ўздоўж абцягнутых панчохамі каленяў.

Яна чакае, што лістапад змые ўсё.

Дэманаў радасці, дэманаў мінулага, дэманаў надзеі, урэшце, дэманаў самога чакання.

Змые твары мужчынаў, што былі з ёю цягам жыцця. Барадатыя, вусатыя, паголеныя, даўганосыя, маршчыністыя і нават адзін чарнаскуры. Шматлікія твары.

Марыя думала, яны не адкладуцца ў яе памяці – як не запамінаюцца твары сустрэтых на вуліцы мінакоў. Але, як выявілася потым, кожны з іх захаваўся ў нейкіх патаемных рэгістрах – каб раз-пораз неспадзеўкі нагадваць пра сябе.

Яна чакае, што нехта выключыць у зале святло – і спектакль скончыцца, бо сцэну паглыне цемра.

На бегавой дарожцы стадыёна хутка з'яўляецца вялізная калюжына. У ёй адлюстроўваецца месяц (цяпер амаль поўня), а таксама, вельмі блякла, агні кватэр бліжэйшых дамоў.

Іншы? Яна пакуль не ведае, што рабіць з Іншым. Адмовіцца ад яго чакання – вышэй за ейныя сілы. Хаця розум падказвае, што так трэба.

Але ён не можа патлумачыць, што застанецца пасля таго, як Іншы перастане для яе існаваць.

Занураная ў свае думкі, Марыя не заўважае, што ўжо даўно рушыць па коле. Нібы яна займаецца спартыўнай хадой. Тым часам дождж сціхае.

У калюжыне адлюстроўваецца край ейнага твару, знізу ўверх. Яна адчувае сябе выпадковым прадметам, які знянацку патрапіў у кадр, сапсаваўшы яго бездакорную кампазіцыю.

Замест таго каб своечасова скарэктаваць маршрут і ўсё ж трапіць у краму, Марыя чамусьці скіроўваецца да ракі. Яна зусім недалёка, зарослыя хмызнзём берагі ў такую пару абсалютна пустэльныя.

Сярод веццяя самотнага дуба на невысокім схіле цёмнымі плямамі праглядаюцца пустыя птушыныя гнёзды. Быццам пакінуты сваімі насельнікамі горад.

Марыя выходзіць на невялічкі пляжык, дзе месяцовае святло адбіваецца ад пацёртага і адпаліраванага часам дна перагорнутай рыбацкай лодкі. На тым беразе відаць цьмяныя абрысы заводскіх трубаў.

Вада тут надзвычай брудная, гэта ведае кожны. Але, не зважаючы ні на што, Марыя раптам пачынае верыць: рака валодае звышпрыроднай здольнасцю ачышчаць – змываючы дазвання.

Змываючы дэманаў радасці, дэманаў мінулага, дэманаў надзеі…

Рака падаецца ёй Ярданам. Марыя думае, што, калі яна туды ўвойдзе, воды адразу зменяць свой напрамак

ды пацякуць ад Чорнага мора да тых ледзь прыкметных ручаінак, што бруяцца з нетраў зямлі недзе ў зацішных лясах.

У такі момант, як цяпер, Марыя вельмі хоча ўбачыць цуд. Хаця цудам ёй можа падацца і звычайны фокус.

Падыходзіць бліжэй. Кожны крок усё больш рызыкоўны. Глейкая гразь прагна ўсмоктвае яе красоўкі. Поўня разлазіцца па зыбістай воднай паверхні, быццам вадкае мыла па пральнай дошцы.

Яшчэ адзін рух наперад – і яна злучыцца з ракою. Марыя хоча легчы на ваду, распасцерці рукі. І ўпэўненая, што вада будзе яе трымаць – столькі, колькі будзе патрэбна.

І яна будзе плысці па рацэ – да тых ручаінак, адкуль рака пачынаецца.

Марыя робіць няўпэўнены крок. Падэшва слізгае. Нага амаль міжволі пераадольвае мяжу іншай стыхіі. Красовак умомант прамакае. Марыя ўздрыгвае ад нечаканага холаду.

І ў тую ж секунду рэзка адторгвае нагу і хуткаю хадою выбіраецца да сцяжыны. Не азіраючыся, рушыць у бок гарадскіх агнёў. У той бок, дзе ёсць пяціпавярхоўкі, крама і чаканне Іншага.

*I said to my soul, be still, and let the dark come upon you*
*Which shall be the darkness of God.*

**T.S. Eliot.** East Coker

*Я сказаў сваёй душы: будзь спакойнай і дазволь цемры ў цябе ўвайсці*
*І яна будзе цемрай Бога.*

**Т.С. Эліёт.** Іст Кокер

ЯК І ТРЭБА БЫЛО ЧАКАЦЬ, НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ выдаўся пахмурным. Марыя ўстае позна і доўга разглядае зморшчыны на азызлым пасля сну твары. Цяпер яна магла б патрапіць хіба ў раздзел “спелыя”, праслізнула думка. Але там заўсёды вялі рэй дагледжаныя немкі ды француржанкі, а месца “рускіх” было толькі ў супрацьлеглай катэгорыі “лаліты”.

У ранішнія часы розум нібы выскоквае па-за межы цела, нібы аддаляецца ад яго некуды па сваіх справах.

Цела Марыі цвёрдае і сухое, быццам счарсцвелы кавалак велікоднага пірага.

Цела, дотык да якога прыносіць яму адно нервознасць, а калі цёплым альбо вострым, тады рэфлектарнае ўздрыгванне.

Цела, якое здаецца ёй адзінай уласнасцю, і менавіта таму яно стала чужым.

Яно даўно ўжо не прыдатнае да спажывання. Яно проста функцыянуе.

Марыя разглядае ямінкі, складкі, варыкозныя прожылкі, шчылінкі, бугарочкі, валасінкі, чырвоныя плямкі. Смочкі апушчаны долу – не тое што раней.

Праз адчыненае вакно чуваць выбух. Гэта ўпершыню, таму Марыя палохаецца. Фортка грукае аб сцяну, шкло трасецца ад вібрацыі, але не разбіваецца. У дзясятках машын сінхронна спрацоўвае сігналізацыя – у кожнай на свой матыў, – і ў гэтым гармідары першапачатковая прычына неяк хутка забываецца.

Марыя апранае халацік, запальвае і падыходзіць да вакна. Ля пад’езда бязладная гамана. Усе паказваюць у бок цагельнага завода. Відавочна, снарад пацэліў менавіта туды.

Марыя згадвае апошнія навіны на мясцовым радыё, але тут жа лічыць за лепшае іх забыць.

Марыя не распрануўшыся плюхаецца ў ложак, на брудныя прасціны, якія яна ніколі не прыбірае. Стома чамусьці даецца ў знакі куды болей, ніж голад. Стома, нібы нецярплівы мужчына, навальваецца на яе і авалодвае, лёгка перадольваючы млявы супраціў.

У кватэры ўжо паўзмрок, але яна не запальвае святло. Подзьмухі ветру адсланяюць фіранку, і ў пакой трапляюць водблескі фар выпадковых машын.

У суседняй кватэры Дзіма глядзіць футбол. Паверхам вышэй чувац грукат посуду. "Да ацтань, ня буду я твае катлеты. Апяць булкі дахуя налажыла".

Марыя перакотваецца са спіны на жывот і ўтыркаецца тварам у падушку. Заплюшчвае вочы. Прыемная нерухомасць.

Ёй хочацца заспяваць для яго песню, і яна ўяўляе, як песня злучае іх, утварае ў іх целах скразныя адтуліны і робіць іх нечым адным.

Цела Марыі цяпер ужо не здаецца ёй такім маналітным, як гэта бывае звычайна. У ім адкрываюцца поры, праз якія трапляе паветра. Яна можа адчуваць сваім целам паўзмрок, што пануе ў пакоі, выгіны кветак на падваконні і нават дождж, які пачнецца за вакном яшчэ толькі праз пару хвілінаў. Цяпер яна можа спяваць сваім целам.

І вось песня ўжо гучыць у яе ўяўленні. Ён таксама ў яе ўяўленні, і песня робіць яго там прысутным. Яна здатная нават чуць гэтую песню *яго* ўяўленнем.

І няма нічога страшнага ў тым, што гэтая песня пра смерць.

Марыі хочацца прамаўляць гэтае слова на музычны лад, цягнуць яго сваім прыгожым сапрана, якое было дадзена ёй таксама толькі ва ўяўленні.

Смерць ва ўсе часы была найлепшай тэмай для песень.

Смерць – гэта зусім не яе цяперашняя рэальнасць.

Смерць бывае адно ў шумерскіх паданнях альбо на карцінах прэрафаэлітаў.

Смерць ніколі не прыйдзе ў яе аднапакаёўку з выцвілымі кветачкамі на шпалерах і лінолеумам на кухні – узбухлым, як ёй падаецца, ад слёз.

Тут, сярод аднолькавых пашарпаных пяціпавярховак, проста не можа быць смерці. Тут ёсць польская сантэхніка, еўрарамонт. У кожнай з ячэек цепліцца сваё жыццё, мілае знутры, але бясконца панылае для адчужанага погляду назіральніка.

Смерць заўсёды ўяўлялася ёй нейкай атрыбутыўнай прыкметай часу, але тут час застыў, бы кавалкі тушаніны ў бляшанках на забытым стратэгічным складзе.

Аднак Марыі цяпер дадзена адчуваць час, прычым зусім не як непазбежнасць альбо імператыў. Але таксама і зусім не як смерць.

Яе цяперашнім часам раптоўна становяцца панчохі, знятыя пасля насычанага ўражаннямі дня і пакладзеныя на ўскраек гатэльнага ложка, складкі на якім будзяць прыемныя ўспаміны. Альбо замілаванне, калі ў парку спасярод вялізнага горада яна раптам убачыла вожыка. Альбо той выпадак, калі яе папрасілі трохі патрымаць на руках пяцімесячную дзяўчынку, і немаўля паспела насікаць Марыі на сукенку.

Марыя хоча занурыцца ў кожны з гэтых момантаў і навекі зрабіць яго сваёй рэчаіснасцю. Як быццам паставіць на паўзу фільм на самым прыемным ягоным кадры – перад тым як здарыцца непазбежны ў драматургіі канфлікт.

Разуменне таго, што гэта немагчыма, накотваецца, бы лавіна цэменту. Сваімі абгрызенымі пазногцямі Марыя ўтыркаецца ў мяккія тканкі ля запясця.

Затым устае з ложка, чамусьці ідзе ў вітальню, вяртаецца, уключае тэлевізар, некалькі разоў шчоўкае пультам, калі бачыць на кожным канале выявы свайго няроднага горада. Урэшце, трапляе на прагноз надвор’я па “Еўраньюс” і пакорліва выслухоўвае, колькі градусаў заўтра будзе ў Монтэвідэа, а колькі ў Бейруце.

Затым выключае тэлевізар і зноў кладзецца ў ложак. Затым устае, каб памыць яшчэ заўчорашні посуд, але замест гэтага чамусьці з усяе моцы б’е нагой парожнюю бутэльку ад піва, што стаяла пасярод кухні. Затым ізноў уключае тэлевізар, і ён узрывае паветра злавеснымі гукамі калыханкі.

Поры цела Марыі паступова закрываюцца, быццам бронезаслонкі ў кулямётнай амбразуры, і ўжо неўзабаве яна не можа адчуваць зусім нічога.

Цела Марыі – гэта яе абалонка, якая абараняе і аберагае.

Марыя вяртаецца з крамы, цягнучы пакунак з алеем, бульбай, памідорамі. Сёння ізноў падаражэла.

Нейкі час яна магла ўвогуле не есці, проста забывала пра гэта. Сядзела ў сваім крэсле ля вакна і паліла цыгарэту за цыгарэтай. На зарослым школьным двары бавіліся дзеці, стаяла гамана. Потым цямнела, у суседнім доме запальваліся вокны. Аднойчы яна нават бачыла ў небе кітайскі ліхтарык.

Але тое было даўнавата, калі яна толькі сюды прыехала. Цяпер Марыя нешта есць, хаця вельмі няшмат і лянуецца гатаваць.

Марыя ставіць клункі на падлогу і пачынае выкладаць іх змесціва ў старэнькую лядоўню.

Здыхлік ужо прачнуўся, ён сноўдаецца ў адных майтках на кухні. Хоча наліць сабе вады з крана, у яго сушняк.

За тыя гады ягоная пастава моцна змянілася, адзначае Марыя. Хударлявы, сутулы, скрыўленыя валасатыя ногі з жоўтымі пазногцямі. Зрэшты, ён ніколі не вылучаўся прыгажосцю. Ён жа прадзюсар, ад яго не патрабавалася. А ўсё, што яму было трэба ад дзяўчат, мог узяць на кастынгу альбо пасля здымак. Так бы мовіць, па-сяброўску. Марыя ў такіх выпадках асабліва не высільвалася, але былі дурніцы, якія думалі, быццам гэткім чынам можна палепшыць кар'еру.

Здыхлік дэбілоідна пасміхаецца, гледзячы на яе. Марыя чамусьці асабліва востра адчувае, што лета ўжо скончылася, прычым незваротна. Лінолеум пачаў

адрываецца ад падлогі, адкрываючы воку дзіўны свет жыцця бактэрый.

Марыя расшпільвае куртку і вешае яе на цвічок у вітальні. У яе з'яўляецца адчуванне нейкай незавершанасці. Вяртаецца на кухню, набірае ў рондаль вады, ставіць на пліту. Мые пад кранам памідоры, рэжа іх на дошцы, затым адным махам нажа скідае ў міску, соліць, налівае алею. Дастае з лядоўні кавалак сала, распалосвае яго. Усё як звычайна.

Калі тры дні таму ў яе кватэры раптам раздаўся званок, Марыя ажно схамянулася. Такое здаралася і раней: суседзі заходзілі, каб пазычыць пласкагубцы альбо на пляшку, цыганы збіралі "на аперацыю сыну", абаяльныя і гладка паголеныя мужчыны пры гальштуках прапаноўвалі наборы посуду.

Кожнага разу ўнутры Марыі раптам успыхвала надзея. Нешта абавязкова валілася з рук – як быццам яе нехта прыгадваў.

Расчараванне было настолькі балючым, што ў адказ на спакуслівыя дзелавыя прапановы або ўмольныя просьбы Марыя толькі моўчкі ківала галавою, не надта ўсведамляючы, чаго ад яе хочуць.

– Дэбілка, напэўна, – ледзь чутна казалі тады візітанты. Пацiскалі плячыма ды сыходзілі ад граху падалей.

Здыхлік з’явіўся ў кватэры неспадзявана для Марыі – і бадай незаўважна. Пасля таго як яго бізнес лёг пад націскам сняжанаў, ён недзе туляўся, нават спрабаваў ажаніцца.

Не даслухаўшы ягоны аповед, Марыя ідзе на кухню, каб прынесці шклянкі для “трох сякераў”.

За ўвесь вечар яна прамаўляе хіба пару словаў. Здыхлік таксама.

Калі партвейн сканчаецца, Марыя выключае тэлевізар, і яны кладуцца спаць.

Вада ва ўнітазе цурчыць тонкім струменьчыкам. Марыя мае вельмі абвостраны слых. Часам яна можа чуць нават сіплае дыханне суседа Толіка, які ў сне нібы адхарквае назапашаныя за доўгі век успаміны.

Касыя промні месяцовага святла пакідаюць палосы на сцяне пакою. Здыхлік робіць сваю справу і неўзабаве засынае, а Марыя яшчэ доўга паліць, лежачы на спіне і ўслухоўваючыся ў цурчанне вады, ціхае-ціхае-ціхае.

Цяпер, калі Марыя гатуе есці, Здыхлік гаворыць нечакана шмат. Пра тое ды пра іншае. Яго цікавіць японская культура і ў прыватнасці кодэкс бусідо. У тым, што ён кажа, вельмі шмат клічнікаў і словаў-паразытаў (“Э… ну, кароча…”), і Марыя звяртае на іх увагі нават болей, ніж на самі словы. Але часам яго маўленне становіцца хуткім і ўпэўненым. “У штодзённых справах трэба не забываць пра смерць і захоўваць гэтае слова ў сэрцы” – па памяці цытуе Здыхлік.

Марыя хапае брудны ручнік і здымае з фаеркі рондаль з бульбай. Усё-такі абпальвае палец і нязлосна лаецца.

Здыхлік нагінаецца, каб пачухаць сваю лытку. Валасы на ягоных грудзях звісаюць няроўнымі пасмамі. І гэта той лес, у якім ты зусім не хочаш схавацца.

Марыя паўтарае ягоны рух, але ўжо без усялякага сэнсу. Чухае лытку, хаця яна не чэшацца. Ёй хочацца пераканацца, што маторыка пальцаў у іх са Здыхлікам абсалютна розная.

Затым змахвае крышынку хлеба, якая ўжо каторы дзень чарсцвела на стале. Здыхлік у гэты момант пераходзіць да тэмы пачуцця віны ў кодэксе самурая.

У двары скрыпнулі арэлі. Зваліўшыся зь іх, п’яны Толік раптам пачынае спяваць – замест таго, каб проста мацюкнуцца.

Сёння першы дзень, калі яна не адчувае Іншага побач з сабою.

Уздоўж суседняга дома праязджае белая машына. Шапаціць лісце, ускалыхнутае ўжо даволі прахалодным ветрыкам. Пахне спаленай гумай. Здыхлік кажа: “Шлях самурая – гэта памкненне да смерці”.

Марыя пачуваецца відэарэгістратарам, які абыякава фіксуе тое, што адбываецца навокал. Прымусіць сябе ўзяць у руку відэлец у такіх варунках асабліва складана. А калі гэта ўсё ж удаецца, высвятляецца, што ўжо позна. Здыхлік заўсёды валодаў унікальным умельствам гаварыць і есці адначасова.

Спахапіўшыся, Марыя ўключае радыё, каб не прапусціць паведамленне пра камендантскую гадзіну. Вецер ускалыхвае клён, што расце ля самых вокнаў, і яго аголеныя галіны падаюцца Марыі безліччу хцівых рук, якія мкнуцца долу, каб схапіць за горла сваю ахвяру.

Важную інфармацыю яны выслухоўваюць моўчкі, а затым сыты і задаволены Здыхлік пачынае зноў разважаць пра самураяў ды пра смерць. Матор лядоўні раптам заводзіцца, як быццам бы з мэтай запярэчыць.

Смерць можа быць у простых рухах, думае Марыя. У тым, як яна звычайна запальвае фаерку альбо адразае лусту хлеба, насамрэч вельмі шмат смерці. Гэта, лічы, запаволенае харакіры. Запаволенае настолькі, што ўжо ў сярэдзіне дзеяння ты зусім не памятаеш, з чаго яно пачыналася. Не кажучы пра яго мэту.

Марыя выключае радыё. Надыходзіць вечар, які нясе звыклы безнадзейны спакой.

Колькі яшчэ такіх вечароў яе чакае?

Прытаміўшыся ад інтэлектуальнай працы, Здыхлік прылёг на канапу, і неўзабаве ўжо можна пачуць ягоны храп. Грудзі рытмічна ўздрыгваюць, аброслыя шчэццю шчокі надзімаюцца і здзімаюцца – нібы ён напампоўвае паветрам гумовы балонік. Здыхлік спіць спакойна, як і кожны чалавек з чыстым сумленнем.

Марыя бярэ з кухоннага стала даўно нямыты нож з наліплым хлебным месівам, выцірае яго крысом майкі, распалосвае некалькі пальцаў на левай руцэ і піша чырвоным на палінялых шпалерах: ПАРТЫЯ СУПРАЦЬ БУДУЧЫНІ.

Гэта нічыйная тэрыторыя, невялікая пустка паміж аўтамагістраллю ды жылымі кварталамі. Вось ужо колькі дзесяцігоддзяў яна трывала выключана з цывілізацыйных працэсаў, стаўшыся для ўсіх лішняй. Яе прынята праміналь па датычнай, на ладнай хуткасці ды гледзячы выключна перад сабою.

Дзякуючы гэтаму лапік зрабіўся сапраўдным запаведнікам для смецця. Людзі рэгулярна выкідаюць туды самыя розныя рэчы, і ніхто – за выключэннем хіба рэдкіх бамжоў – іх не прыбірае.

Гэтыя рэчы металічныя, пластмасавыя, скураныя, кардонныя. Чырвоныя, жоўтыя, парудзелыя, асклізла-шэрыя. Некаторыя з іх даволі буйнагабарытныя, а некаторыя нават цяжка і ўгледзець у траве.

Позірк факусуецца на нейкіх дробных дэталях, кшталту паўсцёртай наклейкі на кодабе дзіцячага грузавіка.

Марыя здатная бачыць пэўнае хараство ў выпадковых спалучэннях прадметаў, арганізаваных паводле сваіх натуральных законаў – нібы непадуладная чалавечай рэгуляцыі экасістэма.

Найперш гэтае хараство ў ненаўмыснасці. Ніводзін дызайнер альбо мастак не здолеў бы стварыць такую інсталяцыю.

Толькі вецер, павеў якога раптам кудлаціць яе валасы.

Марыі здаецца, што гэта месца, куды людзі адносяць свае ўспаміны і нерэалізаваныя жаданні, каб пастарацца назаўсёды ад іх пазбыцца.

У спякотныя дні лета высокая трава, якую няма каму касіць, выгарае на сонцы, жоўкне і становіцца

нібы з пластмасы. Цяпер позняя восень, трава мокрая і аблезлая. Пад падэшвамі хлюпае.

Марыя забрыла сюды выпадкова і без дай-прычыны. Ёй не надта карціць вяртацца дахаты і зноў бачыць чужы твар па той бок кухоннага стала.

Напэўна, па начах тут усё жыве сваім жыццём, думае яна. Рэчы цяжка ўздыхаюць, вохкаюць, жаляцца ды паўтараюць, бы мантры, свае даўно абрыдлыя суседзям гісторыі.

Але цяпер дзень, і шызаватае святло агаляе іх банальную сутнасць.

Яна адчувае сябе выпадковай сведкай, міжвольнай вуаерысткай, якой собіла падгледзець недатычныя яе праявы чужога жыцця

Марыя з цікаўнасцю ўздымае з зямлі ўшчэнт прагнілы ружовы пантофлік на невялічкім абцасе. Прыкладна 36-ы памер. Ён вельмі нагадвае рэквізіт тых фільмаў, дзе ёй даводзілася здымацца. Нешта па-дзявочаму наіўнае. Такое заўсёды вабіла мэтавую аўдыторыю – асабліва тых, хто з залысінамі, лішняй вагой і валасамі на пузе.

Марыя адкідае пантофлік ды рушыць далей. Ступае асцярожна, выверяючы кожны крок. Ёй не хочацца парушаць натуральны ход падзеяў у гэтым запаведніку смецця.

Метраў праз дваццаць спыняецца, чамусьці ідзе назад, зноў падымае пантофлік. Ёй здаецца, што гэтая вартая жалю рэч раптам пачынае да яе прамаўляць.

Адной цудоўнай раніцай Пол знайшоў той пантофлік на падлозе сваёй раздзяўбанай “бэмкі” і пэўны час не мог згадаць, каму б ён мог прыналежыць. А згадаўшы, тут жа палічыў за лепшае забыць. Пагатоў, далёка не ўсе эпізоды яго начных прыгодаў былі прызначаныя для доўгатэрміновага захоўвання ў памяці.

Пол пацiснуў плячыма, вылаяўся ды выкiнуў знаходку праз фортку – пакуль мама не заўважыла ды не ўчынiла чарговы скандал.

Пантофлiкi Аня купiла акурат напярэдаднi iх спаткання – i, што ўжо тут утойваць, менавiта з яго нагоды.

Аня была пульхнаватай i без меры наiўнай. У краме ёй нават не прадавалi пiва, пакуль яна не пакажа дакументы.

Рабацiнiсты твар, светлыя валасы, смешны даўгаваты нос, падобны да неразвiтай дзюбы.

Яе мiмiка. Дзiўныя ўздрыгваннi правай рукi як рэакцыя на пачуты жарт.

Бачыш, кажа Аня, яно ўсё стала зусiм iншым. Гэтае шызаватае святло летняга золку, гэтыя правады, лаўка, закiнуты запарожац ля ўзбочыны, мае прожылкi, што праглядаюцца праз белую скуру запясця, яно ўсё стала зусiм iншым, калi ты побач.

Аня кажа гэта сваiм целам, пакуль Пол расцiрае пальцамi правы локаць. Ён доўга ляжаў у адной позе, i цяпер яму трохi мулiць.

Яна кажа гэта, калi ўсё ўжо адбылося. Адбылося амаль як у тых фiльмах, якiя сёння Пол назваў бы старамоднымi, але тады глядзеў ледзь не суткамi.

Я стала часткай цябе, я зрабiлася вадкай, падатлiвай i амаль празрыстай, кажа Аня. Я пранiкла праз тваю скуру, мой любы, i цяпер паволi расцякаюся па тваiх артэрыях.

Голас Анi гучыць, перакрываючы тлум дыскатэкi, п’яныя крыкi на вулiцы, навязлiвы шум у галаве. Гучыць i неўзабаве змаўкае.

У тую летнюю ноч Аня прыйшла дахаты басанож i схлусiла маме, што аддала ружовыя туфлi сяброўцы на выпускны.

Потым былi днi колкага чакання, калi кожны званок мабiльнiка прымушаў яе ўскалыхнуцца, бы сiрэна паветранай трывогi.

Потым былі незлічоныя зімовыя раніцы, падобныя адна да адной. Сон падступна абуджаў надзею, але першыя ж промні няўпэўненага дзённага святла раскрышвалі яе на дробныя і вострыя аскепкі.

Аня цяпер працуе раздатчыцай у сталоўцы. Яна тоўстая, нязграбная, апранутая ў зашмальцаваны фартушок. Твар чырвоны. Дае аплявуху, калі хтосьці дзеля жарту хоча яе ўшчыкнуць за лытку. А па вечарох плача, выключыўшы тэлевізар пасля чарговага сеансу мыльнай оперы.

Ружовы пантофлік на тонкім абцасіку ніяк бы ўжо не налез на яе тоўстую цэлюлітавую нагу. Яна проста яго растаптала б.

Рэчы застаюцца, калі знікаюць пачуцці, кажа Марыя. Рэчы можна памацаць, патрымаць у руках, паднесці да носа. А потым зноў выкінуць у мокрую траву.

Пантофлік з шоргатам туды апускаецца, Марыя выцірае прыліплую да пальцаў гразь.

Рэчы надзейныя і непарушныя, нават калі яны аддадзеныя пад уладу гніення. Людзі перастаюць быць значна хутчэй – спачатку адно для аднаго, а потым і для сябе саміх.

Марыя ўяўляе ўсю гісторыю толькі як сукупнасць рэчаў. Трывалых, маўклівых, непадуладных эмацыйным павевам. І думае пра тое, што застанецца ў выніку ад яе.

У сне Пол яшчэ неаднаразова дакранаўся да твару Ані і штоaccess ўразу здзіўляўся яго ўласцівай хіба для камянёў халадэчы.

Раніца. На кухні скразняк. Праз прыадчыненую фортку разам са сцюдзёным паветрам з вуліцы ўрываецца дзіцячы віскат, пах дрэннай саляркі, урыўкі апошніх навінаў.

Марыя ўжо хвілін пятнаццаць сядзіць ля вакна. Нічога не робіць і ні пра што не думае. Урэшце, пацепваецца ад холаду, устае і прычыняе фортку.

Нядзеля. Двор нагадвае карціну Брэйгеля. Хтосьці выбівае дыван. Хтосьці падыходзіць да кагосьці, хто гуляе ў даміно на капоце старога "жыгулёнка", нязлосна лаецца і чуе прывітальную лаянку ў адказ. Хтосьці заклейвае вокны крыж-накрыж ды закладае мяхамі. Хтосьці караскаецца па канструкцыі, падобнай да вавілонскай вежы, але захрасае на палове шляху, раптоўна спалохаўшыся вышыні. Хтосьці ў той самы час саслізгвае з самага верху падобнай канструкцыі. А потым гучна апавядае сябрукам пра тое, як учора "бубух", і пра дзядзек, якія прыехалі на танку ў іхны двор ды пару разоў пальнулі з гарматы.

Шмат рухаў, шмат дэталізацыі. Фантасмагарычнасць сюжэта адчуваецца, толькі калі паспрабаваць правесці паміж рознымі дзеямі паралелі, выкрышталізаваць іх агульны наратыў. У Марыі бадай атрымліваецца, сюжэт падаецца ёй выкшталцона-вар`яцкім, і гэта яе забаўляе.

У дзверы грукаюць. Спачатку яшчэ даволі далікатна, з секунднай паўзай: бум… бум… бум, але неўзабаве ўжо гучна і нецярпліва. Марыя чуе мацюкі: "Ды тут ён, хуля, зашыўся, б…я, сука".

Яна ведае, што гэта зноў прыйшлі па Здыхліка. Пару дзён таму ён паспрабаваў абрабаваць краму на пры-

вакзальнай плошчы. Зразумела ж, няўдала. Ягоны твар патрапіў у камеру відэаназірання, а злоўлены ў тую ж ноч няздара-напарнік ведаў адрас Марыі.

Яна ўстае з крэсла і няспешна ідзе адчыняць. Байцы народнай міліцыі пахнуць баршчом з часныком – зрэшты, чым яшчэ яны могуць пахнуць?

– Ды не ведаю я, сноўдаецца недзе, – з парогу кажа яна, ледзь не апярэдзіўшы запытанне. – Ён мне ўвогуле… муж ці што?

– Ну, любезная, так а тады хто?

– Конь у пальто, – адказвае Марыя.

Яны не спяшаюцца сыходзіць, хутка прыкідваючы, чым ім можа быць карысная гэтая зусім яшчэ нестарая кабета. Але іх позіркі натыркаюцца на вочы Марыі, беспахібна счытваючы ў іх агеньчыкі шаленства. Абодва сінхронна прыходзяць да высновы: з такой лепей не звязвацца, ну яе нах. І неўзабаве іх крокі ўжо чуваць на лесвіцы.

Марыя вяртаецца на кухню, у галаве млява варушацца кавалкі пачутых толькі што каструбаватых фразаў: “абавязаны уведаміць а прысутствіі”, “сакрывацельства являецца саучасціем”. Усё гэта паралелізуецца з усведамленнем таго, што сёння нядзеля.

Здыхліка, напэўна, хутка знойдуць, думае яна. І тады расстраляюць. Звычайна такіх расстрэльваюць, асабліва ў такі час.

Марыя зноў займае свой назіральны пункт ля вакна. За прамінулыя пару хвілін у агульнай карціне адбыліся прыкметныя змены. Купка дзяцей пакінула горку ды згрупавалася ля мужыка ў камуфляжцы і з аўтаматам. Гэта адзін з той самай народнай міліцыі, ён жыве ў суседнім доме, і малыя яго ведаюць.

Умольна просяць даць ім пастраляць. Урэшце, мужык згаджаецца – “але толькі адзіночнымі”. Кулі адна за адной угрызаюцца ў сцяну прыземістага бу-

данчыка электрашчытавой. Захопленыя ўскрыкі, смех...

Марыя ўстае – трэба нарэшце памыць падлогу. Але тут жа зноў млява апускаецца на сваё крэсла. Бездапаможна запальвае і вырашае яшчэ пасядзець ля вакна.

Яно цудоўна замяняе ёй тэлевізар, забяспечваючы ненавязлівы фон з рухаў і гукаў. Прычым, як няцяжка заўважыць, падзеі за вакном часам нават менш прадказальныя, ніж на экране.

Марыя часта засынае ў самых нечаканых месцах: у аўтобусе, у чарзе па талоны на хлеб, падчас размовы за выпадковай пляшачкай з нейкімі напаўзнаёмымі ў парку.

У гэты момант Марыя кажа: я – сон. Я зусім сон. Альбо, дакладней, сненне, бо маецца на ўвазе не з'ява, але вязкі, павольны працэс. Нібы сочыва пакрысе выплёскваецца з-пад накрыўкі цуда-гаршчочка, прымушаючы ўсіх навакольных мух замерці ў экстазе блаславёнай смерці.

Сненне – гэта працэс. Паступовае змяненне тэмпературы цела, колераў унутры, тактыльных адчуванняў.

Ліхтарны слуп ёй падаецца зробленым з пластыліну. Як, зрэшты, і асфальт пад нагамі, якому цяпер яна можа надаваць прывабную форму, націскаючы мыском свайго бота. Твар міліцыянера – таксама з пластыліну, варта дакрануцца да яго, каб гэта зразумець.

У сне яна любіць ляпіць з паўсюднага пластыліну дзівосныя фігуры, паступова змяняючы аблічча зямлі.

А праз грузнае тулава мужчыны ў скуранцы і кепцы, здаецца, можна і наогул прасунуць руку.

Марыя ўмее спаць не заплюшчваючы вачэй, не спыняючы млявай размовы, не выпускаючы шклянкі з рук.

Сон цячэ па ейных венах бы лёгкая эфірная субстанцыя, замяняючы ацяжэлую кроў.

Часам у сне яна адчувае, нібы яе скура стала зусім тонкай, працерлася амаль да дзірак. Як быццам яшчэ зусім трошкі – і ўсё тое, што ўнутры, адтуль пасыплецца.

Часам у сне яна нават збірае ўласнае змесціва з падлогі ды з нявіннай усмешачкай запіхвае яго назад – быццам памаду і туш, што выпалі з парванай касметычкі. І здзіўляецца таму, наколькі лёгкімі могуць быць лёгкія.

У сне яна заўсёды трапляе ў нейкае бяспечнае і ўтульнае месца. Лясная рачулка, чые берагі параслі мохам, у абдоймах якога яе дакладна ніхто не пакрыўдзіць. Печ закінутага крэматорыя, у якой можна прыемна распрастаць ногі, загарнуўшыся ў цёплую коўдру. Надзейна абсталяваная схованка ля цеплатрасы ў пад’ездзе, якая здаецца паратункам пасля шэрагу папярэдніх падзей – самі яны чамусьці засталіся па-за кадрам.

Часта ёй падаецца, нібы яе цела атачае вадкасць – трохі клейкая, але прыемная і цёплая. Там ёй надзвычай камфортна, як быццам у плацэнце.

Сон Марыі ўпарты, яго проста так не адолець. Ён рашуча адсоўвае ўбок нягеглую рэчаіснасць (талая вада пад нагамі, грубы вокрык на блокпасту, нехта штурхае яе за плячо са сваім “апяць наркаманка”).

У гэтыя моманты Марыя шэпча: я – гэта сон. Альбо, дакладней, сненне, калі мець на ўвазе не з’яву, але працэс.

Сон расстаўляе свае акцэнты ўспрымання, і крывыя цені галінак, што пакалыхваюцца на шурпатым шэрым асфальце, падаюцца ёй не менш істотнымі, ніж пачутыя сёння навіны пра пачатак спецаперацыі.

У сне кроплі дажджу, што сцякаюць па шыбіне, раптоўна атрымліваюць сваю вызначаную звышмэту шляху. А вечнае пытанне “Навошта?” і наогул становіцца шапаценнем каляровых паперак на прутках вентылятара.

Сон здатны выткаць казачныя сюжэты, сон спараджае лёгкае жаданне, якое ахоплівае беспрытомную

прынцэсу акурат напярэдадні доўгачаканага пацалунку прынца.

Часам сон абуджае да дзеяння іголачкі беспрычыннага шчасця, ад уколаў якіх яшчэ доўга ніякавата, нібы з бадуна.

Але самае цікавае ў сне – гэта смерць. Падзенне з хмарачоса, лабавое сутыкненне на матацыкле, мернае і, відавочна, незваротнае апусканне ў водную бездань. Бясплённая барацьба, адчуванне адчаю, канвульсіі...

Марыя любіць паміраць, у яе гэта атрымліваецца вельмі часта – і, здараецца, даволі вынаходліва. Смерць хоць ненадоўга абуджае замарожаныя нервовыя клеткі. Смерць падаецца ёй найлепшым атракцыёнам у жыцці.

Марыя засынае і цяпер – яна ўжо даўно навучылася рабіць гэта нават з расплюшчанымі вачыма, – калі Здыхлік ізноў нешта вярзе ў яе на кухні. Здаецца, пра Бхагавад-гіту.

Яна ўжо ведае, што Здыхлік вырашыў уцячы. Гэты подзеўбень адпраўляў эсэмэскі з яе тэлефона, не парупіўшыся іх нават выдаліць. Баба ў дадзеным выпадку – толькі перашкода, праінструктавалі яго. У адказ ён напісаў, што паедзе без бабы: так болей шанцаў прарвацца, калі на блокпасту іх машыну спыняць і давядзецца рушыць праз лес пехатой.

Марыя спіць, седзячы за сваім кухонным сталом. Яна дакладна адчувае, як тэмпература яе цела паступова павышаецца – вельмі марудна, літаральна па градусе ў хвіліну. Але нарэшце яно становіцца лавай, якая толькі цудам яшчэ ўтрымлівае пэўную форму.

Нечаканае пытанне выбівае яе з каляіны. Нешта пра рэінкарнацыю і адразу, у тым самым сказе, дай грошай. Ідзі на х…й, кажа яна скрозь сон. Трэба заплаціць за рамонт зімовых чаравікаў, зіма ж ужо на носе, а праз тыдзень брат прыпшле, тлумачыць Здыхлік.

Марыя хоцькі-няхоцькі зусім вяртаецца ў рэчаіснасць і ў адказ пытае Здыхліка пра ягоныя жыццёвыя планы. Яго адразу перасмыкнула, мускулы твару нервова ўздрыгваюць. Ён падобны да шкаляра, якога заспелі ў прыбіральні за ананізмам.

Назіраючы за ім, Марыя атрымлівае задавальненне. Гэта адзінае задавальненне, якое можна атрымаць ад Здыхліка.

Ён пачынае з ходу прыдумляць пра сваю новую звышсакрэтную працу, затым ізноў цытуе Бхагавад-гіту. З носу ў яго тырчаць некалькі валасінак. Ад няма чаго рабіць Марыя іх лічыць: дзве ў левай і тры ў правай ноздры.

Яшчэ зранку яна задумвалася пра помсту і нават была паспела выбудаваць адзін вынаходлівы план. Але цяпер яе раптам ахоплівае поўная абыякавасць. Марыя назірае за Здыхлікам так, як людзі звычайна назіраюць за жывой прыродай: з цікаўнасцю, але не ўмешваючыся і без асаблівых эмоцый.

Адчуваючы, што яго падазраюць, Здыхлік пачынае запэўніваць Марыю ў іх сумеснай будучыні ды прапануе абмеркаваць цікавую бізнес-ідэю.

– Сячэш, мужыку важна не тое, што яна гаворыць, а як, – Здыхлік натхнёна аргументуе сваю задуму навучыць кітайскіх сняжанаў тутэйшаму акцэнту.

Па ўсім відаць, ён прыдумляе на хаду, хаця і кажа, быццам усё ўжо пралічыў. Марыя не рэагуе на ягоныя словы настолькі ніяк, што яе рэакцыя падаецца яму зацікаўленай, і ён працягвае:

– Трэба, каб яму звыкла было, каб як родненькая, як жывая... Уябаў такой па рыле – а яна ціпа: “Э, ты чо! Ішчо раз рукі распусціш – месяц даваць не буду...” А не проста гэтая тупізна: “Мілы, я цябе кахаю, бла-бла-бла, ты мужчына маёй мары, вазьмі мяне на раялі...”

Марыя міжволі адзначае, што Здыхлік даўно адстаў аж жыцця: мяркуючы па гуках з кватэры суседа, сняжаны ўжо забяспечваюцца цэлым наборам падобных функцый. Да патрэбаў кліента яны адаптаваныя нават з улікам рэгіянальных дыялектычных асаблівасцяў, не кажучы пра сацыяльны статус.

– Галоўнае, што ў будучыні мы будзем разам, – завяршае сваю прамову Здыхлік. І дадае нешта з усходняй філасофіі.

У гэты самы момант Марыя ў сваім новым сне ўваходзіць у офіс Партыі супраць будучыні. Там мяккія дывановыя дарожкі, добрая вентыляцыя. З дынамікаў гучыць павольная музыка. Марыя пытае ў прыёмнай, дзе можна аплаціць сяброўскія ўнёскі, але выяўляецца, што сівы сакратар спіць – яшчэ глыбей, чым яна. Безапеляцыйна спіць.

Здыхлік тым часам працягвае фантазіраваць, ягоная фантазія становіцца ўсё больш бурлівай. У іх колішнім творчым калектыве ён выконваў функцыі сцэнарыста, і некаторыя ягоныя смелыя задумы яшчэ доўга прымушалі цела Марыі балець.

Але цяпер Марыя пра гэта не прыгадвае. Яна чым далей, тым болей пагружаецца ў вязкую прастрацыю – пакуль Здыхлік працягвае несці сваю ахінею, пакуль паверхам вышэй злосна лаецца на жонку Толік, пакуль Дзіма выціскае са сваёй сняжаны натхнёныя енкі, пакуль галубы па той бок шкла ўтрапёна дзяўбуць бляху падваконня.

І ўвесь гэты час ідзе час.

Але раптам па радыё гучыць песня пра разбітае сэрца. Марыя ўскалыхваецца ад раптоўнага і невытлумачальнага прыступу болю. Банальныя словы, пакладзеныя на просценькі рытм, аказаліся здатнымі незваротна парушыць яе сон – як нішто іншае.

Марыя ачомваецца, уважліва вывучае Здыхліка вачыма і разумее, што ёй не хочацца ніяк яго апісваць альбо даваць яму тыя ці іншыя характарыстыкі. Здыхлік не з'яўляецца ў яе свядомасці нейкай цэласнай істотай. Хутчэй, гэта набор розных дробных дэталяў: пажоўклы даўгі пазногаць на назе, зморшчынка на ілбе, рух вялікага пальца ўніз-уверх, калі ён пераканана хлусіць… і так да бясконцасці.

Марыі хочацца разадзіночыць гэтыя часткі канструктара ды ў бязладнасці запхнуць іх у шуфляду. Хай там і ляжаць, толькі моўчкі.

Ёсць адно месца, пра якое Марыя распавядае Іншаму найчасцей. Яна апісвае яго доўгімі складаназалежнымі сказамі, засяроджваючы ўвагу на такіх малазначных дэталях, якія не кожны ўгледзіць, нават там апынуўшыся: шчарбіна на плоце, абламаная галінка вярбы, чэрап сабакі, схаваны недзе ў траве (прычым толькі яна і сяброўка Лена ведаюць, дзе менавіта). Ёй здаецца, нібы Іншаму гэта надзвычай цікава.

У яе родным гарадку, назва якога амаль ужо сцерлася з памяці, ёсць старыя могілкі на беразе вялізнай ракі. Паламаныя абеліскі з "яцямі", урослыя ў зямлю пліты, паржавелыя зорачкі і засяроджаныя твары побач са смешнымі прозвішчамі. Шмат імху ў самых розных яго разнавіднасцях. Бярозка, што паціху расце на даху даўно апаганенай панскай спачывальні.

Вядома ж, наўкола нікога няма. Натуральна, ужо восень. Так, менавіта *ўжо*, бо гэтая восень з'яўляецца не проста парою года, а менавіта тым, што *наспела*. Тым, што ўрэшце замяніла сабою доўгае, здавалася б, бясконцае летуценнае *яшчэ*.

Але змены пораў году не варта блытаць з рухам альбо развіццём падзеяў – яны адно падкрэсліваюць непарушнасць тутэйшага часу.

– Тут час не проста спыніўся, ён згусцеў, скамянеў, ператвораўся... – кажа яна, калі яе боцік напалову патанае ў рыхлай зямлі на ледзь бачным грудку. – Чуеш, спевы птушак тут захраслі ў паветры – як нямыя ўздыханні. Зрэшты, на могілках, напэўна, трэба думаць пра вечнасць, а не пра завіслы час.

Са старога дуба падаюць жалуды, сыплючыся ёй проста за каўнер.

На адным з крыжоў вісіць элегантны дамскі капялюшык. Што ён можа рабіць у такім месцы або пра што ён тут сведчыць, нават цяжка здагадвацца.

Марыя рушыць па сцяжынцы далей – да закінутай драўлянай царквы. Пакрытая бляхай макаўка на ёй ужо пакасілася ды пагрозліва звісае крыжам долу. У даху відаць прабоіны. Дзверы выдзертыя з мясам, а на падлозе – сляды ад трактара. Хтосьці па п'яні туды заехаў.

У дзяцінстве бабуля вадзіла яе сюды на службу. Тады царква яшчэ дзейнічала, па нядзелях яе напаўняў пах ладану і васковых свечак, які змешваўся з водарам саміх прыхаджанаў. Прыемным, чыста вясковым водарам, напоўненым быццёвасцю настолькі, наколькі ёй увогуле могуць быць напоўненыя целы.

Пасля таго як гэтыя целы памерлі, царква закрылася, і цяпер у ёй узносяць свае малітвы толькі кажаны ды мышы – разам са святымі, чые пачарнелыя вочы дасюль пазіраюць з наіўных фрэсак.

Бабуля калісьці яшчэ ля ганку апранала ёй хустачку, брала яе малюткія пальчыкі ў свае і вучыла жагнацца. Марыя адчувала тады моц старых мазолістых рук. Затым яны заходзілі ўнутр, бабуля клала тры зямныя паклоны і цалавала выпілаваны з простай фанеры крыж. Аднойчы Марыя ўслед за ёй зрабіла тое самае, і раптам ёй падалося, нібы ўкрыжаваны Збаўца ёй па-змоўніцку падміргнуў.

Дзяцінства, лета, пыл на гасцінцы і яе босых нагах… Пах каровіных ляпёшак. Асіны, пераплеценыя паміж сабою, ствараюць дзіўныя лабірынты для сонечнага святла. Далей імёны ўласныя: Сігаўка, Ленка-Каленка, Мумзік, Лёня Адарвівуха…

Марыя апавядае пра ўсё гэта Іншаму. Пра тое, як яны беглі на Чортаў Яр купацца, пра сіпатага Адамыча, пра

высокі бур’ян на падворку закінутай лодачнай станцыі, пра тое, як яна трапна ўдарыла Ліпкіна ранцам па галаве…

Гэта акурат тая частка біяграфіі, якую ёй хочацца апавядаць падрабязна, у дэталях. Бы на сеансе ў псіхааналітыка.

Састарэлыя мроі, што, нібы матрошка, укладаюцца ў іншыя мроі, завабліваюць яе ўсё глыбей. Прыемная дэзарыентацыя ў перыядах жыцця і порах году.

Але потым зноў восень і зноў закінутая царкоўка на старых могілках.

На нейкі час ёй уяўляецца, нібы яна бачыць гэтую восень вачыма Іншага. Нібы гэта ягоная скура адчувае подых сіверу, што даносіцца сюды з ракі. Здаецца, Марыя нават чуе ягонае пакашліванне і пацепваецца так, як можа пацепвацца толькі ён.

Аднак знянацку, без дай прычыны, нешта здараецца. Гэты напрамак руху яе мрояў аказваецца тупіковым, і неўзабаве яна зусім адна. Тая ж самая восень, тая ж царкоўка, але ўжо без Іншага.

Марыя хоча пакланіцца фанернаму крыжу, які ўсё яшчэ стаіць ля адной са сцен спусцелага храма, але чамусьці ў яе не атрымліваецца. І гэтак шторазу.

Сяргей выціскае з цюбіка пасту, набірае ў рот вады. Чысціць зубы. Рухі дакладныя, вывераныя да драбніц. Управа, улева, трошкі вышэй, затым трэба ўхітрыцца выгнуць шчотку, каб дацягнуцца да тых аддаленых куточкаў рота, куды дабрацца не так проста. Метадалогія яго дзеянняў бадай бездакорная, яна праверана і часам, і жыццёвым досведам.

Старанна палошча рот, выключае ваду, выціраецца ручніком – спярша тыльны бок далоні, а потым і ўнутраны, – прасачыўшы за тым, каб ні кропелькі вады не засталося паміж пальцамі. Уважліва ўглядаецца ў свой твар і пераконваецца, што паголены ён ідэальна. Выключае святло, выходзіць, зачыняе за сабою дзверы ў ванную.

Валасы ў яго ўжо кранутыя сівізною, заўважае Марыя. Яна ўпотайкі назірае за Сяргеем са свайго месца за кухонным сталом.

Яны пазнаёміліся пазаўчора, проста на вуліцы. Сяргей падышоў да яе, каб спытаць, як патрапіць у адзін з аддаленых раёнаў горада. Там у іх месца дыслакацыі. І хаця атрымаў вычарпальны адказ, туды ён не паехаў – ні ў той дзень, ні ў наступны.

Ужо праз дзесяць хвілінаў яны пілі ў маленькай забягалаўцы дрэнную распушчальную каву, абмяркоўваючы фільмы Таркоўскага. Сяргей неўзабаве сказаў, што Марыя падаецца ёй вельмі блізкім чалавекам.

– Нечакана блізкім, – удакладніў ён.

І вось цяпер Сяргей сядзіць за яе кухонным сталом.

Ён жыве ў іншай частцы краіны, працуе мастаком-керамістам. Нядаўна развёўся з жонкай і не хоча

распавядаць чаму. Прыехаў сюды добраахвотнікам. У войску ніколі не служыў, але кажа, што яшчэ літаральна ўчора вельмі добра ўяўляў сябе ў якасці салдата.

– Тут не трэба ўяўляць, трэба проста дзейнічаць, – адразу ж пярэчыць ён сам сабе. – Звычайны набор рухаў. Ты ўстаў, апрануў боты, выйшаў за дзверы, сеў у машыну… Адно дзеянне наступствуе іншаму, утвараючы непахісную паслядоўнасць. Стрэл – гэта таксама дзеянне.

Марыя раптам схамянулася. Міміка на ягоным твары нагадала эпізоды тых фільмаў, у якіх ёй калісьці даводзілася здымацца. Чамусьці падумалася, што акторскіх здольнасцяў Сяргея цалкам хапіла б для нядрэннага выканання ролі немаладога безэмацыйнага цыніка, які зараз будзе метадычна рабіць балюча нявіннай дзяўчынцы.

Але Сяргей насамрэч толькі падобны да актора. У крайнім выпадку, гэта актор, які старанна грае сябе самога. Паводле дбайна выпрацаванай і выкшталтаванай тэхнікі.

– Ты хочаш спытаць, ці не баюся я памерці? – пытае ён, калі Марыя ставіць яму на стол кубак гарбаты. – Вядома, я думаў пра гэта. Не, не баюся. Так, гэта я шчыра. Рэч у тым, што я проста не цаню сваё жыццё. Мне няма болей для каго яго цаніць. Раней каштоўнасць яму надавалі іншыя, блізкія людзі. Цяпер засталася толькі старэнькая мама – пасівелая, маршчыністая, адрузлая. Пачуццё да яе – гэта зусім не тое, што можа прымусіць цябе трымацца на плыву.

Сяргей насыпае ў кубак тры лыжкі цукру, доўга перамешвае. Вымае гарбатны пакунак, дакладным рухам лыжачкі яго адціскае і кладзе на сподачак. Затым робіць глыток. Марыя маўчыць.

– Дзеці? – перапытвае сам сябе Сяргей. – Дзеці сталі чужымі, калі ад мяне сышла іх маці. Тая мяжа, што

з'явілася паміж намі, здаецца мне ўжо непераадольнай. І, да ўсяго, рэўнасць! Так, рэўнасць да ўласных дзяцей, калі ты мяне разумееш. Я адчуваю, што прайграў ім, і мне прыкра.

Марыя ледзь прыкметна ківае галавой.

– Ды і ўвогуле... Гэта рэўнасць, напэўна, да ўсяго свету. Да кожнага, хто прачынаецца ў сваёй кватэры, у абдымках каханага чалавека, хто сядзіць за сямейным сталом і трохі нервуецца, калі жонка нагадвае яму, каб заплаціў за газ альбо, нарэшце, прыбраў недапалкі з балкону.

Ён змаўкае. Марыя маўчыць па-ранейшаму, і яму нічога не застаецца, як толькі працягваць.

– І таму я з лёгкім сэрцам прыехаў сюды. Шчыра кажучы, нават не задумваючыся ні пра што, акрамя практычных пытанняў. Зранку я склаў спіс патрэбных рэчаў, удзень набыў сёе-тое з самага неабходнага, увечары хутка сабраў заплечнік...

Марыя ўяўляе, як ён збірае заплечнік. Загортвае ледзь не кожную пару шкарпэтак у асобны поліэтыленавы пакунак. Цяжкія рэчы кладзе ўніз, каб правільна збалансаваць вагу. У кішэню змяшчае пару сурвэтак, запалкі, сцізорык. Рухі дакладныя, грунтоўныя, нічога лішняга.

– А наступнай раніцай пайшоў на прыпынак, сеў у аўтобус і ўжо апоўдні патрапіў у штаб добраахвотніцкага палка. Гэта быў проста набор рухаў, не болей за тое. Там усё патлумачылі ў двух словах, і вось праз пару дзён я тут.

Марыя адзначае дзіўную мяккасць яго маўлення: зычныя вывальваюцца з рота і адразу крышацца. Быццам згусткі рыхлага снегу, якія акурат цяпер падаюць з даху, часам разбіваючыся аб бляшанае падваконне.

– Так было да заўчорашняга вечара, калі я сустрэў цябе, – Сяргей ставіць на стол кубак і паварочвае да яе

галаву. – Пасля гэтага ў маім жыцці многае змянілася. Прынамсі, я зноў адчуваю яго каштоўнасць. Я адчуваю, што ёсць нешта, апрача механічнага набору рухаў. Ты нават не паверыш: я (*голас амаль пераходзіць на шэпт*) зноў баюся (*у ім з'яўляюцца непадробныя дрыжыкі*) памерці!

Апошняе слова нібы завісае ў паветры – перад тым як бездапаможна грымнуцца на падлогу.

Марыя маўчыць.

– У маім жыцці з'явілася нейкае апірышча, і мая ўласная смерць зноў стала для мяне цяжкім выпрабаваннем, – нібы выбачаючыся, тлумачыць ён. – Тыя ідэалы, якія прымусілі мяне прыехаць сюды, пахіснуліся, адышлі на другі план, і цяпер…

Сяргей працягвае гаварыць. Відавочна, гэта не імправізацыя: усе фразы ім загадзя дбайна прадуманыя. Цалкам магчыма, тыя маналогі сфармаваліся ў ягонай свядомасці яшчэ задоўга да сустрэчы з Марыяй.

– Мне заўсёды здавалася, што, каб спраўдзіць сваё існаванне, ты павінен адлюстроўвацца ў вачах іншых людзей. Каб проста быць, ты мусіш няспынна быць для кагосьці. Гэта глупа, праўда, Марыя? Кожны з нас самадастатковы, ці не так?

Марыя збіраецца яму запярэчыць, аднак замест гэтага толькі няпэўна паціскае плячыма.

– Але цяпер я разумею, што праўда недзе пасярэдзіне. Каб быць, мне дастаткова адлюстроўвацца толькі ў адных вачах – каханага чалавека. І гэта твае вочы, Марыя.

За вакном няўмольна растае першы снег. Свет пакрысе запаўняецца вадою. І апрача гэтага там, за вакном, здаецца, болей наогул нічога не адбываецца.

– Ты можаш стаць маёй мэтай, Марыя, – працягвае ён. – І для гэтага табе нічога не трэба рабіць. Проста будзь. Будзь побач са мною – так блізка, каб мы маглі зліцца, бы дзве кроплі вады.

Ён прыціскае яе да сябе, садзіць на калені, праводзіць рукою па ейным твары. Марыя абдымае яго, адчуваючы, як у нетрах цела нараджаецца хай цьмянае, але ўсё ж такое доўгачаканае жаданне.

Ён працягвае гаварыць і ў ложку, ужо пасля таго, як Марыя атрымала свой першы за апошнія пяць гадоў аргазм:

– Яшчэ нядаўна маё жыццё здавалася мне сукупнасцю вар'яцкіх падзей, але тваё з'яўленне надала кожнай з іх сэнс. Усе мае расчараванні, увесь боль, усе дні, поўныя роспачы, былі прызначаныя толькі для аднаго: каб у пэўны цудоўны момант мы маглі з табою сустрэцца. Усё мінулае было проста падрыхтоўкай да гэтай сустрэчы.

Словы падаюць, падаюць, бы жалуды – у марнай надзеі апладніць скамянелую зямлю.

Гэта апошні раз, калі яны побач. Заўтра з раніцы Марыя скажа Сяргею, што ў іх нічога не атрымаецца.

Папярэдняй бяссоннай ноччу Марыя зразумее, што Сяргей – гэта зусім не Іншы. Гэта Сяргей, рахманы і адданы чалавек, які робіць выверaныя ў дробязях жыццёвыя рухі, змешваючы педантызм з безразважнасцю. У яго заўсёды чыстыя боты, бездакорна адпрасаваныя джынсы ды шкарпэткі ў сінюю палосачку.

Марыі будзе абсалютна ўсё адно, што адчуе ў гэты момант Сяргей. Яе цікавіць толькі Іншы, а Сяргей яе не цікавіць.

Ужо праз два дні Сяргей загіне ў перастрэлцы – цяпер і праўда спакойна, без залішніх эмоцый.

У дажджлівы лістападаўскі вечар Марыя прыходзіць у актавую залу суседняй школы. Тут збіраюцца тыя, хто не верыць у смерць.

Пераважна кабеты каляпенсійнага веку, але ёсць і мажныя, чыста паголеныя маладзёны ў скуранках і з барсеткамі. Адзін з іх нават аддалена падобны да Іншага.

Апошнім часам смерць для жыхароў горада стала надзённай праблемай, і таму ў зале даволі шматлюдна.

Гэта накшталт секты, хаця фармальна ўсё называецца “Міжнародны грамадскі фонд абсалютнага небыцця”.

Марыя прапанавала перайменаваць арганізацыю ў Партыю супраць будучыні, але на яе адразу накінуліся і ледзь не выпхнулі за дзверы, назваўшы правакатаркай.

Кіруе ўсім прыземісты хлопец гадоў трыццаці, у акулярах і з паўкруглай залысінай. Пакуль на яго не сышло прасвятленне, ён быў дыджэем на мясцовай FM-станцыі.

Ён прызвычаіўся, што кожнае ягонае слова выслухоўваюць вельмі ўважліва. Марыя гэтак і робіць – ці, прынамсі, стараецца.

Яна слухае не словы, але ягоны голас – глыбокі, з аксамітным тэмбрам, грунтоўны і пераканаўчы. Такі голас можна слухаць і слухаць.

Смерць – гэта тое, чаго не трэба баяцца, і зміраццa з ёю таксама не трэба, кажа хлопец. Пра смерць трэба проста забыць, яе трэба ўзяць ды выкрасліць. Або выключыць, як выключаюць тэлевізар.

Для жывёлаў не існуе смерці. Дакладней, яна для іх усяго толькі факт, а зусім не праблема.

Крэслы ў зале абабітыя цыратай, месцамі яна прадзёртая, з дзюрак тырчыць паралон.

Смерць ставіць перад намі невырашальныя пытанні, адкрывае неспасцігальныя перспектывы, прышчапляе страх, змушае крычэць у неабсяжнае, матывуе да руху ўглыб – бы морква на канцы палкі, што пастаянна матляецца перад аслінымі вачыма.

Сваім аксамітным голасам прамоўца заклікае выштурхнуць смерць па-за межы ўласнай свядомасці, адмовіць ёй у найменшым праве на існаванне.

– Няма лепш за той куток, дзе закапалі твой трупок! – цытуе ён напрыканцы народную прымаўку.

Відавочна, ягоныя словы знаходзяць водгук у прысутных. Людзі слухаюць уважліва, некаторыя нават з заплюшчанымі вачыма. Многія нешта занатоўваюць. У зале поўная цішыня.

Смерць і раней не ўяўлялася ім надта вялікай праблемай, пра яе забывалі, адкладалі *ў доўгі яшчык*, запіхвалі на антрэсолі, каб заняцца чым-небудзь больш надзённым. А калі яна раптам з'явілася на даляглядзе і стала рэальнасцю, спатрэбілася нейкая ад яе панацэя – як мага больш простая і даступная.

"Родная зямелька – як цёплая пасцелька" – запэўнівае ўсталяваны па-над кафедрай постар.

– А зараз – практычная частка, мы зноў будзем вучыцца паміраць, – кажа прамоўца. – Але спярша хатняе заданніца, та-ак, заданніца... Ці ўсе вы справіліся? Нагадайце-ка, як называлася тэма?

Прысутныя злякана і бездапаможна апускаюць вочы альбо вывучаюць свае пазногці, сілячыся знайсці хоць якую падказку.

– Сястра Мартыда Шостая, як называлася тэма? Не-не, я ж сказаў – Шостая. Як называлася тэма?

Непрыкметная кабета гадоў пяцідзесяці ў зялёным пухавіку ўстае са свайго крэсла, падыходзіць да сцэны з кафедрай. Нічога не кажа.

– Як называлася тэма? – перапытвае пастар.

У цішыні чуваць, як нехта выпусціў газы.

– Што ж, дрэнна, дрэнна... Сястру Мартыду Шостую давядзецца нам па-ля-чыць. Сястра Таната, будзьце ласкавыя мне трохі дапамагчы.

Сястра Таната – гэта маладзіца з кароткай фрызурай і ярка нафарбаванымі губамі. Яна ўстае са свайго месца на першым шэрагу. Яе рухі жвавыя, дакладныя, дзелавыя. Знікае ў каморцы справа ад сцэны і неўзабаве з'яўляецца з пластмасавым вядром, з якога, аднак, замест швабры тырчаць бізуны.

Сястра Мартыда марудна закасвае пухавік, з вінаватым вохканнем спускае нагавіцы з начосам, затым зацыраваныя панталоны і становіцца на калені перад кафедрай, абапёршыся рукамі на паслужліва паднесенае сястрой Танатай крэсла.

Нават з задніх шэрагаў відаць, што рыхлае цела бедачыны працінаюць дрыжыкі.

Пастар на ўскідку абірае адзін з бізуноў, карцінна прымушае яго засвісцець у паветры, вытрымлівае патрэбную паўзу, а затым хлёстка апускае на цэлюлітавы азадак вінаватай. Затым яшчэ і яшчэ. Кожнага разу кабета павізгвае.

Маладзён увесь гэты час захоўвае флегматычны выраз твару. Так, нібыта робіць звыклую штодзённую справу, нейкі хатні абавязак. Ён увесь час маўчыць, толькі напрыканцы экзекуцыі прамаўляе: “Цяжка ў навучанні – лёгка ў паміранні. Гэта табе будзе добрым урокам, сястра Мартыда Шостая”.

Кабета з цяжкасцю ўстае на ногі, няўклюдна нацягвае апранахі і пакрэкваючы рушыць на сваё месца. Пастар тым часам вяртаецца за кафедру.

– Што ж, дрэнна, дрэнна! – кажа ён у мікрафон. – Няўжо ніхто не ведае тэмы хатняга задання? Добра, паўтару вам апошні раз: “Замаруджванне электрахімічных працэсаў у кары галаўнога мозга”. Або, як кажуць у народзе, калі глузды не мігцяць, значна лепей паміраць.

Паводле яго словаў, гэта адзін з найважнейшых прыёмаў у пераадоленні смерці. У жывёлаў дадзеныя працэсы адбываюцца куды павольней, і чалавеку тут ёсць чаму павучыцца.

Ён пачынае пісаць на дошцы, сыплючы формуламі і навуковымі тэрмінамі. Іншыя ўважліва канспектуюць.

Марыя таксама пачынае запісваць. Але раптам уяўляе, як яна злучаецца з Іншым – так, як злучаюцца дзве кроплі вады. І ёй усё становіцца абыякава.

Спярша іх целы становяцца вадкімі – не губляючы пры гэтым сваёй формы, а потым яны робяцца нечым адным. Субстанцыя гарэзліва ўспеньваецца, брыкаецца, бы дзіця ў чэраве, яна жывая.

Пастар яшчэ раз падымае з крэсла сястру Мартыду Шостую ды прымушае яе паўтарыць змест лекцыі. Бедачыне гэта даецца з цяжкасцю, але прымаўку пра глузды яна запомніла.

Пропаведзь завяршаецца рытуальнай вячэрай. Гэта практыкум па адпрэчванні смерці.

У фае актавай залы парты ссоўваюць літарай П. Вернікі дастаюць з клунак слоікі з ежай ды паўлітэркі. Рэжуць хлеб і вараную кілбасу. Шабуршаць пластыкавымі пакункамі. На тварах кабет прыкметнае ажыўленне, завіхаючыся, яны перамаўляюцца міжсобку. Разматыя пахі раздражняюць рэцэптары, прымушаючы Марыю згадаць даўно забытае пачуццё голаду.

Марыя разгублена топчацца сярод усяго гэтага мурашніку. Яна нічога з сабой не прынесла, ды і няма ў яе ніякіх смакоццяў. А на пачастункі тут разлічваць не выпадае: кожны трускае толькі сваё.

На той бяседзе нікому няма да яе справы. Па-над сталом пануе маўчанне. Усе засяроджана працуюць сківіцамі.

У сярэдзіне стала сядзіць пастар побач з сястрой Танатай, якую ён часам называе Наташай. Налівае ёй "Метаксы" ды падсоўвае талерку з пармезанам. Па ўсім відаць, што яна для яго не проста прыхаджанка.

Кожны спажывае сваю ежу сам – моўчкі і медытатыўна.

Апаражніўшы кілішак, пастыр гучна рыгае, заахвочваючы іншых рабіць тое самае. Разняволенне фізіялагічных працэсаў, паводле яго слоў, спрыяе ментальнаму аслабаненню ад страху смерці.

Размаітае і несінхроннае чвяканне раптам перакрывае роў матораў, што даносіцца аднекуль з неба. Бамбардзіроўкі дасюль здараліся вельмі рэдка. Часцей абстрэлы.

Пастар налівае чарговы кілішак ды ўстае, каб прамовіць тост. Але слухаюць яго няўважліва. Гул у небе з кожнай хвіляй прыкметна грамчэе.

Ён цюкае відэльцам аб шклянку, заклікае да ўвагі. Аднак хваляванне прыхаджанаў набыло той характар стыхіі, калі яго ўжо не суняць.

– Браты і сёстры, вы куды? Як кажа народная мудрасць, лепш памерці ў школе, чым жыць у страху няволі, – на хаду каламбурыць ён. Але яго ўжо ніхто не слухае.

Ён паварочваецца да сваёй флегматычнай напарніцы, аднак бачыць толькі нявыпіты кілішак. Яе месца пустое.

Самыя спрытныя паспяваюць запхнуць у клункі недаедзеныя стравы, іншыя ж кідаюць іх (гары яно гарам) ды ўцякаюць у чым ёсць. У дзвярах утвараецца ладны затор, другая іх палавінка ўжо праз момант вынесеная націскам целаў.

Марыя не паспявае ўплішчыцца ў гэты вір і застаецца апошняй. У нейкі момант у памяшканні толькі яна і пастар.

Марыя хоча нешта яму сказаць, падбірае належныя словы. Але ён яе не чуе, адно лаецца, абхапіўшы галаву рукамі. Гул тым часам пачынае спакваля цішэць.

За наступныя пару тыдняў амаль нічога не здарылася. Двойчы выпадаў, а затым раставаў снег. Урэшце, ён выпаў і ў трэці раз – каб, напэўна, ізноў растаяць.

Марыя чакала на сапраўдную зіму, здатную знерухоміць тую кволую пульсацыю жыцця, што бессэнсоўна раілася ўнутры яе і вакол. Закансерваваць усе безвыніковыя падзеі, надзеі і эмоцыі – гэтаксама, як скарынка лёду прымушае застыць на асфальце лісточкі і паперкі, пры плюсавай тэмпературы змушаныя да бессэнсоўнага руху пад уплывам пераменлівага ветру.

Зіма дазваляла пакінуць усё як ёсць, адкласці ўсё на потым і на гэты конт пакуль не хваляваца. Але зіма пакуль не была ёй дадзена.

Нягледзячы ні на што, горад рыхтаваўся на навагодніх святаў. У вітрынах запаліліся гірлянды, якія ў вечаровых прыцемках (электрычнасць даводзілася эканоміць) выглядалі яшчэ больш злавесна, чым у звычайныя Новыя гады. На лапіку перад крамай усталявалі кволую ялінку, упрыгожаную самаробнымі кветкамі з каляровай паперы – потым іх расцерушыў першы ж моцны парыў сіверу. У самой краме нават аб'явілі зніжкі на некаторыя з тых тавараў, што ўсё яшчэ заставаліся на паліцах. Да таго ж там з'явіліся пратэрмінаваныя наборы цукерак, запакаваныя ў дзядоў маразаў – яўны рудымент старога новага году. Куплялі іх даволі актыўна.

Марыя штодня хадзіла ў краму, ажно пакуль у яе будынак не патрапіў снарад. Пасля гэтага яна яшчэ

пару дзён хадзіла паглядзець на ялінку (бо трэба ж было кудысьці хадзіць), але потым дрэўца павалілася і ўсё стала зусім сумна.

Тады Марыя захапілася французскім кіно, старымі рамантычнымі камедыямі. Глядзела іх з ранку да вечара, не надта ўдаючыся ў тое, што адбываецца на экране. У галаве чамусьці адкладаліся толькі малазначныя дэталі: фрагменты адзення, жэсты пальцаў, пейзажы, якія на імгненне з'яўляліся ў кадры і ні пра што не сведчылі.

Адным цудоўным днём паміж рамамі акна ў пакоі Марыя заўважыла шчыльнае і сухое павуціннe, сярод якога праглядаліся высмактаныя трупікі мух. У эпіцэнтры гэтага валадарства боўтаўся і яго кароль, які не вытрываў першых замаразкаў.

Марыя ў думках зменшыла сябе да памераў Дзюймовачкі і ўявіла, наколькі ўтульна і бесклапотна было б ёй спачываць на мяккай пасцельцы з павуты, сярод цішы і прыглушанага шэрага святла.

Калі пачынаўся абстрэл, Марыя спачатку разам з усімі хавалася ў падвале. Але затым перастала. Яна выходзіла на школьны стадыён і з узвышша назірала за тым, як начное неба перасякаюць аранжавыя лініі. Часам пра нешта думала, а часам і пра некага. Але, вядома, не пра Сяргея. І, канешне ж, не пра Здыхліка.

Здыхліка знойдуць толькі наступнай вясной, калі трывала ўсталюецца плюсавая тэмпература і зямля канчаткова адтае. Абгарэлыя пасля выпадковага трапляння супрацьтанкавай ракеты "Жыгулі" выцягнуць з балота жыхары бліжэйшай вёскі, каб выграбці адтуль разбухлую плоць, а больш трывалы матэрыял здаць у металалом.

Да таго часу ўжо многае паспее змяніцца. Падзеі гэтай восені будуць успрымацца як гісторыя. Проста як аповед, засмечаны непатрэбнымі дэталямі – такімі

як прозвішчы, пазыўныя, каардынаты і віды ўзбраенняў.

У некаторых месцах гэтага аповеду апавядальнік будзе глыбока зацягвацца цыгарэтай, а ў некаторых – абыякава махаць сваёй мазолістай рукой з захраслым пад пазногцямі брудам.

Іншы прыязджае ў гэты горад зімным ранкам на першай электрычцы. Будні дзень, толькі некалькі бабулек у вагоне. Змерзлыя пальцы марна шукаюць хоць нейкае цёплае месца на целе, трымцяць. У сіплым дынаміку – паведамленні прыпынкаў на чужой для яго мове. Няўтульна. Быў яшчэ кантроль, нязголеныя твары, пах тытуню, блакітная ізастужка на ражку АКМ, непрыемнае адчуванне, калі да цябе набліжаюцца чужародныя целы. Здзіўленне, выкліканае ягоным пашпартам жыхара Еўразвязу. “Журналіст? Не? Дык а якога хуя тады?”

Згадалася раскудлачаная і пульхная Эльза ў сваім заўсёдным халаціку. Яна засталася ў іх рыжскай кватэры і яшчэ трошачкі ў яго памяці.

Але ў яго ўжо амаль няма памяці. І няма імя – як у тых фільмах, дзе акцёры маюць толькі адпаведныя іх амплуа катэгорыі: “студэнты”, “рускія”… Цяпер ён проста Іншы.

Міжнародны цягнік, на які ён загадзя купіў квіток, акурат надоечы адмянілі, і таму давялося зрабіць перасадку ў бліжэйшым абласным цэнтры. Электрычка затрымалася на дзве гадзіны: на вакзале ішла пагрузка бранетэхнікі.

Пасля блокпаста, які адкрываў шлях на *спрэчную тэрыторыю*, састаў рухаўся надзвычай павольна, нібы з цяжкасцю пераадольваючы марознае перадранішняе паветра. У вакно было відаць толькі снежную роўнядзь, што раз-пораз парушалася амаль цацачнай хацінкай. У адной з іх нават гарэла святло, і Іншы на якое імгненне адчуў сябе трохі ўтульней.

Яна, напэўна, яшчэ спіць, думае ён, калі цягнік няспешна падыходзіць да перону.

У яго свядомасці – ніякіх вобразаў і прадчуванняў. Няма таксама і ніякіх эмоцый. Проста набор зладжаных механічных рухаў.

Іншы кладзе пусты тэрмас у кайстру, зашпільвае, устае, размінаючы змерзлыя зацёклыя ногі.

Паміж сядзеннямі ён заўважае запыленую абгортку ад марозіва, пакінутую там, мусіць, яшчэ ўлетку.

Пацепваючыся, выходзіць на бязлюдны перон. Ліхтары не гараць, але вочы хутка прызвычайваюцца да сізаватага перадзолкавага святла. На фанерыне, што закрывае разбітую вітрыну шапіка, відаць нязвыклыя для яго кірылічныя літары “хо…дно… во”.

Снег на прывакзальнай плошчы даўно ўжо не прыбіралі, і апушчаны долу позірк Іншага счытвае палімпсест незлічоных слядоў. У зале чакання вялізная расколіна ад снараду і няма шыбаў. Аскепкі бітай цэглы ды колкага друзу наліпаюць на падэшвы ботаў.

Ён нейкі час паліць, не рэагуючы на вокрыкі таксістаў. Затым павольна ідзе пехатою па вуліцы, перспектыву якой замыкае будынак вакзалу. Крочыць паўз знявечаны кораб тралейбуса па дазвання вышчарбленым асфальце, пакрытым тонкай скарынкай лёду. Парэшткі паржаўленай савецкай зоркі на адным са слупоў падаюцца яму вобразам вечна заледзянелага тут часу.

Мёрзлы горад выклікае адно пачуццё дыскамфорту. Гэтае асяроддзе створана яўна не для яго, зусім не па ягоных законах, і прымаць чужаніцу яно не надта схільнае. Дэкарацыі маглі б быць і лепшымі, міжволі думае ён.

Але з кожным крокам хада становіцца ўсё болей мэтанакіраванай. Ён прыехаў сюды дзеля таго, каб здзейсніць сваю мару. І гэтая мара цяпер нават мае імя – Марыя.

Марыя ляжыць у ложку, накрыўшыся адразу дзвюма коўдрамі. Ацяпленне працуе дрэнна, і ў кватэры халадно. Час яшчэ вельмі ранні, але яна ўжо даўно не спіць.

Дэманы мінулага, якія пранікалі ў яе амаль усю гэтую ноч, нарэшце суцішыліся, задаволіўшы сваю пажадлівасць. Цяпер у Марыі засталося толькі лёгкае адчуванне пустэчы.

Марыя ўслухоўваецца ў цішыню, сілячыся вычапіць з яе тыя гукі, якія прынясуць ёй хоць каліўца радасці. Але іх няма, і нічога тут не паробіш.

Раптам Марыя згадвае тыя адчуванні, якія яна некалі передавала словам “скурыстае”. Гэта калі мацаць пальчыкамі матуліны локці – на знешнім баку, там, дзе зморшчаная скура.

Маці паблажліва дазваляла ёй гэта рабіць першыя пару хвілінаў, але потым спрабавала ссадзіць дзяўчынку са сваіх каленяў. Спачатку пяшчотна ўгаворваючы, а потым усё болей настойліва.

Тады Марыя прасіла яшчэ хаця б хвілінку памацаць маміны локці. Тактыльнае адчуванне захавалася ў нетрах яе памяці і пагэтуль, хаця твар маці ўжо даўно зацярушаны. Ад яе, па сутнасці, і засталіся толькі гэтыя дотыкі да мяккай скуры.

Іншы ідзе міма цёмных вітрынаў крамы з надпісам “бувь” на старой бляшанай шыльдзе. Мінакоў зусім няшмат. Ранішнюю цішу парушаюць хіба гукі далёкіх выбухаў. У замёрзлай калюжыне застыў жаночы боцік на доўгім абцасе.

Знаёмства падаецца яму кароткім наборам немудрагелістых захадаў. Усё як у кіно. Ён вітаецца, тлумачыць прычыну свайго з’яўлення. Напрыклад, пазычыць солі. Альбо гаечны ключ. Альбо перапіс насельніцтва. Альбо, можа, адразу прызнацца, што ён Арфей, які прыбыў да сваёй Эўрыдыкі?

Іншы таксама мае ўласную гісторыю, якую тут будзе дарэчы апавесці прынамсі ў двух словах. Працаваў у лагістычнай кампаніі, даўно жанаты, у офісе ёсць Інтэрнэт, і спрактыкаваныя калегі падказалі, як не слядзіць у браўзеры.

Яму асабліва падабалася, калі яна была медсястрой. У першыя хвіліны – такой цнатлівай… Паступовасць эвалюцыі ў рамках зададзенага фармату – гэта ці не найважнейшая якасць акторкі. А потым ейныя бялявыя валасы пасмамі матляліся па твары, роўна ў такт з глыбокімі фрыкцыямі.

Іншы правальваецца ў калюжыну, выгуквае нешта лаянкавае і тут жа працягвае рух. Ён чым далей, тым меней дбае пра няўтульнасць таго свету, у якім яму не так даўно собіла апынуцца. Яна ўжо стала для яго звыклай. Тутэйшая няўтульнасць мала чым розніцца ад той, якую ён адчуваў учора і заўчора, у роднай Рызе альбо нават у Парыжы, куды яны лёталі з жонкай на юбілей іх вяселля.

Іншага мог задаволіць адно ідэальны свет, поўны плаўнага святла, якое падае на жаночую скуру. І апушчаных долу пасмаў бялявых валасоў.

Мужчыны ў такіх фільмах выглядалі куды менш прывабнымі за дзяўчат. Што абнадзейвала. Іншы, канешне ж, не ведаў, што гэта была ўсяго толькі спецыфіка індустрыі, з яе скіраванасцю на адмысловую мэтавую аўдыторыю і дастаткова абмежаванымі бюджэтамі.

Іншы не адзін год шукаў ейныя кантакты, распачаўшы шматхадовую аперацыю з мноствам падстаўных асобаў. Некалькі разоў выходзіў на лжывы след і ледзь ратаваўся ад паліцыі і разводу. Пакуль гэта доўжылася, здымкі з ёю на спецыяльных сайтах былі перанесеныя ў раздзел "рэтра", саступіўшы месца рэкламе сняжанаў.

Адну з іх, найноўшай мадэлі, калегі (як людзі спрактыкаваныя, яны нешта падазравалі) падаравалі яму на саракагадовы юбілей. Але ён выліў яе змесціва ва ўнітаз пасля першай жа размовы.

Складанасці пошуку яго толькі натхнялі. Ён кінуў піць, стаў раней прачынацца і болей працаваць. На нейкі час свет пачаў здавацца яму трохі менеей няўтульным, ніж звычайна. Нават Эльза адзначала пэўныя станоўчыя змены, калі яны клаліся разам.

Урэшце, паляванне прынесла свой плён. Таму цяпер ён тут, ён ідзе па вуліцах вымерлага горада, які ў гэтыя дні лічыцца адным з найнебяспечнейшых месцаў на свеце. Ён нават ведае, што яе імя Марыя. У нататніку запісаны ейны адрас.

З-пад нагі з грукатам адлятае нейкая жалязяка з вострымі краямі. Ён аглядае свой бот: на шчасце, усё ў парадку. Раптам у яго свядомасці ўспыхвае Марыя-медсястра. За тыя дзесяць ці колькі гадоў многае, магчыма, змянілася. Але яму ўсё адно.

Сёння ён хоча стаць яе мужчынам. Альбо, іншымі словамі кажучы, – стаць для яе *іншым* чалавекам. Тым іншым, які быў бы заўсёды побач.

Іншы спраўдзіў па навігатары адрас. І сапраўды, чырвоны надпіс на пяціпавярхоўцы ўтрымліваў патрэбныя яму лічбы. Значыць, недзе тут.

Ён збочыў у прагал паміж двума дамамі, ледзь размінуўшыся з ранні м сабачнікам, які бег трушком, мармычучы сабе нешта пад нос.

Як і шторанак, Марыя паліць, гледзячы ў акно. Раней у гэты час можна было назіраць за дзеткамі, што шыбуюць у школу, але пасля аднаго з нядаўніх абстрэлаў заняткі адмянілі. Нешта невыразнае сочыцца па тым баку шыбіны: ці то вада, ці то талы гразкі снег. На дрэвах яшчэ відаць шэрань, але неўзабаве, калі ўжо зусім развіднее, яна знікне.

На пліце кіпіць старэнькі імбрык. Электрычнасці зранку няма, добра, што хоць газ не адключаюць.

Машынальна выкалупвае нешта са шчылінкі між зубоў.

За вакном чутно гаману. Гэта суседскі “Масквіч” ізноў не заводзіцца, і яго штурхаюць.

Марыя паволі прыўздымаецца са свайго крэсла, навобмацак шукаючы попельніцу. Брудная накрыўка рондаля, што ляжала на стале, з грукатам валіцца на лінолеум. Марыя нагінаецца, каб яе падняць, але яе апярэджвае Іншы.

Марыя абарочваецца, падкурчыўшы ногі на крэсле. На яе кухні цяпер сядзіць Іншы. Ён сядзіць на іншым крэсле, абапёршыся локцямі аб стол, і не адрываючыся глядзіць на яе.

Сізаватае полымя ў запаленай фаерцы няспынна пульсуе, пакідаючы страшныя цені на шпалерах. Адзін з язычкоў адбіваецца ад носа Іншага, потым і ад залысіны. Марыю гэта трохі смешыць, і раптоўныя рухі яе губ яшчэ болей паглыбляюць непаразуменне.

Яны маўчаць ужо болей за паўгадзіны. Затым Марыя падхоплівае брудным ручніком гарачы імбрык ды ідзе

ў ванную. Паміж лыткамі ў яе нешта клейкае, і адмыц-ца халоднай вадой не атрымалася. Мімаходзь вока выхоплівае ложак у спальні. Змятыя іх целамі прасціны ўжо даўно паспелі састыць у такой халадэчы.

Кульгаючы, сабака адбягае на некалькі метраў, але Іншы рыўком даганяе яго і ўціскае ў снег моцным ударам бота. Віскат замест звычайнага для гэтай істоты дыскантнага брэху. Рудаватая поўсць сям-там праточаная лішаямі і зліплая ад бруду.

Ледзь толькі апусціўшы нагу, Іншы наносіць яшчэ адзін удар. На снезе з'яўляецца першая крывавая пляма.

Фарба на рагулі для выбівання дывановў ужо зусім адлушчылася. Не зважаючы на зіму ды на нішчымніцу, купа смецця, што назапасілася непадалёк ад дзвярэй у пад'езд, даволі моцна пахне. Прычым часткова нават харчовымі адкідамі.

Іншы падносіць задубелыя пальцы да вуснаў, затым пачынае іх расціраць. Холад стаў невыносным, ён працінае ажно да костак, хаця тэмпература нібыта ж і плюсавая.

Шары дзень ужо напоўніцу ўступіў у свае правы, абудзіўшы ў гэтых мясцінах звыклы бязладны рух. Снег паціху цвярдзее, камякі набываюць больш выразную форму, а сям-там на асфальце нават з'яўляюцца лужыны. З вуліцы даносіцца рокат матораў рэдкіх машын, у небе нехта сіліцца збіць з ПЗРК верталёт, але абодва разы не трапляе. Бабуля цягне з калонкі два вядры вады, уважліва гледзячы сабе пад ногі ды нягучна мацюкаючыся.

Сабака вельмі схуднеў, шкуру трымае адзін толькі шкілет. Бот Іншага кранаецца рэбраў, выклікаючы чарговае ўзмацненне віскату.

Сабака ўскоквае на лапы ды спрабуе ўратавацца, але бот Іншага зноў яго даганяе. Наступным разам Іншы б'е па галаве.

Расколіны ў асфальце, што агаліліся з-пад снегу перад самым домам, перакрыжоўваюць рыскі літар. Там паўсцёрты надпіс «Мулик я тебя люблю».

Іншы наносіць яшчэ некалькі ўдараў, гэта ўрэшце дапамагае яму сагрэцца. Нага трохі пабольвае – мабыць, невялічкі вывіх.

Відаць, сабака моцна знясілены альбо нават хворы. Ён адчайна круціцца па зямлі, нават не спрабуючы ўхапіць Іншага за лытку.

Іншы б'е цяпер непасрэдна па пысе. Гук удару прыносіць яму асаблівую асалоду.

Але праз імгненне Іншы раптам застывае, яго ахоплівае поўная апатыя. Сабака з цяжкасцю ўстае ды ідзе сабе паміраць у нейкую адно яму вядомую схованку. Іншы ж яшчэ доўгі час не зрушваецца з месца.

Затым крочыць на вакзал. На пероне яго нібы спецыяльна чакае апошні цягнік, якому наканавана выправіцца з гэтага горада.

Дзверы ў кватэру Толіка прыадчыненыя. У вітальні гарыць лямпачка без абажуру магутнасцю не болей чым у 40 ват. Яе святло робіць бачным цэлую плойму самых разнастайных прадметаў: зімовыя боты з драпежнай ухмылкай аддзёртай падэшвы, міліцэйскі шынель, акумулятар ад "Масквіча", не падлучаны да сеткі дыскавы тэлефон, перавязаны шпагатам збор твораў Дастаеўскага і нават зламаны велатрэнажор, які месціцца тут без справы гады ўжо з два.

Ідучы праз вітальню, трэба пільнаваць, каб не ўступіць нагой у згнілы недагрызак яблыка, што паспеў ператварыцца ў карычневую пастападобную субстанцыю. Наведвальнік быў няўважлівым, і цяпер ён старанна чысціць свае падэшвы аб дыван на падлозе пакоя.

На дыване раскіданыя абгорткі ад пельменяў, недапалкі, пажаўцелыя ад гною кавалкі ваты, некалькі кніг кулінарных рэцэптаў, рэпрадукцыі карцін.

Спасярод усяго гэтага – процьма пафарбаваных у чорны піўных коркаў. Некаторыя з іх нават спалучаныя паміж сабою ды ўтвараюць дзіўныя фігуры, падобныя да птушак. Снягір разламаны напалам, галава сініцы адвалілася, але сваімі лапкамі яна намёртва ўчапілася ў драцяную галінку.

Наведвальнік з цікаўнасцю мацае адну з птушак мыском бота. Затым націскае, яна трушчыцца, востры край корка помсліва прабівае падэшву. "Ой-вой", – кажа наведвальнік, а пасля доўга лаецца.

Адчыняе шафу, абклееную плакатамі з пажухлай "Міс СССР", вывальвае на дыван змесціва паліцаў.

Пацёртыя зашмальцаваныя штаны “са складачкай”, дзіравыя шкарпэткі, майткі, нескарыстаныя ў свой час і даўно пратэрмінаваныя прэзерватывы… Ёсць нават жаночы бюстгальтар трэцяга памеру. Усё гэта можа выклікаць адно гідлівасць. Увагу прыцягвае хіба рэмень, але, павагаўшыся, наведвальнік кідае яго на падлогу.

Урэшце, пошукі ўсё ж прыносяць вынік. На паліцы, прызначанай для галаўных убораў, наведвальнік знаходзіць пляшку каньяку. Такога ўжо не выпускаюць. Толік купіў яе шэсць гадоў таму, калі пачаў працу над сваёй скульптурай, ды пастанавіў не чапаць да завяршэння. І хаця рукі не раз свярбелі, ён заўсёды адужваў сябе.

Наведвальнік рэзка зрывае корак, падносіць рыльца да рота ды робіць вялікі глыток. Свет адразу становіцца для яго лепшым.

Затым пакідае кватэру, хрумсцячы падэшвамі па чужых рэчах. Спускаецца па лесвіцы, чуе жаночы голас паверхам ніжэй. “Мілы… Ау… Мі-ілы!.. Коцік… буслік!..”

Сняжана, пакінутая Дзімам нявыключанай, вось ужо каторую гадзіну разгублена і безвынікова кліча свайго каханага.

Калі-небудзь гэта ўсё будзе здавацца глупым і недарэчным, раптам кажа Марыя.

Калі-небудзь гэта ўсё стане проста чыёйсьці гісторыяй, цэдзіць яна скрозь зубы. Тое, што мы гаворым, адчуваем, прагнем, трызнім. Наш боль, летуценная радасць, надзеі, лібіда, сны.

Нашы фалангі пальцаў, зморшчыны, пакусаныя вусны.

А таксама той момант, калі я сплятаю свае рукі з тваімі і шапчу: глядзі, якая ў цябе белая скура. Мы ў ложку, яшчэ ўсяго шэсць раніцы, але промень летняга сонца ўжо трапляе праз фіранку гатэльнага нумара.

Калі-небудзь гэта ўсё стане нечым адстароненым сюжэтам.

Калі-небудзь гэта ўсё будзе здавацца адно кан’юнктурнай тэмай, тэхнічным заданнем для літаратурнага негра, знакамі, усляпую набранымі на клавіятуры. І кожны з іх будзе аплачаны паводле прэйскуранту.

Гісторыя – гэта тэлесерыял, а мы толькі персанажы аднаго з яе сезонаў.

І жвавыя пухнатыя бабулькі будуць перамываць нашыя ссохлыя збялелыя косці, седзячы ля пад’ездаў сваіх аблезлых хрушчовак у малюткім гарадку, які застыў на вечнай мяжы паміж валадарствамі *тут* і *ніколі*.

Дый мы самі назвалі б такія сюжэты тупымі. Мы б кпілі з іх і смяяліся, каб маглі ў нашым стане смяяцца.

Пляснуўшы дзвярыма кватэры ды пакінуўшы іх наросхрыст, Марыя спускаецца па запляванай лесвіцы пад’езда. Шыбаў у вокнах амаль ужо не засталося. Пад

нагамі хрумсціць шкло, бы рассыпаны ў дзіцячым парку папкорн.

На пляцоўцы паверхам ніжэй прытаіўся снайпер. Марыя праслізгвае міма, ледзь не задзеўшы сваім плячом ягоны бушлат, снайпер праводзіць яе вінаватым поглядам ды зноў прыліпае да прыцэлу. Праз момант куля трапляе ў пашчэрбленую сцяну, захрасаючы ў шматслойным пірагу тынкоўкі.

А магчыма, наратарамі будзем мы самі. Магчыма, гэта будзе нават наша гісторыя, думае Марыя, пацепваючыся ад раптоўнага павеву вільготнага ветру. І мы будзем апавядаць яе сваім выпадковым гасцям на цеснай міленькай куханьцы, пацягваючы слабенькую гарбатку і пачухваючы ссівелыя валасы, калі all passion spent. Марудна і роўным голасам – як выдатнік пераказвае на ўроку твор кагосьці з савецкіх пісьменнікаў.

Слова “каханне” будзе гучаць з нашых вуснаў гэтаксама супакойвальна, як харканне вады ў пражавелым кране. А слова “надзея” – падаць у вушы, бы эмаляваная накрыўка ў чыгунную мыйніцу.

У кожным разе гэта будзе чужая гісторыя, кажа Марыя. У кожным разе наша гісторыя калісьці стане чужой.

І гэта будзе гісторыя мёртвых людзей, крычыць Марыя.

Гэта будуць фотапартрэты post mortem віктарыянскай эпохі, дзе нябожчыкі робяць выгляд, нібыта яны жывыя. Набальзамаваны Рамэа няўклюдна цалуе шкляныя вочы сваёй Джульеты. Штатывы, што падтрымліваюць іх целы ў вертыкальным стане, выклікаюць скептычны смех у наведвальнікаў гэтай кунсткамеры.

Мы знікнем, шэпча Марыя. Мы вырачаныя на знікненне. Нам наканавана рассыпацца ў прысак – на

асобныя жэсты, эмоцыі, пахі і біяпылінкі. Няма таго сілавога поля, якое трымае нашыя малекулы разам.

Яна заўважае, што дасюль яшчэ кажа "мы", хаця ўжо не разумее, хто апрача яе ўваходзіць у гэты зборны займеннік.

Ты можаш падысці і пагладзіць гэтых герояў па іх збуцвелай скуры, кажа Марыя. І дакранаецца да свайго шурпатага ад ветру твару.

Станоўчыя героі, адмоўныя героі… усім ім наканавана месца на адной паліцы марыянетак.

Марыя выходзіць з пад'езда і ідзе па знаёмай вуліцы, не звяртаючы ўвагі на перастрэлку.

Мерны строкат буйнакаліspecies кулямёта абумоўлівае рытмічны малюнак яе крокаў.

Гэты горад ужо гатовы да фотасесіі, ён падобны да мерцвяка, які прыняў прыгожую паставу. Засталося толькі трохі папудрыць носік.

У вечаровых прыцемках мільгаюць фігуры ў камуфляжы. Яны на дзіцячай пляцоўцы, каля трансфарматарнай будкі, пад даўно згарэлым "Масквічом" Толіка.

Тое, як яны чапляюцца за знаёмы для Марыі ландшафт, выкарыстоўваючы ў сваіх мэтах кожны яго выгін, кожную ямінку, кожную складку на гэтым спакутаваным целе, падаецца даволі смешным. Як быццам бы яны сур'ёзна, здзіўляецца Марыя.

Яны бегаюць, поўзаюць і шмат страляюць, абіраючы ў якасці мішэні ўсё, што здатнае выклікаць падазрэнні. Граната з АГС-40 неўзабаве трапляе і ў пакінутае расчыненым акно Марыі. Азірнуўшыся, яна бачыць, як у кватэры пачынаецца пажар.

Але гэта адбываецца ўжо недзе ззаду, за спінай. І мала яе бянтэжыць.

Мы ніколі не зможам быць кімсьці болей, ніж я і ён, цэдзіць скрозь зубы Марыя.

Нашыя целы ніколі не злучацца, як дзве кроплі вады. Пры іх судакрананні чуваць толькі глухія ўдары – як быццам гэта цюкнуліся адна аб адну дзве гіпсавыя статуі.

У вузкім прагале між дзвюма пяціпавярхоўкамі Марыя ледзьве размінаецца з бронетранспарцёрам, які з вясёлым рокатам запаўзае ў іх двор. Паволі рушыць у бок яе дома, трушчачы паржавелыя рэшткі каруселяў.

– Што застанецца, калі ссохнуць і рассыплюцца нацятыя на іголачкі мары? – уголас пытае Марыя, назіраючы за тым, як у вакне на першым паверсе паказваецца нягалены твар, а ўслед за ім – кароткая жалезная трубка.

– Што застанецца ад маіх слёзаў? Ад майго лёгкага выгіну вуснаў?

На якое імгненне Марыя аслепленая і аглушаная. Выбуховая хваля прынесла ёй пах гары. На месцы бронетранспарцёра застаўся толькі слуп агню і дыму.

– Ад складкі на маім жываце? Ад звычкі адкідаць назад валасы?

Брыдзе па вуліцы, не разбіраючы дарогі, утыркаецца ў пакрыты колкай скарынкай сумёт, устае і працягвае рух, нягледзячы на вокрык “Стой, дура!”.

Краем вока бачыць сваю постаць у калюжыне на асфальце, раптам асветленай моцным усполахам. Механічна адзначае: ізноў пацяплела.

Адліга дазволіла набрыняць скрываўленым целам, зледзянелым пасля мінулага бою.

Адліга пераўтварыла чырвоны лёд у гнойнага колеру жыжу.

Адліга падаецца ёй толькі бессэнсоўнай адтэрміноўкай для таго, што ў рэшце рэшт павінна замерзнуць ды скамянець.

Што застанецца, калі ссохнуць і рассыплюцца нацятыя на іголачкі мары? Гісторыя.

Стэлажы запратакалаваных фактаў і пажухлых фота.

Што застаецца, калі памірае жаданне? Гісторыя.

Адстароненая фіксацыя далёкіх да цябе падзей з далікатнай усмешкай на твары.

Што застанецца ад маіх слёзаў? Ад майго лёгкага выгіну вуснаў? Ад складкі на маім жываце? Ад звычкі адкідаць назад валасы? Ад бясконцых сумневаў?

Старонкі ў архівах, на якія нехта будзе праліваць боршч.

Партрэты ў падручніках, якім вісусы-шкаляры будуць прымалёўваць рожкі.

Музейныя стэнды, у кутках якіх плятуць сваю павуту разносчыкі шчасця.

Вершы, вядома ж, вершы. Вершаў у такіх выпадках заўсёды бывае шмат – прыгожых і дасканалых, бы пялёсткі пластмасавых ружаў.

Марыя злосна сплёўвае сабе пад ногі – так, нібыта яна адным пляўком хоча змыць увесь культурны слой гэтай планеты разам з яго абрыдлымі насельнікамі.

Кулі пралятаюць зусім блізка, але ніводная ў яе не трапляе.

Марыя скіроўваецца да ракі. Спускаецца па слізкім схіле, некалькі разоў падае, устае, не выціраючы гразь з калашынаў. І ўрэшце апынаецца на маленькім дзікім пляжыку.

Тут нічога не змянілася. Перагорнутая лодка на месцы. Паваленая асіна па-ранейшаму мочыць свае карані ў рацэ.

Гэта мёртвая зона, нецікавая ніводнаму з бакоў канфлікту, і снарады ды ракеты пралятаюць недзе над галавой.

Рака цячэ ў сваім звычайным тэмпе – як цякла і раней. Вецер пакалыхвае збуцвелы асот, што выглядае з-пад снегу. Ля самага берага боўтаюцца кляновыя лісты. Другі бераг амаль не відаць, бо туман і прыцемкі.

Follow the river, кажа яна сабе.

Марыя ўглядаецца ў туман – і адчувае невытлумачальную цішыню, нягледзячы на разрывы снарадаў. Туман цягучай магмай уваходзіць у яе і запаўняе пустоты ўнутры.

Няўцямнае прадбачанне, нібы нешта павінна адбыцца, ізноўку наведвае яе. Але Марыя прызвычаілася да яго падманлівасці.

Ногі ўшчэнт прамоклі, амаль ужо заледзянелі. Марыя заўважае, што міжволі ўздрыгвае ад холаду – хаця яе цела цяпер вельмі слаба рэагуе на раздражняльнікі.

Марыя раскрывае рот і ва ўсю моц дыхання ўцягвае ў сябе туман. Доўга стаіць на месцы, чакаючы невядома чаго. Ні пра што не думае.

Між тым выбухі становяцца настолькі гучнымі, што нічога ад іх не ратуе. Марыя ўстрывожаная, бо яе ця-

перашняя прастрацыя хутка скончыцца. Немаведама чым, паколькі яна толькі прэлюдыя. Бы зацемненая прастора за кулісамі, дзе акцёр чакае на свой выхад – гэтым разам зусім для яго непажаданы.

*Дзевачка-дзевачка, дэманы мінулага знойдуць цябе і тут...*

І Марыя ведае, што гэтае прадчуванне яе не падманвае.

Неўзабаве яна заўважае нейкі рух на тым беразе. Спярша ён амаль неаддзельны ад туману, ад невыразных абрысаў дрэваў і заводскіх будынкаў, ад зыбістай паверхні вады. Але неўзабаве прызвычаены да цемры зрок чым далей, тым болей дазваляе праяўляць дэталі.

На супрацьлеглым баку ракі Марыя бачыць усіх сваіх мужчын. Іх целы падаюцца ёй ненатуральнымі – як быццам яны зробленыя з гліны тэракотавага колеру.

У святле месяца, якое пакідае блікі на вадзе, гэтыя фігуры выглядаюць велічна ды злавесна.

Марыя не можа іх пералічыць, хаця некаторыя твары падаюцца ёй знаёмымі нават здалёк.

Неўзабаве яна заўважае нейкі рух, і гэта зусім не аптычная ілюзія. Тэракотавая армія пашыхтавалася ды рушыла ў атаку.

Кожны з іх мае імя – не Сяргей альбо Здыхлік, як клікалі іх прататыпаў, але зусім іншае, куды больш пагрозлівае.

Яны прасоўваюцца паволі, пагойдваючыся, нібы балваны. Рукі шчыльна прыцiснутыя да тулава. Хрыбетнік у кожнага выпрастаны. Як быццам нехта торкае іх зверху за прывязаныя да макавак нітачкі.

Іхняя няспешнасць можа сведчыць хіба пра адно: у Марыі няма паратунку. Ані ў ахопленым полымем горадзе, ані ў цёмных зацішных паплавах ля ракі, ані ў лесе, ані ў полі, ані ў нетрах зямлі.

Марыя робіць нясмелы крок ім насустрач. Больш нічога ёй проста не застаецца.

Вада мяккая, красовак плаўна на яе становіцца, нібы нага ступіла ў густы мурог.

На пачатку ацяжэлае тулава яе амаль не слухаецца. Яна ідзе павольна, рухі ненатуральныя, пастава скрыўленая. Але кожны крок становіцца ўсё больш упэўненым.

Агні і ўсполахі хутка тонуць у цемрыве. Тэракотавая армія таксама раптам кудысьці падзелася. Пэўны час Марыя яшчэ бачыць макаўкі яе жаўнераў, але неўзабаве яны знікаюць – нібы настаўніца ўпэўненымі рухамі выцірае са школьнай дошкі нісянеціцу нейкага двоечніка.

Яна азіраецца назад – туды, дзе цёмны бераг, закінутая лодка, ахопленыя пажарамі дамы. Але затым рушыць далей.

Яшчэ некалькі крокаў – і навокал толькі цемра.

Цемра напаўняе яе знутры, быццам лёгкі газ, робіць бязважкім ейнае цела, падхоплівае на рукі, бы каханы мужчына.

Цемра прыносіць з сабой цішыню, і прызвычаеныя да безлічы бессэнсоўных гукаў вушы патрабуюць да яе адаптацыі.

Цемра паступова становіцца ейным домам, такім неўсвядомным і доўгачаканым.

І Марыя разумее, што гэта цемра Бога.

Напэўна, уся праблема ў тым, што я так і не навучыўся захоўваць сваё сэрца, думае брат Зосіма.

Ён асцярожна падносіць да вуснаў гарачую лыжку, стараючыся роўна трымаць яе двума ацалелымі на правай руцэ пальцамі – вялікім і мезенцам. Дзьме на змесціва лыжкі, пералівае яго ў рот.

Нічога не адчувае, толькі як гарачае саланаватае месіва кранаецца языка.

Захоўваць сэрца – гэта не даваць яму быць апанаваным эмоцыямі. Не бегчы цуцыкам услед за сваімі надзеямі і пачуццямі.

Сэрца тахкае, трохі баліць. Брат Зосіма ўслухоўваецца ў яго пульсацыю, адзначаючы няроўнасць рытму. Спрабуе на ёй засяродзіцца.

Гэты травеньскі вечар выдаўся па-летняму цёплым. Густая трава навокал пакалыхваецца ад ветру. Перад вачыма яшчэ дасюль стаіць суцэльнае жоўтае мора. Апошнія кіламетраў сем яму давялося ісці праз рапс, які раскашаваў тут у належны для яго час – быццам нічога і не здаралася.

Брат Зосіма ўяўляе, як выглядае яго постаць у бурлівым жоўтым моры – бы малюткі чаўнок, што пакалыхваецца на ціхіх хвалях.

Рапсавае поле, ідылія якога была ненадоўга парушаная чалавечай постаццю, засталося ўжо ззаду, як і многае іншае. Наперадзе – невялічкі рэдкі гаёк.

Брат Зосіма расклаў сваё цяпельца на самай яго ўскраіне.

Гэта акурат такі вечар, калі нічога не адбываецца. І бяздзейнасць падаецца мудрай, прыемнай. Менавіта ў такія вечары цягнікі самі сыходзяць з рэек – ціха і для ўсіх бяскрыўдна. Бо разумеюць, што ім нікуды болей не трэба ехаць.

Вясновае паветра поўніцца гукамі (скрыгат, пошчакі, шаргаценне, візгат...). Брат Зосіма адзначае, што яны зноў спакваля пачынаюць утвараць у яго свядомасці рытмічныя канструкцыі. Хай пакуль і ўрыўкавыя ды зусім недасканалыя.

Як раней крокі наглядчыка па калідоры падвалу, удары дубцом па ягонай спіне, адзіночныя стрэлы.

Але калі страляў ён сам – ужо потым, пасля вызвалення і ўсіх тых зменаў, што з ім адбыліся, – гэтыя гукі не выбудоўваліся ні ў якую суладнасць. Яны заставаліся проста наборам гукаў – і ўсё.

Нават coup de grace у галаву, які завяршаў чыесьці бессэнсоўныя курчанні на толькі што захопленых тваім падраздзяленнем пазіцыях.

Скончыўшы пасілак, брат Зосіма мые ў ручаі казан, загортвае ў старую газету, кладзе ў свой хатулёк. Паводле разлікаў, да горада засталося ўсяго некалькі кіламетраў – значыць, дацямна ён дакладна паспее.

Рушыць па ледзь прыкметнай сцяжынцы ўздоўж лясной ручаіны, услухоўваючыся ў яе цурчанне.

Па-першае, тут куды меней шансаў натрапіць на міны, ніж на гасцінцах або шашы. І па-другое, ручаі заўсёды ўпадаюць у рэкі. А рака – самы надзейны арыенцір.

І сапраўды, неўзабаве ён ужо з цяжкасцю выбіраецца на яе падтоплены паводкам бераг. Выкараскваючыся з хмызоў, ледзь не ўтыркаецца ва ўсімі забыты жоўты паралелепіпед пляжнай пераапранальні.

Азірнуўшыся, разумее, што нейкім цудам патрапіў акурат туды, куды ішоў.

Праваруч брат Зосіма бачыць абгарэлыя корабы дзевяціпавярховак ускраіннага мікрараёна. Шэрыя спаруды супраць сонца выглядаюць расплывістымі плямамі.

Адна з іх – мусіць, пятая злева – некалі была ягоная. Але ісці туды праз забалочаныя зарослыя палеткі не ўзнікае ніякага жадання.

У яго няма ўспамінаў. Ён проста не можа сабе іх дазволіць, каб навекі не ўгразнуць у гэтым глеі.

Таму рака ўспрымаецца найперш як перашкода, пераадолець якую не так і проста. Брат Зосіма ведае, што ўсе масты ўзарваныя ў тую зіму. Пераплыць у яго не хопіць сілаў.

Ён чуў, што праведніца, якая жыве на руінах горада, здатная пераходзіць раку так, як быццам яна ідзе па полі. Гэты дар быў дадзены ёй пасля многіх гадоў аскетычнага подзвігу.

Таму людзі з навакольных вёсак яе баяцца і не сунуць сюды носу.

Гэтую жанчыну любяць толькі дзеці. Некалькі разоў яе нібыта бачылі ў бліжэйшых гарадках – на дзіцячых пляцоўках, у вірлівай гамане. Але пры з’яўленні дарослых яна адразу некуды знікала – нібы правальвалася скрозь зямлю.

А самі дзеці распавядалі, што гуляліся з дзяўчынкай у калготках і з коскамі.

Лядашчы чаўнок, нейкім цудам знойдзены на беразе, пакрысе набірае ваду. Але брат Зосіма ўжо на сярэдзіне ракі. Вусны няспынна прамаўляюць малітву.

Рака ўскалыхваецца, хвалі часам сягаюць за борт, цеча напаўняе вадою лодку знутры. Аднак вецер спрыяльны, і да мэты ўсё бліжэй і бліжэй. Невыразныя

абрысы таго, што на другім беразе, паступова дэталізуюцца.

Брату Зосіму трохі боязна і неспакойна. Так бывае заўсёды, калі да мэты блізка.

Супрацьлеглы бераг ператварыўся ў суцэльныя джунглі. Хмызы паспелі вырасці нават на бетоннай узбярэжнай, атачыўшы паржавелы павільён летняй кавярні, сям-там пашчэрблены кулямі, ліхтарні, лаўкі, паваленую скульптуру піянера, у якога замест галавы – кавалак арматуры.

З цяжкасцю прышвартаваўшыся і намачыўшы ногі па калена, брат Зосіма прадзіраецца ў бок шырокай вуліцы. Пад падэшвамі ягоных стаптаных берцаў шаргаціць друз.

Ідзе паўз цёмныя прагалы вокнаў і дзвярэй, паўз абгарэлыя корабы аўтобусаў, паўз скрыўленыя ў безнадзейных усмешках твары на выцвілых білбордах.

Пляскаты пенал супермаркета з прабітым снарадам дахам падобны дараструшчанага клапа, вантробы якога – паламаныя стэлажы, рэкламныя шыльды, штабелі пакетаў солі – вылезлі вонкі.

Нягледзячы ні на што, горад пазнавальны. Вока ўгадвае знаёмыя з дзяцінства дэталі. Аптэка, збяркаса, музычная школа.

Пустэльны ландшафт поўніцца ледзь улоўнымі вуху выпадковымі гукамі: пішчаннем, скрыгатаннем, шарgаценнем. Яны даносяцца з усіх бакоў, міксуючыся ў надвячоркавым паветры. Пра іх крыніцы застаецца хіба здагадвацца.

Часам брат Зосіма інтуітыўна скідае з пляча адсутны цяпер ужо аўтамат, каб без запаволення даць чаргу туды, адкуль пачулася нешта падазронае. Так ён рабіў тут яшчэ зусім нядаўна.

Дарэчы, аднойчы там хаваліся дзеці. Добра, што ён толькі параніў у руку адну дзяўчынку.

Адрынуўшы ўспаміны, брат Зосіма ўслухоўваецца ў храбусценне сваіх падэшваў па друзе і бітым шкле, якім тут усеяна літаральна ўсё.

Сонечныя промні гарэзліва гуляюцца з ім, спараджаючы хутказменлівую мазаіку зіхацення.

Брату Зосіму цяжка да канца ўпэўніцца, што мінулае ўжо стала мінулым. Што ён прымаў у тым мінулым непасрэдны ўдзел. Што ён нават быў лепшым байцом свайго ўзводу выведкі, а потым стаў яго камандзірам.

Гэта здарылася пасля таго, калі ім загадалі ліквідаваць агнявы пункт, размешчаны ў дзіцячым замку. Штурмавая група брата Зосімы была ўжо пятай пачынаючы ад раніцы: папярэднія чатыры не вярнуліся і не выканалі заданне.

Калі яны патрапілі ў сектар абстрэлу, трое адразу прыпалі да зямлі – і былі ўмомант расшкуматаныя кулямётнай чаргой.

Брат Зосіма ў гэты самы момант устаў у поўны рост.

Кулямётчык не ўлічыў, што брат Зосіма за час свайго манаства паспеў атрымаць пэўныя навыкі, якія нечакана аказаліся карыснымі. Напрыклад, ён большменш навучыўся не баяцца смерці.

Брат Зосіма таксама атрымаў раненне, у нагу. Але папярэдне паспеў кінуць гранату. Усё, як ён і разлічваў.

Яму балюча згадваць пра тое, як ён дабіваў кантужанага кулямётчыка нажом у артэрыю, дапоўзшы да яго пазіцыі. Але такі быў загад.

Менавіта ў той дзень асобная мотастралковая брыгада спецыяльнага прызначэння, дзе служыў брат Зосіма, прабіваючы ўсе заслоны, авалодала цэнтрам гэтага горада – пасля двух тыдняў цяжкіх баёў, якія знішчылі ў ім усё жывое. Горада, які быў для яго родным.

Брат Зосіма схіляецца ля парэшткаў зробленага з пластыкавых бутэлек пудзеля каля дзіцячай пляцоўкі

(якое дзіва, што ён ацалеў!) і плача. Бы Ерамія, плача па занядбаным месце, і бы Давід – па сваіх грахах і па тым, чаго ўжо не адкруціш назад.

Цяпер ён мае сваіх дэманаў мінулага – альбо, дакладней, прусакоў, якіх не так лёгка і вытруціць. Ён верыць, што яна здатная яму дапамагчы. Прабіць яго набрынялую гноем свядомасць і стварыць той канал, па якім ягонае пакаянне будзе сцякаць у рэкі міласэрнасці Божай.

– Ты, Марыя, не засталася ў бездані правінаў, куды ты ўпала, але чыстымі думкамі і цнатлівымі дзеяннямі над усе спадзяванні ўзнялася на вышыню і здзівіла анёлаў, – прамаўляе пра сябе брат Зосіма.

Ён моліцца пра тое, каб адчуваць боль забітых ім як свой боль. Але пакуль што гэтага яму не дадзена. Дадзеная толькі нячуйнасць.

Брат Зосіма ідзе па вуліцах свайго роднага горада і думае, як распавесці ёй пра ўсё гэта.

Ён спадзяецца, што яе пазнае. Балазе, не так і шмат часу прайшло пасля іх апошняй сустрэчы.

Натуральна, брат Зосіма не ведае, дзе яе шукаць. Таму рушыць знаёмым маршрутам – да царквы, пераўтваранай некалі ў гандлёвы цэнтр.

Вуліцу, паабапал якой руіны, перагарадзіў кот. Гэта нашчадак тых хатніх улюбёнцаў, якія былі вымушаныя здзічэць. Праз пару пакаленняў найтрывушчыя з іх ужо цалкам адаптаваліся да жыцця ў натуральных умовах.

Дзіка ашчэрыўшыся на прыхадня і праціяўшы яго драцяным позіркам, кот рушыць далей па сваіх справах. Ад атакі куды большага па сваіх памерах драпежніка ён вырашыў устрымацца.

У нейкі момант брат Зосіма чамусьці ўтаперваецца ў блакітнаватыя цюлевыя занавескі, што дасюль упрыгожваць акно на першым паверсе блочнай пяціпавяр-

хоўкі. Наступныя паверхі практычна адсутнічаюць, замест іх – ірваныя абрысы. А тут на падваконні за шыбай стаіць гаршчочак з кактусам. Магчыма, нават яшчэ жывым.

Купал царквы абрынуўся разам з дахам, але скляпенні збольшага ацалелі – калі не лічыць некалькіх невялікіх прабоінаў. Дзякуючы ім гукі ўнутры спусцелага храму падаюцца яшчэ больш дзіўнымі. Кожны крок брата Зосімы спараджае рэха, якое ў гэтых акустычных варунках пачынае тыражаваць самое сябе.

Унутры – паваленыя прылаўкі, абломкі шыльдаў, чыесьці боты, торбачкі, разбітыя сняжаны. Сляды крыві на рэкламным банеры птушкафабрыкі. На сценах выдрапаныя непрыстойныя надпісы, абліччы святых выкарыстоўвалі ў якасці мішэняў.

Адсутнасць людзей у гэтым месцы нейкая асабліва ўжо адчувальная. Ажно становіцца вусцішна.

Праціскацца ўперад даводзіцца з асцярожнасцю. Але, нягледзячы на гэта, брат Зосіма падае, калі яго нага трапляе ў парожняе вядро, і яно пачынае каціцца. Устае, аглядае свежую драпіну.

Ён думае, з чаго пачне размову, калі сустрэне яе, якой будзе ягоная першая фраза. Раней ён ніколі на гэты конт не хваляваўся, але шмат што ўжо паспела змяніцца.

Паверх аблупленых і апаскуджаных фрэсак ён раптам заўважае дзіцячыя малюнкі. Гэта лініі, выведзеныя белай крэйдай, потым схематычныя фігуры людзей і жывёлаў, урэшце – нейкія знакі, якія трохі нагадваюць літары.

Брат Зосіма ўважліва разглядае тую крамзаніну. Для яго гэта сведчанне, што ён не памыліўся адрасам.

І сапраўды, ускудлачаныя валасы на патыліцы раптам адчуваюць нечы позірк.

– Пагала, ву, пяпька які плыйшоў, балада, – словы нібы іскрацца, адбіваючыся ад прадзіраўленых скляпенняў

Брат Зосіма абарочваецца і бачыць у алтарнай частцы дзяўчынку гадоў трох. Ашалеўшы ад цікаўнасці, яна подбегам рушыць яму насустрач, зусім не баючыся незнаёмца.

Ён стаіць нерухома, нібы здранцвеўшы, але потым усё ж выціскае з сябе ўсмешку.

Дзяўчо хапае яго за крысо, патрабуе, каб ён узяў яе на рукі. І адразу ж пачынае кудлаціць ягоную бараду. Ускарасквaецца на карак, выпускаючы ручаінкі смеху.

– Цязал мой лёгкі, – прыгаворвае пры гэтым яна. – Цяжал мой лёгкі, ялмо маё любае.

# Малітва блаславёнай Марыі Камсамольскафасфацкай, занатаваная ігуменам Зосімам

У імя Айца і Сына і Святога Духа. Амін.

Божа! у гэтай даліне нічога болей не пакідае ценю
святло тут роўнае і бляклае пляскаты пляскаты свет
нібыта ў больніцы якая вядома ж не смерць
дзе марна чакаць на збавенную цемру на сон
як не выпадае чакаць і на абуджэнне

Божа, Які ні памёр для мяне
ні ўваскрос
што мне рабіць са свіннямі
якія абсмоктваюць мае збялелыя косці?
яны зусім не падобныя да леапардаў
што мне рабіць з гэтым днём
які Ты мне так неабачліва даў?
што мне рабіць з гэтым небам? ветрыкам? птушкамі?

Божа! навошта мне дадзены вочы
няўжо на тое кабназіраць
як зяленіва першых парасткаў
пакрываецца скарынкай ільду
як чарнеюць пухнатыя пупышкі надзеі
як зерне памірае не прынёсшы плоду
колькі можна трываць імпатэнцыю часу?

Божа! несупынны мой рух
адно адчайная
спроба застацца на месцы
на месцы тут і нідзе
дзе твой боль ніколі не стане маім паратункам
а мой боль я нашу на грудзёх
як медаль ветэрана
дзе лакуны
ўтвораныя ў целе тваім адсутнасцю
цела майго
ты ніколі не дазволіш запоўніць
дзе туга
нібы змесціва страўніка
ў мыйніцы прыбіральні ў клубе, куды ты дзівам ад іх выслізнула, каб
ты блюеш а яе становіцца ўсё болей і болей

Божа! навучы нас не лавіць рэчаіснасць словамі
прыбіваючы трафеі да сцен
нашых panылых каморак
бы постары кіназорак у інтэрнаце ПТВ
навучы нас што яна як рака
а яе сваім грэбаным сачком не зловіш
хіба толькі глею камяк ці парожнюю пляшку
ці гандон які

Божа! усё рассыпаецца ад дотыку маіх пальцаў
рэчы пачуцці і людзі
як рассыпаюцца ў парахню мёртвыя матылькі
шурпатых учэпістых пальцаў
прызвычаеных несупынна сціскаць
паветра тут густое і вязкае нібы жэле
у ім не стаяць і не падаць
не караскацца і не ляцець
адно канвульсіўныя павольныя рухі
мы як мухі заціснутыя між аконнымі рамамі
не здатныя ані вызваліцца ані памерці

Божа! дай нам святло Тваё і Тваю цемру
дакраніся да нас скальпелем быцця
пішы ім словы Твае на счарсцвелых скрыжалях мозгу
і з гэтых камянёў Госпадзе ствары дзяцей Сваіх
з гэтых камянёў

Божа, будзь з тымі, хто шукае і не знаходзіць. Амін.

# Змест

У афармленні вокладкі
былі выкарыстаныя фота Таццяны Ткачовай
з серыі «Маластоўка».

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 112

**Сін** Ільля

LIBIDO

Выданне 2-е

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Л. Наліўка*
Дызайн вокладкі *С. Ждановіча*
Вёрстка *С. Кандрацэнкі*
Карэктар *Л. Наліўка*

Падпісана да друку 26.09.2019. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 6,48.
Ул.-выд. арк. 4,22. Наклад 60 ас. Зак. 354.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.